## Змест

# СВЯТЫЯ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ. ЖЫЦЦЕАПІСАННІ.

**Трапар Сабору Беларускіх святых, глас 5**

Почти Господь Белорусский край / святыми Ему благоугодившими: / святители, мученики, преподобными и праведными, / вёрно Господеви послужившими / и мзду трудов приявшими; / к темже ныне и мы вопием: / о нас молитеся ко Господу, / да в вере и дёлех плод добр принесем.

Ушанаваў Гасподзь Беларускі край / святымі, што добра дагадзілі Яму: / свяціцелямі, мучанікамі, прападобнымі і праведнымі, / якія верна Госпаду паслужылі / і ўзнагароду за подзвіг атрымалі; / да іх жа цяпер і мы ўсклікаем: / за нас маліцеся Госпаду, / каб мы ў веры і справах плод добры прынёслі.

**Кандак Сабору Беларускіх святых, глас 3**

Божии угодницы Белорусския земли / ныне со дерзновением предстоят Престолу Святыя Троицы / н невидимо за ны молятся Богу о крае нашем, / прося нам мир и велию милость.

Божыя ўгоднікі Беларускае зямлі / сёння са спадзяваннем стаяць перад Прастолам Святой Троіцы / і нябачна за нас моляцца Богу і за край наш,/просячы нам міру і вялікай міласці.

# ПРА ЎШАНАВАННЕ СВЯТЫХ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

На працягу тысячагадовай гісторыі Праваслаўнай Царквы ў Беларусі ў розныя часы праслявіліся сваім жыццём угоднікі Божыя, якія сталі дастойнымі ўдзельнікамі Яго нябеснай славы. Для нас, нашчадкаў, святыя пакінулі ў спадчыну свой духоўны вопыт, шлях служэння, павучанні, рукапісы, кнігі. Святыя паказваюць

нам узор служэння, і ўзор гэты блізкі і даступны для нас, бо здзяйснялі служэнне блізкія і дарагія нам людзі — нашы святыя продкі: «свяціцелі, мучанікі, прападобныя і праведныя».

У трапары Сабору Беларускіх святых спяваецца: «Ушанаваў Гасподзь Беларускі край святымі, што добра дагадзілі Яму». Сапраўды, вялікай міласцю Божай для беларускага народа з'яўляецца праслаўленне святых, якія падзвізаліся на служэнне Госпаду ў зямлі нашай. Праз малітоўныя звароты да святых і іх заступніцтва Гасподзь паказвае народу шлях да пакаяння і збаўлення.

Для кожнага з беларускіх святых устаноўлены дзень памяці, акрамя таго, у трэцюю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы (Троіцы) адзначаецца святкаванне Сабору Беларускіх святых, усталяванае 3 красавіка 1984 года па хадайніцтву Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта.

Самымі старажытнымі ў Беларусі з'яўляюцца Полацкая і Тураўская епархіі, таму і першымі вядомымі нам беларускімі святымі былі святыя Полацкія і Тураўскія. Сярод іх свяціцелі Міна, Дзіянісій і Сімяон, епіскапы Полацкія, свяціцелі Кірыл і Лаўрэнцій, епіскапы Тураўскія. Яны ўшаноўваюцца як першыя архіпастыры, што сваім жыццём і служэннем спрыялі дабрадатнаму распаўсюджванню веры Хрыстовай у першыя вякі пасля Хрышчэння зямлі Беларускай. У гэты ж перыяд свой манашаскі подзвіг здзяйснялі прападобныя Марцін Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, Елісей Лаўрышаўскі.

Калі галоўнай свяціцельскай мэтай заўсёды з'яўляецца ўсталяванне і ўмацаванне Царквы Хрыстовай, то насельнікі манастыроў, апрача асаблівага малітоўнага подзвігу, неслі абавязак духоўнага асветніцтва. Таму мы і называем прападобную Еўфрасінню духоўнай асветніцай беларускага народа.

У XII стагоддзі існавала яшчэ адна старажытная епархія, у склад якой уваходзілі беларускія землі, — Смаленская. Тут праславіўся сваімі богаўгоднымі

справамі і праведнасцю дабраверны Расціслаў, князь Кіеўскі і Смаленскі. Ім былі пабудаваны мноства храмаў і манастыроў на нашых землях, сваім жыццём ён яўляў асабісты прыклад набожнасці і дабрадзейнасці.

У XIII - XIV стагоддзях хрысціянская вера распаўсюджвалася на паўночназаходніх землях Вялікага княства Літоўскага. У той час здзейснілі свой мучаніцкі подзвіг святыя Антоній, Іаан і Яўстафій Віленскія. Іх мы ўшаноўваем як першых на Беларусі мучанікаў за Хрыста. І, відаць, не выпадкова пасля іх вызнаўчага подзвігу на землях Вялікага княства Літоўскага ўсталяваўся амаль 200-гадовы перыяд умацавання Праваслаўнай Царквы і росквіту асветы і адукацыі. У гэты перыяд Гасподзь праславіў праведную дзеву Юліянію Алынанскую, пра зямное жыццё якой амаль не захавалася звестак, і гэта таксама не выпадкова. Таму што ў яе вобліку мы бачым вобраз многіх беларускіх жанчын-хрысціянак, якія праведна і набожна здзяйснялі і цяпер здзяйсняюць свой хрысціянскі подзвіг.

Цяжкім выпрабаваннем для Праваслаўя стаў перыяд уніі. Стойкасцю і адданасцю веры праваслаўнай у гэты час праславіліся прападобнамучанікі Афанасій Брэсцкі і Макарый Пінскі, праведная Сафія Слуцкая, прападобны Ляонцій Віленскі.

Як нябеснага апекуна дзетак-хрысціян мы ўшаноўваем мучаніка дзіцятку Гаўрыіла Беластоцкага.

У перыяд уніі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, якое ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, засталася толькі адна праваслаўная епархія з цэнтрам у Магілёве. На чале гэтай епархіі стаяў святіцель Георгій (Каніскі). Ён рашуча адстойваў правы праваслаўных вернікаў, арганізаваў шырокую асветніцкую дзейнасць, клапаціўся пра духоўны і адукацыйны ўзровень свяшчэннаслужыцеляў і народа. Сваёй падзвіжніцкай дзейнасцю архіепіскап Георгій падрыхтаваў дабрадатную глебу для вяртання духавенства з уніі ў Праваслаўе.

Можна заўважыць, што ў гісторыі Царквы Хрыстовай мірныя і стваральныя перыяды чаргуюцца з перыядамі выпрабаванняў і ганенняў. Адпаведна з гэтым у мірныя часы найбольш праяўляецца подзвіг праведнасці і дабрадзейнасці, а ў часы ганенняў здзяйсняюцца подзвігі мучаніцтва.

Так, са спачынам у 1917 годзе праведнага Іаана Кармянскага звязваецца заканчэнне мірных часоў у гісторыі Царквы ў Беларусі. Пасля гэтага пачынаецца перыяд ліхалеццяў, калі мучаніцтва дзеля Хрыста прынялі тысячы людзей. Ганенні, накіраваныя супраць Царквы ў мінулым XX стагоддзі, па сваіх маштабах і жорсткасці цалкам параўнальныя з тымі праследамі, якія перажылі хрысціяне Рымскай імперыі ў I — пачатку IV стагоддзяў. Дзесяткі тысяч разбураных храмаў, сотні закрытых манастыроў, мільёны арыштаваных, заключаных у канцлагеры, высланых і расстраляных людзей — усё гэта стала жахлівым вынікам бязбожнай ідэалогіі, якая часова, як і ўсё, што прыўносіцца ад чалавека, «атрымала перамогу» ў XX стагоддзі.

Навамучанікі зямлі Беларускай яўляюць нам узор стойкага і бескампраміснага служэння на «ніве Хрыстовай» ва ўмовах масавых праследаванняў за веру праваслаўную. Абставіны арышту і смерці свяшчэннамучанікаў сведчаць, што ўсе яны сустрэлі пакуты з ісцінна хрысціянскай пакорай і мужнасцю, за што і атрымалі ад Госпада вянец жыцця вечнага, прыгатаваны ўсім, хто быў верны Яму да смерці. З іх ліку Гасподзь адкрыў нам лёсы навамучанікаў і вызнаўцаў Мінскай епархіі, якія былі праслаўлены ў Мінску ў 1999 годзе, а ў 2000-м далучаны да Сабору навамучанікаў і вызнаўцаў Расійскіх.

У апошнія гады да ліку Святых зямлі Беларускай быў далучаны **Макарый, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі**, забіты татарамі ў 1497 годзе пад Мазыром.

**Свяшчэннамучанікі Паўлін, епіскап Магілёўскі,**

быў праслаўлены ў 2000 годзе; **Мітрафан, архіепіскап Астраханскі і Іаан, архіепіскап Рыжскі**, праслаўлены ў 2002 годзе. Яны пэўны час служылі ў Беларусі і загінулі за веру ў часы сталінскіх рэпрэсій.

У 2002 годзе да ліку Сабору Беларускіх святых далучаны свяшчэннамучанік **архідыякан Нікіфар (Кантакузен)**, які быў афіцыйным прадстаўніком Канстанцінопальскага патрыярха ў Вялікім княстве Літоўскім і праявіў мужнасць у абароне Праваслаўя ў перыяд заключэння Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года.

У 2002 годзе да Сабору Беларускіх святых далучаны святыя, якія звязаны з нашымі землямі паходжаннем, але іх служэнне праходзіла за межамі сучаснай Беларусі.

**Дабраверны Барыс, князь Тураўскі,** жыў у XII стагоддзі, быў князем Тураўскім і Пінскім. Ушаноўваецца ён таксама ў саборы Уладзіміра Валынскіх святых.

Дабраверная княгіня Еўпраксія Пскоўская, верагодна, паходзіла з Полацка. Асабліва ўшаноўваецца ў Пскоўскім ІаанаПрадцечанскім храме, дзе знаходзіцца яе грабніца.

Прападобны Генадзій Магілёўскі нарадзіўся ў Магілёве ў XVI стагоддзі. Пахаваны ў заснаваным ім Спаскім Любімаградскім манастыры, што на мяжы Яраслаўскай і Кастрамской абласцей Расіі.

Прападобны Фёдар Астрожскі паходзіў з роду князёў Турава-Пінскіх. У 1441 годзе прыняў манашаства ў Кіева-Пячэрскім манастыры, дзе і спачыў у 1483 годзе.

Прападобная Харыціна, княжна Літоўская, паходзіла з роду князёў Літоўскіх. Спачыла ў 1492 годзе, нятленныя мошчы яе знаходзяцца ў Наўгародскай царкве ў гонар святых апосталаў Пятра і Паўла.

За апошнія гады, дзякуючы архіўным пошукам, да ліку беларускіх святых далучаны свяціцель Іаасаф (Жавахаў), які ў 1934 годзе ўзначальваў Магілёўскую епархію, а ў трагічным 1937 быў асуджаны і расстраляны па распараджэнню бязбожнай улады.

У 2004 годзе ў Мікалаеўскім храме горада Петрыкава

адбылося праслаўленне **свяшчэннамучаніка Іаана (Пашына),** ураджэнца тых месцаў. Ён у сане вікарнага епіскапа служыў на Гомельшчыне і таксама прыняў пакутніцкую смерць за веру ў 1930-я гады.

6 лютага 2006 года мы сталі сведкамі і саўдзельнікамі праслаўлення ў ліку святых угодніцы Божай **блажэннай Валянціны Мінскай,** якая ў цяжкія для Царквы часы захавала ў душы сваёй неацэнны скарб веры, памнажала яго, перадаючы бліжнім і запальваючы любоўю Божай людскія сэрцы. Праслаўленне ўгодніцы Божай у ліку Сабору Беларускіх святых адбылося праз 40 гадоў пасля яе спачыну.

У 2007 годзе Царква праславіла двух **навамучанікаў Віцебскай епархіі — свяшчэннамучаніка Мікалая і святога вызнаўца Уладзіміра, а таксама прападобную Манефу Гомельскую,** жыццёвы шлях якой таксама прыпаў на часы панавання атэізму.

У 2009 годзе да Сабору Беларускіх святых далучаны яшчэ **14 святых,** якія былі кананізаваны паводле прадстаўлення іншых епархій Рускай Праваслаўнай Царквы, але іх жыццё і служэнне было звязана з нашай зямлёй.

У 2010-2011 гадах сонм навамучанікаў папоўніўся імёнамі **прасвітараў Аляксія Лельчыцкага, Канстанціна Шаркаўшчынскага і Кіпрыяна Ятранскага,** якія пацярпелі за веру Хрыстову ў першай палове XX стагоддзя.

## ПРАПАДОБНЫ ГЕНАДЗІЙ МАГІЛЁЎСКІ

***Памяць 23* студзеня/5 лютага**

**Трапар прападобнаму Генадзію Магілёўскаму, глас 4**

Яко пустыннолюбивая горлица, / от суетнаго и

многомятежнаго мира в пустыню удалився, / чистотою и говением, молитвами н труждением прославил еси Бога в душе и телеси своем, / преподобне отче Геннадие, града Могилева прозябение. / И тако благочестно пожив, / явился еси, преподобне Геннадие, пустыни Любимоградския украшение, / иноком честнаго жития образ / и теплый молитвенник за всех, / притекающих к тебе с верою.

Як пустынелюбная галубка, / ад мітуслівага і многамяцежнага свету ў пустыню аддаліўшыся, / чысцінёю і постам, малітвамі і працаю праславіў ты Бога ў душы і целе сваім, / прападобны Генадзіе, у горадзе Магілёве народжаны. / І так набожна пражыўшы, / з'явіўся ты абіцелі Любімаградскай украсаю, / для манахаў набожнага жыцця прыкладам / і цёплым малітвеннікам за ўсіх, / хто звяртаецца да цябе з вераю.

Святы Генадзій нарадзіўся ў пачатку XVI стагоддзя ў горадзе Магілёве. Быў адзіным сынам у заможнай сям'і «вялікага пана» Івана і яго жонкі Алены. Яшчэ ў дзяцінстве Грыгорый (імя прападобнага пры хрышчэнні) вызначаўся богабаязнасцю, любоўю да храма, з радасцю наведваў царкоўныя богаслужэнні, спяваў на клірасе. У юнацтве ён часта і надоўга пакідаў бацькоўскі дом, каб «на крыле царкоўным жывучы, дзень і ноч маліцца Богу». Бацькі баяліся страціць адзінага сына — сваю апору ў старасці, дакаралі яго за раўнадушша да высокага стану сям'і, жадалі яму багацця і зямнога шчасця.

Аднак Грыгорый цвёрда вырашыў прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і людзям у манашаскім чыне. Пакінуўшы бацькоўскі дом, вандраваў ён па землях Вялікага княства Літоўскага, церпячы ад голаду, холаду і злых людзей. Неўзабаве дайшоў ён да Масквы, дзе сустрэўся з юнаком Фёдарам; разам яны пачалі шукаць месца для манашаскага подзвігу. Пабываўшы ў Ноўгарадзе, адправіліся затым у Свірскі Троіцкі

манастыр, аднак прападобны старац Аляксандр Свірскі не пакінуў Грыгорыя ў абіцелі з-за яго маладосці, а накіраваў да прападобнага Карнілія Комельскага, у Валагодскія лясы. Празорлівы Карнілій прыняў Грыгорыя ў Комельскую Увядзенскую абіцель і праз нейкі час пастрыг у манашаскі сан з імем Генадзій. Жывучы ў манастыры, інак выпрабоўваў сябе постам і цяжкай фізічнай працай, «служыў у поварні, пякарні», выконваў іншыя паслушанні.

У 1528 годзе старац Карнілій разам з Генадзіем, узяўшы з сабой «мала ад брацііі», аддаліліся на Сурское возера, каб маліцца ў «адзіноце і цішыні». Штодзённыя малітвы, трыванне і пост суправаджаліся цяжкай фізічнай працай па высяканню лесу, капанню сажалак для асушэння балоцістай мясцовасці. Так у бязлюдным дзікім месцы ўзнік Праабражэнскі манастыр, які пазней сталі называць Спаса-Генадзіевым. Падзвіжніцкае і мірнае жыццё прыцягвала і іншых да супольнага манашаства пад ігуменствам прападобнага Карнілія.

У 1529 годзе па просьбе маскоўскага князя старац Карнілій вярнуўся ў ранейшы Комельскі Увядзенскі манастыр, пакінуўшы прападобнаму Генадзію запавет далей мудра кіраваць манастырскім жыццём і ўзвесці царкву ў гонар Праабражэння Гасподняга. Запавет неўзабаве быў выкананы, у манастыры быў пабудаваны драўляны Спаса-Праабражэнскі храм, крыху пазней быў узведзены яшчэ адзін — у імя прападобнага Сергія Раданежскага. Апекунамі абіцелі сталі вялікі маскоўскі князь Васілій III і яго жонка, якая ахвяравала «святыя іконы, рызы і іншае неабходнае для службы царкоўнай».

Святы Генадзій з любоўю і руплівасцю клапаціўся пра ўладкаванне цэркваў, з асаблівай стараннасцю займаўся пісаннем ікон. Адначасова нараўне з іншымі інакамі працаваў у поварні, калоў дровы, капаў калодзежы, выпякаў прасфоры. Прападобны Генадзій карыстаўся аўтарытэтам як настаяцель і настаўнік інакаў, яго

паважалі за строгасць жыцця, глыбокую набожнасць, гарачую любоў да Госпада і бліжніх. Ён нястомна накіроўваў брацію на ўзрастанне ў духу, сам падаючы прыклад малітоўнасці, пасніцтва і змірэння. Святы насіў на целе жалезныя вярыгі — «крыжы жалезныя, цяжкія ланцугі». Не забываў ён і простых пасялян, наведваючы дамы іх, заклікаў жыць у страху Божым і спадзявацца на Яго міласэрнасць.

Прападобны Генадзій атрымаў ад Бога дар празорлівасці і ацалення хворых. Так, знаходзячыся ў Маскве, ён прадказаў баярыні Анастасіі Раманавай, што яна будзе царыцай, што і спраўдзілася ў 1547 годзе. Па малітвах святога Генадзія каля 1559 года атрымаў ад Госпада ацаленне епіскап Валагодскі і Вялікапермскі Кіпрыян.

Спачыў прападобны Генадзій 23 студзеня 1565 года і быў пахаваны паслядоўнікамі і вучнямі ў манастырскім Спаса-Праабражэнскім саборы Кастрамы. Перад спачынам ён прадыктаваў насельнікам «Наказ», які не страціў духоўнай вартасці і ў наш час. У ім маюцца такія павучанні: «Спрэчак брат з братам не заводзьце, імкніцеся да святла, а цемры сцеражыцеся. Непрыстойна вам варагаваць паміж сабою, бо хто варагуе і зласловіць, той Царства Нябеснага не ўнаследуе… Да чужой маёмасці не дакранайцеся і нічога не бярыце, бо збіранне ўласнай маёмасці вялікую шкоду прычыняе манаху, а душу вядзе да агню нязгаснага і мукі вечнай. Дык вы, дзеці мае, такога зла і бяздумнасці сцеражыцеся і іншым людзям нагадвайце гэтыя нашы словы».

Пасля праведнага спачыну прападобны стаў ушаноўвацца як мясцовашанаваны святы, а яго мошчы пахаваны пад спудам манастырскага сабора, сталі галоўнай святыняй абіцелі. У 1644 годзе, калі разбіралі драўляны Спаса-Праабражэнскі храм перад узвядзеннем на тым месцы новага мураванага, былі аднойдзены нятленныя мошчы святога Генадзія. У «Аповесці аб

аднойдзенні мошчаў» (канец 40-х гадоў XVII ст.) апісаны цуды, што здарыліся пры гэтай падзеі. 19 жніўня 1646 г. па благаславенню патрыярха Іосіфа адбылося царкоўнае праслаўленне прападобнага Генадзія, пасля чаго пачалося яго агульнацаркоўнае ўшанаванне.

Пасля асвячэння мураванага Праабражэнскага сабора раку з мошчамі ўнеслі ў храм і ўстанавілі ў Благавешчанскім прыдзеле. У XVIII стагоддзі мошчы знаходзіліся пад спудам храма, у спецыяльна ўсталяванай пячорнай царкве. У пачатку XIX стагоддзя над месцам пахавання ўстанавілі срэбную раку, вырабленую на сродкі жыхароў горада Любіма Яраслаўскай губерні. На рацы размяшчалася старажытная ікона святога ў дарагім акладзе. У манастыры захоўваліся рэліквіі, якія, паводле падання, належалі святому.

Жыціе прападобнага Генадзія складзена яго вучнем ігуменам Аляксіем. Яно ўключае апісанне 19 прыжыццёвых і пасмяротных цудаў святога. Яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя ў гонар прападобнага Генадзія быў узведзены храм у Кастрамскім крамлі, аднак ён пацярпеў у час пажару 1773 года і больш не аднаўляўся. У 1680-я гады складзена служба прападобнаму. У 1805 годзе ў Спаса-Генадзіевым манастыры ў імя прападобнага быў асвячоны прыдзел цёплага храма, які прымыкаў да Спаса-Праабражэнскага сабора. У XVII-XX стагоддзях Генадзій быў адным з найбольш шанаваных святых Кастрамской і Яраслаўскай губерняў. У Беларусі шчырым руплівым ушанавання памяці прападобнага Генадзія быў вядомы гісторык і педагог Еўдакім Раманаў (1855-1922). Па яго ініцыятыве іконы прападобнага былі напісаны для кафедральных сабораў Вільні, Магілёва і Гомеля.

У 1919 годзе кастрамскі Спаса-Генадзіеў манастыр быў закрыты распараджэннем савецкай улады. Сабор дзейнічаў як прыходскі храм да 1928 года. У 1920 годзе адбылося публічнае ўскрыццё мошчаў святога, іх размясцілі ў Яраслаўскім губернскім музеі. Далейшы лёс іх

невядомы. У 1964 годзе цёплую царкву з прыдзелам у імя прападобнага Генадзія разабралі для патрэб мясцовага калгаса. Але ўшанаванне святога Генадзія працягвалася і ў савецкі час. У1948 годзе ў ІаанаЗалатавустаўскім кафедральным саборы Кастрамы левы прыдзел быў пераасвячоны ў імя прападобнага. У 1995 годзе пачалося адраджэнне Кастрамскога Спаса-Генадзіевага манастыра. Праз пяць гадоў манастырская брація адслужыла першую літургію ў пабудаванай драўлянай царкве ў гонар прападобнага, якую ўзвялі каля паўразбуранага Праабражэнскага сабора. Побач знаходзіцца калодзеж, выкапаны, паводле падання, самім Генадзіем. Імя прападобнага Генадзія ўключана таксама ў Саборы Кастрамскіх (5.02) і Растова-Яраслаўскіх (5.06) святых. Прыходскі храм у імя святога Генадзія асвячоны ў вёсцы Ваўкавічы Чавускага раёна Магілёўскай епархіі.

## БЛАЖЭННАЯ ВАЛЯНЦІНА МІНСКАЯ

***Памяць 24 студзеня/6 лютага***

**Трапар блажэннай Валянціне Мінскай, глас 1**

От младенства восприявши веру Христову в сердце твое, / яко мудрая дева пронесла еси чрез все житие плоды ея, / темже и Христос дарова ти силу, / целити недуги немощствующих и колеблющихся. / Мы же, прославляюще тя, блаженная мати Валентино, вопием: / слава Давшему тебе крепость, / слава Прославльшему тя, // слава Спасающему всех призывающих тя.

З дзяцінства ўспрыняўшы веру Хрыстову ў сэрцы сваім, / як мудрая дзева, пранесла ты праз усё жыццё плады яе, / таму і Хрыстос даў табе сілу, / ацаляць хваробы нямоглых і тых, што сумняваюцца. / Мы ж, праслаўляючы цябе, блажэнная маці Валянціна, усклікаем: / слава Таму, Які даў табе моц, / слава Таму,

Які праславіў цябе, // слава Таму, Які спасае ўсіх, хто звяртаецца да цябе.

Нарадзілася блажэнная 7 красавіка 1888 года ў сям'і свяшчэнніка, настаяцеля Мікалаеўскага храма сяла Станькава Мінскага павета протаіерэя Фёдара Чарняўскага. Маці Валянціны, Соф'я Пятроўна, таксама паходзіла са святарскай сям'і, якая мела сваяцтва са старажытным праваслаўным родам князёў Свірскіх.

Атрымаўшы хрысціянскае выхаванне і адукацыю ў Мінскім жаночым духоўным вучылішчы, Валянціна рыхтавала сябе да педагагічна-асветніцкай дзейнасці. Аднак Першая сусветная вайна і рэвалюцыя парушылі мірны ход жыцця. У хуткім часе шквал ганенняў абрынуўся на Царкву, закрануўшы сем'і свяшчэннаслужыцеляў і актыўных вернікаў. Святарскія сем'і абкладаліся непасільным падаткам, іх пазбаўлялі харчовых картак, жылля, прымушалі дзяцей публічна адракацца ад веры і ад сваіх бацькоў. У пачатку 1930х гадоў муж Валянціны Фёдар Сулкоўскі, чыноўнік ваеннага ведамства, быў арыштаваны і высланы ў лагер, дзе і загінуў у 1933 годзе. Мучаніцкую смерць ад бязбожнай улады прынялі і мужы Ксеніі і Анны, родных сясцёр Валянціны. Муж Ксеніі, протаіерэй Фёдар Радакоўскі, расстраляны ў 1933 годзе, быў праслаўлены Беларускай Праваслаўнай Царквой як свяшчэннамучанік. Муж Анны, протаіерэй Васілій Сцяпура, арыштаваны ў 1933 годзе, прапаў у Казахстанскай высылцы.

Цяжкія жыццёвыя абставіны, перажытыя Валянцінай з вялікім душэўным болем, сталі гарнілам выпрабаванняў, у якім яна ўмацоўвалася духам. У пачатку 1930-х гадоў Валянціна аказалася прыкаванай да ложка цяжкай цялеснай немаччу. Пасля смерці ў 1937 годзе маці — Сафіі Чарняўскай, яна засталася адна. На той час былі пазакрываны ўсе цэрквы Мінскай епархіі, замерла царкоўнае жыццё. І вось у гэтых цяжкіх абставінах

Гасподзь зрабіў блажэнную Валянціну Сваёю выбранніцай, каб несці асаблівы малітоўны подзвіг і сведчыць, што «сіла Божая ў немачы здзяйсняецца» (2 Кар. 12, 9). Цялесная немач была ўспрынята ею як заклік Госпада выконваць апостальскае настаўленне: «…узносіць малітвы, прашэнні, маленні, падзякі за ўсіх людзей…» (1 Цім. 2,1). Блажэнная Валянціна была адной з тых нямногіх, хто ў суровыя часы атэізму застаўся верным Хрысту і Яго Царкве. У цяжкія часы агульнага бязвер'я, калі Царкву гналі і храмы разбуралі, яна захоўвала ў сваёй душы неацэнны скарб веры, памнажала яго, перадаючы людзям і запальваючы іх сэрцы любоўю Божай. Разам з асаблівым дарам малітвы Гасподзь дараваў ёй здольнасць бачыць будучыню і духоўна выпраўляць людзей, а таксама ацаляць іх цялесныя хваробы.

Да ляжачай старыцы неслі хворых дзяцей, прасілі памаліцца, прыходзілі за жыццёвымі і духоўнымі парадамі. Сваім прасветленым унутраным зрокам святая бачыла свет з духоўнага, нябачнага для большасці людзей боку — духам спазнавала жыццё людзей, не пытаючыся, хто і дзеля чаго прыйшоў, давала адказы на затоеныя пытанні. Гэтым яна сцвярджала ў людзях веру ў Госпада і ў Промысел Божы адносна кожнага чалавека. Матушка Валянціна суцяшала гаротных, разгубленых у жыццёвых абставінах, па яе малітвах Гасподзь вяртаў здароўе безнадзейна хворым людзям.

Блажэнная Валянціна была не толькі змірэннай малітоўніцай, але часам і праведнай выкрывальніцай. Нярэдка пад поглядам яе вачэй людзі ўсведамлялі сваю грахоўнасць і станавіліся на шлях пакаяння. Больш за трыццаць год праляжала блажэнная Валянціна ў цялеснай немачы. Гасподзь не пакінуў яе ў бядзе, паслаўшы добрых людзей, якія дапамагалі ёй пераадольваць жыццёвыя нягоды.

6 лютага 1966 года блажэнная Валянціна адышла да

Госпада, прычасціўшыся Святых Хрыстовых Тайнаў. Пахавалі яе на вясковых могілках вёскі Крысава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. І пасля спачыну святая не пакідала сваім заступніцтвам тых, хто прыходзіў да яе сціплай магілкі, якая стала для многіх месцам паломніцтва і гарачай малітвы…

6 лютага 2006 года, роўна праз сорак гадоў пасля спачыну, у Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы адбыўся чын царкоўнага праслаўлення святой Валянціны Мінскай і далучэнне яе да Сабору Беларускіх святых. У гэты дзень штогод адбываюцца шматлюдныя паломніцтвы да месца спачыну блажэннай. У 2007 годзе на месцы пахавання ўстаноўлены дубовы крыж з надпісам «Блажэнная Валянціна, малі Бога за нас». Іконы святой маюцца ва ўсіх храмах Мінскай епархіі, а таксама і па ўсёй Беларусі. У вёсцы Скорыцы Пружанскага раёна будуецца храм у імя святой блажэннай Валянціны Мінскай.

## СВЯЦІЦЕЛЬ ЛАЎРЭНЦІЙ, ЕПІСКАП ТУРАЎСКІ

***Памяць 29 студзеня/11 лютага***

### Трапар свяціцелю Лаўрэнцію Тураўскаму, глас 8

Всеблаженне Лаврентие, затворивый себе Господа ради в месте тесне / и в нем многа лета трудолюбие поживыи, / молися о нас ко Господу, яко да и мы от всякаго греха чувства затворше, / получим отверзение дверей милости Господни в День судный.

Усеблажэнны Лаўрэнціе, які зачыніў сябе дзеля Госпада ў месцы цёсным / і ў ім шмат гадоў працалюбна пражыў, / маліся за нас да Госпада, каб і мы, ад усякага граху пачуцці зачыніўшы, / атрымалі адкрыццё дзвярэй міласці Гасподняй у Дзень судны.

Пра жыццё і подзвіг свяціцеля Лаўрэнція захавалася няшмат звестак. Мяркуюць, што святы нарадзіўся ў горадзе Тураве ў 30-я гады XII стагоддзя. Верагодна, што ў адным з тураўскіх манастыроў ён пачаў сваё манашаскае служэнне. Праз некаторы час, імкнучыся да большых подзвігаў і строгага жыцця, святы Лаўрэнцій накіраваўся ў Кіеўскія пячоры. Памятаючы словы Спасіцеля: «Калі молішся, зайдзі ў пакой твой і, зачыніўшы дзверы твае, памаліся Айцу твайму, Які ў тайне; і Айцец твой, Які бачыць тайнае, аддасць табе яўна» (Мф. 6, 6), Лаўрэнцій вырашыў прыняць подзвіг затворніцтва, жыць у адзіноце, аддаючыся малітве. Аднак ігумен манастыра не благаславіў затворніцтва з прычыны маладосці і нявопытнасці інака.

Лаўрэнцій усё ж не адмовіўся ад сваіх намераў і, памаліўшыся, накіраваўся ў манастыр святога велікамучаніка Дзімітрыя Салунскага, непадалёк ад Кіеўскіх пячораў. Дзімітрыеўскі манастыр, заснаваны вялікім князем Ізяславам Дзімітрыем, з 1128 года быў падначалены Пячэрскаму архімандрыту. Там Лаўрэнцій жыў у затворніцтве, прызначыўшы сабе самы строгі рэжым, «умярцвяючы ўсе страсці малітвай і ўстрыманнем». Дзякуючы малітоўнаму подзвігу ды Божай міласці святы Лаўрэнцій атрымаў дар ацаляць хворых і выганяць бесаў.

Аднойчы прывялі да Лаўрэнція чалавека, апанаванага нячыстым. Доўгі час беснаваты знаходзіўся пры манаху, але не мог пазбавіцца ад наслання. Прападобны павёў няшчаснага ў Кіева-Пячэрскі манастыр шукаць там для яго збаўлення ад немачы. Моцна шалеў хворы па дарозе да манастыра, баяўся наблізіцца да святой абіцелі, дзе бесперапынна працягвалася малітва. Аднак увайшоўшы ў абіцель ды ўкленчыўшы перад Кіева-Пячэрскай іконай Божае Маці, ён цалкам пазбавіўся апантанасці.

Неўзабаве прападобны Лаўрэнцій скончыў дабрадзейнае служэнне ў Дзімітрыеўскай абіцелі ды зноў

вярнуўся ў Кіева-Пячэрскі манастыр. Глыбокая вера манаха Лаўрэнція і яго адданасць Царкве сталі прычынай пасвячэння яго ў епіскапскі сан. У 1184 годзе Кіеўскі мітрапаліт прызначыў Лаўрэнція епіскапам на Тураўскую кафедру, дзе ён стаў пераемнікам свяціцеля Кірыла Тураўскага — «Залатавуста, які ярчэй за ўсіх заззяў на Русі» (1183). Уладыка Лаўрэнцій займаў Тураўскую кафедру да 1194 года. На жаль, пра яго служэнне ў Тураве гістарычных звестак не захавалася. У жыціі згадваецца толькі факт прысутнасці «святога Лаўрэнція ў сане епіскапа на ўзвядзенні «папа Васілія са Шчакавіцы» ў ігумена Пячэрскага 23 лютага 1184 года. Магчыма, што Лаўрэнцій быў запрошаны як былы насельнік гэтай абіцелі.

Верагодна, што спачыў святы Лаўрэнцій 29 студзеня 1194 года ў Дзімітрыеўскай абіцелі, а пазней яго мошчы былі перанесены ў Антоніеву пячору Кіева-Пячэрскага манастыра. Зыходзячы з ранняга часу напісання жыція, можна меркаваць, што святога пачалі мясцова ўшаноўваць ужо неўзабаве пасля яго праведнага спачыну. У рукапісных святцах XVII стагоддзя сярод святых Бліжніх пячораў Кіева-Пячэрскай лаўры першым названы «святы Лаўрэнцій, епіскап Тураўскі — «падзвіжнік, які ацаляў хворых і прынудзіў беса вызнаваць сілу Пячэрскага манастыра». Памяць пра святога жыве ў Царкве і народзе Божым і сёння. Ён ушаноўваецца ў Саборы Кіева-Пячэрскім святых (11.10). У гонар свяціцеля Лаўрэнція асвячоны прыдзел у Свята-Міхайлаўскім саборы горада Мазыра, а 11 мая 2010 года ў Тураве закладзены першы камень у фундамент кафедральнага сабора ў гонар Кірыла і Лаўрэнція, епіскапаў Тураўскіх.

## СВЯЦІЦЕЛЬ СІМЯОН, ЕПІСКАП ПОЛАЦКІ

***Памяць 3/16 лютага***

## Трапар свяціцелю Сімяону Полацкаму, глас 3

Земли Полотския рождение и воспитание, / архиереиским саном почтен был еси, / святителю отче Симеоне, / Тверския епархии первопрестольниче, / паствы твоея добрыи устроителю, / немудрых наказателю, беззаконных обличителю. / Молися ко Господу // за всех почитающих память твою.

У зямлі Полацкай народжаны і выхаваны, / архіерэйскім санам ушанаваны быў ты, / свяціцелю ойча Сімяоне, / Цвярской епархіі першы епіскап, / паствы сваёй добры ахавальнік, / неразумных настаўнік і беззаконных выкрывальнік. / Маліся да Госпада // за ўсіх, хто ўшаноўвае памяць тваю.

Свяціцель Сімяон — сёмы з вядомых нам Полацкіх епіскапаў. Дакладная дата нараджэння, як і многія іншыя даты з жыцця гэтага ўгодніка Божага, нам невядомы. Верагодна, што нарадзіўся ён у горадзе Полацку ў 20-я гады XIII стагоддзя. Ранні перыяд жыцця, дзяцінства і юнацтва, на жаль, таксама схаваны ад нас за смугою сівой даўніны.

Толькі асобныя факты з жыцця свяціцеля дайшлі да нашага часу. Вядома, што паходжання ён быў знатнага, належаў да дынастыі полацкіх князёў. У дзяцінстве атрымаў добрую адукацыю і быў выхаваны ў духу хрысціянскай дабрадзейнасці, у любові да кніжнай навукі і працалюбнасці. Не дзіўна, што хутка набожны юнак пажадаў аддаліцца ад мітусні свету і па благаславенню Полацкага епіскапа Аляксія прыняў пострыг у адным з полацкіх манастыроў. Верагодна, пазней ён падзвізаўся ў Кіеўскіх пячорах, адкуль выйшлі многія царкоўныя іерархі.

Калі, дзе і пры якіх абставінах Сімяон быў рукапаложаны ў свяціцельскі сан, гістарычных

сведчанняў пакуль не знойдзена. Вядома толькі, што на Полацкую кафедру ён быў пастаўлены не раней за 1260 год. Пра дзейнасць епіскапа Сімяона ў той час даволі красамоўна сведчаць дзве гістарычныя крыніцы. Першая з іх — грамата, з якой вынікае, што ўладыка Сімяон быў заснавальнікам Мікалаеўскага манастыра на Лучне за Полацкам (абіцель праіснавала да XVI ст.). На падставе гэтай граматы можна меркаваць, што свяціцель клапаціўся пра храмабудаўніцтва і заснаванне манастыроў у родным Полацкім краі.

Другі дакумент — «Сімяона епіскапа Цвярскога наказ» — вельмі яскрава характарызуе душэўны склад самога ўгодніка Божага. У «Наказе» распавядаецца пра такі выпадак. Аднойчы полацкі князь Канстанцін, празваны Бязрукім, сабраў у сваіх палатах усю знаць і наладзіў бяседу. Сярод запрошаных быў і свяціцель Сімяон. Жадаючы выдзеліцца перад уладыкам сваёй праведнасцю і справядлівасцю, князь стаў дакараць і выкрываць у несумленнасці прысутнага там гарадскога суддзю. У канцы ён спытаў у духоўнага айца: «Дзе будзе суддзя на тым свеце?» — «Там жа, дзе і князь!» — быў адказ епіскапа. — «Але ж суддзя, — запярэчыў Канстанцін, — чыніць няправедны суд, бярэ хабар, людзей прадае, мучыць і ліхадзейнічае; пры чым жа тут я?» На гэта мудры архіпастыр адказаў: «Калі князь добры, богабаязны, людзей мілуе, праўду любіць — тады і суддзю прызначае добрага і богабаязнага, які мае ў сабе Божы страх, чыніць суд і жыве паводле Божага закону. Тады і князь, і суддзя ў раі будуць. Калі ж князь Божага страху не мае, не любіць хрысціян, не мілуе сірот, не шкадуе ўдоў — тады прызначае ён і суддзю злога, які не баіцца Бога, чыніць няправедны суд, клапоціцца толькі пра тое, як князю тавар здабываць, а людзей не беражэ. Такі князь нібы на людзей напускае вар'ята, даўшы яму меч, бо надзяляе ўладай чалавека злога і тым самым губіць людзей. Таму князь з суддзёй будуць у пекле».

З гэтага дыялогу відаць, якім шчырым клопатам пра сваю паству і непрымірымымі адносінамі да заганаў «моцных гэтага свету» вызначаўся свяціцель Сімяон. Тэкст сведчыць пра глыбіню і смеласць яго прапаведніцкага слова, пра шчырасць і адкрытасць нораву. «Наказ» пазней быў уключаны ў зборнік «Мярыла праведнае», які ў старажытнай Русі меў юрыдычна-прававы статус.

Аднак знаходжанне ўладыкі ў Полацку было не вельмі працяглым. Смуты і народныя хваляванні таго часу, гібель пляменніка, полацкага князя Таўцівіла, прымусілі свяціцеля пакінуць родную зямлю і перасяліцца ў Цвер, якая ў той час уваходзіла ў склад Полацкай епархіі. Там яго з радасцю і любоўю прыняў мясцовы князь Яраслаў Яраславіч, брат дабравернага князя Аляксандра Неўскага. Сімяон стаў першым епіскапам новастворанай Цвярской епархіі. Князь шчодра надзяляў яе землямі ды іншай маёмасцю.

Свяціцель Сімяон быў сапраўдным пастырам свайго статку. Ён быў міласцівы да пакрыўджаных і гаротных, уважлівы да інацкага і святарскага чыну. Адначасова ўладыка выкарыстоўваў усе магчымасці, каб адстойваць праўду і справядлівасць. Падчас архіпастырскага служэння Сімяона, а дакладна ў 1285 годзе, у горадзе Цвер быў закладзены велічны Спаса-Праабражэнскі сабор, першы белакаменны храм на ўсёй Русі, узведзены пасля мангола-татарскага нашэсця. Яго будавалі майстры з Полацка, што сведчыць, што ўладыка не парываў сувязей з радзімай. У 1935 годзе Спаса-Праабражэнскі храм быў узарваны; з 1992 года існуюць планы яго аднаўлення.

Прадчуваючы блізкую канчыну і ўжо не спадзеючыся ўбачыць завяршэнне будаўніцтва, епіскап-старац асвяціў саборны прыдзел, каб мець магчымасць здзяйсняць там богаслужэнні.

Свяціцель мірна спачыў у 1289 годзе, у дзень памяці свайго нябеснага апекуна — святога праведнага Сімяона

Богапрыімца, і быў пахаваны ў тым жа Спаса-Праабражэнскім саборы. Да сённяшняга дня захавалася толькі невялікая часцінка мошчаў святіцеля Сімяона. Яна захоўваецца ў цвярскім гарадскім саборы. Іконам святіцеля Сімяона можна пакланіцца ў храмах Полацка, Мінска, Заслаўя, Лагойска.

## СВЯЦІЦЕЛЬ ГЕОРГІЙ, АРХІЕПІСКАП МАГІЛЁЎСКІ І БЕЛАРУСКІ

**Памяць *13/26 лютага і 24 ліпеня/6 жніўня***

### Трапар свяціцелю Георгію Магілёўскаму, глас 3

Столп Православия и учитель благочестия был еси,/ святителю отче наш Георгие, / многи скорбн и гонения претерпел еси, богомудре, паству свою управляя, / ко спасенню всех наставил еси. / Церкве Белорусския похвало и града Могилева украшение, / моли Христа Бога, // да утвердит отечество наше в благочестии и спасет души наша.

Стаўпом Праваслаўя і настаўнікам набожнасці быў ты, / свяціцелю ойча наш Георгіе. / Многа скрухі ды ганенняў перацярпеў ты, багамудра паствай сваёй кіруючы, / усіх на шлях спасення наставіў ты, / Царквы Беларускай пахвала і горада Магілёва ўкраса, / малі Хрыста Бога, // каб умацаваў Бацькаўшчыну нашу ў набожнасці і спас дўшы нашы.

Архіепіскап Георгій паходзіў са старажытнага набожнага роду ўкраінскіх дваран. Нарадзіўся ў горадзе Нежыне на Чарнігаўшчыне 20 лістапада 1717 года і ў хрышчэнні быў названы Грыгорыем. Ва ўзросце 11 гадоў будучы свяціцель паступіў у знакамітую Кіева-Магілянскую акадэмію, поўны курс якой скончыў «з асаблівай пахвалою». Ён валодаў выключнымі

здольнасцямі і нястомнай працаздольнасцю, выяўляў асаблівую схільнасць да багаслоўя і філасофіі, дасканала валодаў лацінскай, польскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай і нямецкай мовамі. У 27 гадоў малады вучоны вырашыў прыняць манашаскае званне. Пострыг з імем Георгій адбыўся ў Кіева-Пячэрскай лаўры ў 1744 годзе. За асаблівы дар прапаведніцтва ўжо праз год Георгій быў прызначаны выкладчыкам красамоўства, а затым прафесарам філасофіі і багаслоўя. На гэтых пасадах ён праявіў сябе як таленавіны вучоны-педагог і адміністратар. У 1752 годзе ён прызначаны рэктарам Магілянскай акадэміі і ўзведзены ў сан архімандрыта Кіева-Брацкага вучылішчнага манастыра.

Служэнне Георгія Каніскага на педагагічнай ніве было надзвычай паспяховым. Але пасля спачыну Магілёўскага епіскапа Іераніма Ваўчанскага ён даў сваю згоду заняць Беларускую кафедру. Гэта быў самаахвярны крок, бо той час, другая палова XVIII стагоддзя, быў найцяжэйшым для праваслаўных беларусаў. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай заставалася толькі адна праваслаўная епархія з цэнтрам у Магілёве. У афіцыйных колах Рэчы Паспалітай ужо абмяркоўвалася пытанне пра ліквідацыю і гэтай епархіі і далучэнне паствы да ўніяцкай Полацкай епархіі. Аднак кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III павінен быў выконваць падпісаныя ім умовы «Вечнага міру» 1686 года, якія гарантавалі абарону правоў праваслаўных. Дзякуючы гэтай акалічнасці Магілёўская епархія засталася праваслаўнай.

20 жніўня 1755 года адбылася хіратонія архімандрыта Георгія ў епіскапскі сан з прызначэннем на Магілёўскую кафедру. Калі ён прыбыў у свой кафедральны горад, то нават радасная і ўрачыстая сустрэча, якую наладзіла магілёўская паства, не схавала ад вачэй свяціцеля жахлівага заняпаду, выкліканага доўгімі гадамі прыгнёту і ганенняў на Праваслаўе. Аднак змрочная рэчаіснасць не напалохала епіскапа. З гэтага часу ён стаў абаронцам

Праваслаўя не толькі ў сваёй епархіі, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Свяціцелю дапамагалі цвёрдая воля, энергічны характар, глыбокае веданне польскай і беларускалітоўскай гісторыі, грамадзянскага права і судовай справы.

Адраджэнне царкоўнага жыцця свяціцель Георгій пачаў з рэлігійнамаральнага выхавання, адукацыі духавенства і народа. У 1757 годзе ён ініцыяваў заснаванне пры Магілёўскім Мікольскім манастыры друкарні, у якой двойчы перавыдаў скарочаны «Катэхізіс» архіепіскапа Феафана Пракаповіча ва ўласным перакладзе «на рускі дыялект». «Катэхізіс» быў распаўсюджаны сярод простага народу. У дапамогу святарству выйшаў таксама перакладзены свяціцелем «Зборнік павучальных слоў» (1786).

Пры Магілёўскім Спаскім манастыры ўладыка Георгій заснаваў школьныя класы, пераўтвораныя ў 1759 годзе ў духоўную семінарыю. Пазней свяціцель садзейнічаў адкрыццю духоўных вучылішчаў у Магілёве, Гомелі, Быхаве, Чачэрску, Рагачове, Оршы, Мсціславе. Клапаціўся ён і пра будаўніцтва новых храмаў, пры ім быў асвячоны кафедральны Спаса-Праабражэнскі сабор у Магілёве (1762), там жа ўзведзены будынкі духоўнай кансісторыі і духоўнай семінарыі.

Епіскап Георгій рашуча змагаўся за правы праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Ён склаў і падаў каралю «Мемарыял аб крыўдах праваслаўным», у якім прывёў спіс каля 200 цэркваў, забраных уніятамі і каталікамі. Трывогу за лёс Праваслаўя ў Польшчы ён выказаў, будучы на каранацыі імператрыцы Екацярыны II у Маскве (1762), а таксама ў Варшаве, падчас аўдыенцыі ў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1765). Свяціцель Георгій прымаў удзел у пасяджэннях сейма Рэчы Паспалітай, распрацоўваў артыкулы адносна становішча праваслаўных, спрыяў выпрацоўцы «Вечнага трактату» 1768 года, які дэклараваў праваслаўным правы,

роўныя з каталікамі.

Актыўнасць свяціцеля Георгія не магла не выклікаць раздражнення і нянавісці з боку праціўнікаў. У 1759 і 1760 гадах былі зроблены замахі на яго жыццё. У 1768 годзе, калі зноў узмацніўся пераслед праваслаўных, епіскап вымушаны быў выехаць у Смаленск. Ён знаходзіўся там да 1772 года, падтрымліваючы сувязь са сваёй паствай праз перапіску і духоўныя настаўленні. У той час, клапоцячыся пра адукацыйны ўзровень духавенства, разам са Смаленскім епіскапам Парфеніем ён склаў кнігу пад назвай «Пра абавязкі прасвітараў прыходскіх», якая была надрукавана ў 1776 годзе.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772) епіскап вярнуўся ў Магілёў. У склад абноўленай епархіі ўвайшлі далучаныя да Расіі землі Беларусі з Магілёвам, Оршай, Мсціславам і Рагачовам. Аўтарытэт уладыкі значна паўплываў наімкненне ўніяцкага прыходскага духавенства і вернікаў вярнуцца ў Праваслаўе. У1783 годзе Георгій быў узведзены ў сан архіепіскапа і ўключаны ў склад Свяцейшага Сінода Расійскай Праваслаўнай Царквы. Карыстаючыся новымі магчымасцямі, свяціцель актыўна выступаў за свабодны пераход уніятаў у лона Праваслаўя. Яго намаганнямі ў 1793 годзе ў Слуцку была створана епіскапская кафедра, якая дала пачатак Мінскай епархіі. Адначасова архіепіскап Георгій працягваў клапаціцца пра ўладкаванне спраў Магілёўскай епархіі. У 1780 годзе, згодна з яго распараджэннем, быў узведзены новы будынак Магілёўскай духоўнай семінарыі, закладзены новы сабор у гонар святога Іосіфа Абручніка.

Свяціцель Георгій удала спалучаў архіпастырскую дзейнасць з творчымі заняткамі, быў шырока вядомы як філосаф, літаратар, гісторык і публіцыст. У 1751 годзе ён склаў для Кіева-Магілянскай акадэміі першы сістэматычны курс багаслоўя, надрукаваў два курсы акадэмічных лекцый па філасофіі (1747; 1749), паэтыцы

(1746), напісаў драму «Уваскрасенне мёртвых». За сваё жыццё святіцель Георгій сабраў вялікую бібліятэку кніг і рукапісаў, адкрыў некалькі школ, шпіталяў і прытулкаў для бедных, клапаціўся пра калек, удоў і сірот.

Свяціцель Георгій спачыў 13 лютага 1795 года і быў пахаваны ў асвячоным ім Спаса-Праабражэнскім саборы Магілёва. Над яго магілай была змешчана медная дошка з эпітафіяй, якую склаў сам свяціцель перад смерцю. Ён пакінуў запавет, у якім выклаў свае погляды на царкоўнае добраўладкаванне, манаства, семінарыю, справы епархіі, богаслужэнне, клір, паству і дабрачыннасць. Асабістыя сродкі свяціцель пакінуў для раздачы міласціны і ахвяраванняў у храмах Магілёва.

Памяць свяціцеля Георгія пачалі ўшаноўваць амаль адразу пасля яго спачыну. Распараджэннем епіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Сцяфана (Архангельскага) у 1904 годзе ў Магілёўскай епархіі было ўстаноўлена ўрачыстае заўпакойнае памінанне свяціцеля. У 1993 годзе паводле рашэння Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы архіепіскап Георгій быў праслаўлены і далучаны да Сабору Беларускіх святых. Святкаванне царкоўнай памяці свяціцеля адбываецца 13 / 26 лютага — у дзень яго праведнага спачыну, і 24 ліпеня / 6 жніўня — у дзень яго праслаўлення. Хрысцільны храм у імя свяціцеля Георгія дзейнічае пры магілёўскім кафедральным саборы Трох Свяціцеляў.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК ІААН, ЕПІСКАП РЫЛЬСКІ

***Памяць 27 лютага/11 сакавіка***

### Трапар свяшчэннамучаніку Іаану Рыльскаму, глас 4

Добродетелию жизнь свою украси, / апостольскаго преемства удостоивыйся, / слово Божие проповедуя, /

мученическим венцем венчался еси, / святыи священномучениче Иоанне. / Земное Отечество твое память твою празднует / и град Петриков радуется. / Земля Полесская хвалу тебе приносит / и со умилением восклицает: / радуйся, новомучениче, / похвало Православия.

Дабрадзейнасцю жыццё сваё ўпрыгожыўшы, / апостальскай пераемнасці спадобіўся ты, / слова Божае прапавёдуючы, / мучаніцкім вянцом быў увянчаны, / святы свяшчэннамучанік Іаан. / Зямная Бацькаўшчына твая памяць тваю святкуе / і горад Петрыкаў радуецца. / Зямля Палеская хвалу табе ўзносіць / і з замілаваннем усклікае: / радуйся, навамучанік, / пахвала Праваслаўя.

Свяшчэннамучанік Іаан нарадзіўся 8 мая 1881 года ў старажытным мястэчку Петрыкаў Мазырскага павета ў сям'і свяшчэнніка Дзімітрыя Пашына. Дзед па лініі маці, протаіерэй Васілій Завітневіч, служыў настаяцелем Скрыгалаўскай царквы таго ж павета. У Скрыгалаве, пад апекай дзеда, выхоўваўся малалетні Іаан пасля заўчаснай смерці бацькі.

У 1901 годзе Іаан скончыў Мінскую духоўную семінарыю, быў рукапаложаны ў прасвітара і прызначаны другім свяшчэннікам ў Пакроўскую царкву сяла Князь-Возера (цяпер вёска Чырвонае Возера Салігорскага раёна Мінскай вобласці). У 1903 годзе, згодна з прашэннем, пераведзены ў сяло Скрыгалава, замяніўшы свайго дзеда на месцы настаяцеля.

Айцец Іаан ажыццявіў мару дзеда пра ўвекавечанне памяці свяшчэннамучаніка Макарыя І, мітрапаліта Кіеўскага, забітага татарамі ў 1497 годзе ў ваколіцах сяла. Стараннем святара ў 1905 годзе ў Скрыгалаве былі ўзведзены капліцапомнік і абеліск у гонар свяціцеля Макарыя. У капліцы захоўваліся прывезеныя айцом Іаанам з Кіева старажытная ікона і часцінка мошчаў свяшчэннамучаніка Макарыя. Руплівасцю настаяцеля

таксама быў узведзены будынак Скрыгалаўскай жаночай царкоўна-прыходскай школы.

У 1909 годзе айцец Іаан быў прызначаны ў Свята-Георгіеўскую царкву вёскі Прылепы Мінскага павета, дзе здзяйсняў служэнне на працягу 13 гадоў. Пад яго акармленнем было некалькі вёсак, пяць царкоўнапрыходскіх школ, а таксама прыходскае брацтва цвярозасці. Намаганнямі айца Іаана ў Прылепах было завершана будаўніцтва новага мураванага храма. Асвячоны 21 жніўня 1916 года, ён велічна ўзвышаўся над усёй акругаю. З 1909 па 1922 год настаяцель вёў летапіс Георгіеўскага прыхода, дзе змяшчаў падрабязныя звесткі пра храм, пастырскае служэнне і жыццё прыхаджан.

Епархіяльнае начальства характарызавала айца Іаана як аднаго з найлепшых свяшчэннаслужыцеляў епархіі, палымянага прапаведніка, клапатлівага пастыра. У 1916 годзе айцец Іаан ажыццявіў намер паступіць у Петраградскую духоўную акадэмію, вучоба ў якой, аднак, была перарвана ў 1917 годзе. Пасля гэтага ён вярнуўся ў Прылепы.

Рэвалюцыйныя падзеі кардынальна змянілі ход жыцця прыхода і лёс свяшчэнніка. У 1923 годзе мітрапаліт Мінскі і Беларускі Мелхіседэк (Паеўскі) рукапалажыў Іаана, як удовага протаіерэя, у сан епіскапа МазырскаТураўскага вікарыяцтва. Уладыка пасяліўся ў старажытным мястэчку Петрыкаў, часта служыў, наведваў прыходы Мазыршчыны і Тураўшчыны. Асаблівую ўвагу надаваў асвеце дзяцей і моладзі, у сваім доме наладзіў царкоўна-прыходскую школу, што выклікала рэзка адмоўную рэакцыю ўлад.

У сакавіку 1926 года ўладыка Іаан быў арыштаваны і абвінавачаны ў «агітацыі супраць савецкай улады і савецкай школы». І хоць віна не была даказана, рашэннем асобай нарады пры АДПУ яго выслалі з Петрыкава з пазбаўленнем права пражывання ў вялікіх гарадах. Епіскап Іаан пераехаў у Лоеў, адкуль працягваў кіраваць

епархіяй.

У верасні 1926 года яму было прад'яўлена новае абвінавачанне ў «нелегальным кіраванні епархіяй і распаўсюджанні контррэвалюцынных чутак», за гэта ўладыка быў прыгавораны да трох гадоў высылкі ў Комі. У 1929 годзе пераведзены на вольнае пасяленне ў Курскую вобласць. Паводле загаду царкоўнага кіраўніцтва, яго прызначылі епіскапам Рыльскім, вікарыем правячага Курскага архіепіскапа Даміяна (Васкрасенскага).

У 1932 годзе епіскапа Іаана зноў арыштавалі і абвінавацілі ў прыналежнасці да неіснуючай «контррэвалюцыйнай царкоўна-манархічнай арганізацыі «Ревнители Церкви». Па гэтай сфабрыкаванай справе праходзіла 413 чалавек. Епіскап Іаан перанёс жорсткія допыты, але вінаватым сябе не прызнаў і нікога не агаварыў. Нягледзячы на тое, што віна яго не была даказана, пастановай асобай нарады АДПУ ад 7 снежня 1932 года епіскап Іаан быў асуджаны да зняволення ў лагерах тэрмінам на дзесяць гадоў. Адбываў пакаранне ў Сароўскім, затым Цёмнікаўскім, Ветлужскім, а ў 1933 годзе — ва Ухта-Пячорскім лагерах Комі АССР. У пачатку 1938 года справа епіскапа Іаана зноў перагледжана і яму прад'яўлена чарговае абвінавачанне ў правядзенні «антысавецкай агітацыі сярод зняволеных». Рашэннем НКУС па Архангельскай вобласці 5 студзеня таго ж года ўладыка быў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 11 сакавіка 1938 года. Пахаваны ў невядомай агульнай магіле.

У 2000 годзе свяшчэннамучанік Іаан быў праслаўлены на Юбілейным Архіерэйскім Саборы РПЦ у ліку навамучанікаў і вызнаўцаў Расійскіх, якія пацярпелі за веру Хрыстову ў ХХ стагоддзі. У 2004 годзе Сінодам Беларускай Праваслаўнай Царквы прынята рашэнне аб далучэнні свяшчэннамучаніка Іаана да Сабору Беларускіх святых. Ушаноўваецца таксама ў Саборы Курскіх святых.

## ДАБРАВЕРНЫ КНЯЗЬ РАСЦІСЛАЎ СМАЛЕНСКІ

***Памяць 14/27 сакавіка.***

### Трапар дабравернаму князю Расціславу Смаленскаму, глас 6

Обрете строителя градов и церквей / водами священнаго Днепра омываемая / земля Киевская и Смоленская / и вкупе с ними Белорусская / тя, великии княже Ростиславе, / благоверныи правителем образ явлеи / смуты на Руси прекращати, / единство храня. / Сего ради Господь ти мудрость и силу низпосла / Царствия Небеснаго достигнути, / идеже со всеми святыми Христу Богу молися // утвердитися нам во Православни, благочестни и единомыслии.

Атрымала цябе, будаўніка гарадоў і цэркваў, / водамі свяшчэннага Дняпра амытая, / зямля Кіеўская і Смаленская,/ а разам з імі і Беларуская, / вялікі княжа Расціславе, / ты явіў правіцелям узор дабравернасці, / смуты на Русі спыняючы, / адзінства захоўваючы, / таму Гасподзь табе мудрасць і сілу паслаў / дасягнуць Царства Нябеснага, / і там з усімі святымі Хрысту Богу маліся, // каб умацаваліся мы ў Праваслаўі, набожнасці і аднадумстве.

Святы князь Расціслаў (у хрышчэнні Міхаіл) — адзін з відных царкоўных і дзяржаўных дзеячаў сярэдзіны XII стагоддзя. Князь смаленскі, вялікі князь кіеўскі, ён яшчэ пры жыцці заслужыў аўтарытэт і павагу сярод народа, а за асаблівую багалюбнасць яго празвалі Набожным. У гісторыю князь увайшоў як дзяржаўны муж, заснавальнік самастойнага Смаленскага княства і дынастыі смаленскіх князёў, а таксама як міратворац, апякун і будаўнік храмаў і манастыроў. Паходзіў ён з сям'і вялікага князя

кіеўскага святога Мсціслава Вялікага (11132; памяць 15 / 28 красавіка), братам яго быў святы князь Усевалад (Гаўрыіл) (11138; памяць 11/24 лютага, 22 красавіка / 5 мая і 27 лістапада / 10 снежня).

З імем князя Расціслава звязана ўмацаванне і ўзвышэнне горада Смаленска і Смаленскага княства, якое ўключала ўсходнія раёны сучасных Віцебскай і Магілёўскай абласцей. Да XII стагоддзя Смаленская зямля была часткай адзінай Кіеўскай дзяржавы. Пачатак яе палітычнай самастойнасці быў пакладзены ў 1125 годзе, калі святы князь Мсціслаў Вялікі, пераняўшы ад свайго бацькі Уладзіміра Манамаха кіеўскі велікакняжы пасад, аддаў Смаленск у трыманне свайму сыну Расціславу. Дзякуючы працы і подзвігам святога Расціслава Смаленскае княства, якім ён правіў больш за 40 гадоў, дасягнула значнага росквіту, уключала, сярод іншых, гарады Оршу, Копысь, Лучын. Святы Расціслаў заснаваў гарады Мсціслаў, Рослаў, Ізяслаў, Крычаў, Васілеў і іншыя. Смаленская зямля забудоўвалася гарадамі і сёламі, упрыгожвалася храмамі і манастырамі, рабілася ўсё больш уплывовай на ўсходнеславянскім абшары.

У 1136 годзе святы Расціслаў дамогся заснавання асобнай Смаленскай епархіі, якой былі падараваны вялікія ўладанні. Статут князя Расціслава аб наданні маёмасці епіскапіі згадвае воласці Смаленскага княства, размешчаныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Копысь, Лучын, Басея, Мірачыцы, Вітрына, Прупой (Слаўгарад), Крэчут (Крычаў). У 1150 годзе святы Расціслаў пацвердзіў граматай, што Смаленскай кафедры перададзена Саборная гара ў Смаленску, на якой знаходзіўся кафедральны Успенскі сабор і іншыя епархіяльныя будынкі. Першым Смаленскім епіскапам стаў Мануіл, пастаўлены ў сакавіку-маі 1136 года мітрапалітам Кіеўскім Міхаілам.

Сучаснікі высока ацэньвалі царкоўнае будаўніцтва князя Расціслава, асабліва тое, што «князь Святую

Багародзіцу будаваў у Смаленску». Гэтыя словы варта разумець не толькі ў сэнсе перабудовы і пашырэння пры князю Расціславе Успенскага сабора, узведзенага яго дзедам Уладзімірам Манамахам у 1101 годзе (перабудаваны сабор быў асвячоны епіскапам Мануілам 15/28 жніўня 1150 г.). Князь Расціслаў быў будаўніком Царквы ў шырокім сэнсе: ён забяспечыў Успенскі храм матэрыяльна, ператварыўшы яго з гарадскога сабора ў царкоўны цэнтр вялікай Смаленскай епархіі. Князь Расціслаў быў будаўніком Смаленскага крамля і Спаскага сабора Смядынскага Барыса-Глебскага манастыра, заснаванага на месцы забойства святога князя Глеба (1015; памяць 5/18 верасня).

У 50-я гады XII стагоддзя святы Расціслаў быў уцягнуты ў працяглую барацьбу за Кіеў, якую вялі прадстаўнікі дзвюх наймацнейшых княжых груповак — Вольгавічаў і Манамахавічаў. Хоць асноўным прэтэндэнтам на вялікае княжанне з боку Манамахавічаў быў дзядзька Расціслава Юрый Далгарукі, смаленскаму князю, як аднаму з самых магутных уладароў Рускай зямлі, нярэдка належаў вырашальны голас у вайсковым і дыпламатычным суперніцтве. Святы Расціслаў вылучаўся сярод сучаснікаў дзяржаўнай мудрасцю, строгай справядлівасцю, безумоўным паслушэнствам старэйшым, глыбокай павагай да Царквы і яе іерархіі. Для многіх пакаленняў ён стаў увасобленым носьбітам праўды і праведнасці.

Пасля смерці брата Ізяслава ў 1154 годзе святы Расціслаў на кароткі час стаў вялікім князем кіеўскім, валодаў ён Кіевам сумесна са сваім дзядзькам Вячаславам Усеваладавічам. Пасля смерці апошняга (у канцы таго ж года) ён вярнуўся ў Смаленск, саступіўшы кіеўскае княжанне другому свайму дзядзьку — Юрыю Далгарукаму. Такім чынам ён ухіліўся ад актыўнага ўдзелу ў кровапралітных княжых міжусобіцах. Другі раз ён пачаў княжыць у Кіеве ў 1159 годзе і заставаўся

вялікім князем да самай смерці (1167). Народ сустрэў Расціслава з вялікай радасцю. У гісторыі захаваўся факт, што князь раздаў увесь скарб велікакняжай казны бедным, сабе ж узяў толькі залаты крыж, прывезены з Візантыі.

Гады княжання святога Расціслава прыпалі на адзін з самых складаных перыядаў у гісторыі Рускай Царквы. Старэйшы брат Расціслава князь Ізяслаў Мсціслававіч, прыхільнік самастойнасці Рускай Царквы, абраў вучонага манаха Клімента Смаляціча, каб паставіць яго мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі, зацвердзіўшы гэтае рашэнне саборам рускіх епіскапаў, але без благаславення Канстанцінопальскага Патрыярха. Гэта адбылося ў 1147 годзе. Руская іерархія пераважна падтрымала мітрапаліта Клімента і князя Ізяслава ў іх барацьбе за царкоўную незалежнасць ад Візантыі, але некаторыя епіскапы на чале з Ніфантам, свяціцелем Наўгародскім (памяць 8/21 красавіка), не прызналі аўтакефальнага рускага мітрапаліта і ўхіліліся ад зносін з ім,ператварыўшы свае епархіі ў своеасаблівыя самастойныя царкоўныя акругі. Так зрабіў і епіскап Мануіл Смаленскі. Святы Расціслаў разумеў небяспеку, якую таіла ў сабе ідэя аўтакефаліі ў той час, ва ўмовах раздробленасці Русі. Няспыннае суперніцтва за Кіеў, якое вялі князі, ускладнілася б суперніцтвам за Кіеўскую мітрапалічую кафедру паміж прэтэндэнтамі, якіх вылучала тая ці іншая княжая групоўка.

Прадбачанне святога Расціслава цалкам апраўдалася. Юрый Далгарукі, які прытрымліваўся візантыйскай арыентацыі, заняўшы ў 1154 годзе Кіеў, пазбавіў мітрапаліта Клімента кафедры і паслаў у Царград па новага мітрапаліта. Ім стаў святы Канстанцін (памяць 5/18 чэрвеня), але ён прыбыў на Русь толькі ў канцы 1156 года, за паўгода да смерці Юрыя Далгарукага. А яшчэ праз паўгода, калі ў Кіеў уступіў пляменнік святога Расціслава Мсціслаў Ізяславіч, свяціцель Канстанцін-грэк

вымушаны быў пакінуць горад, і на мітрапалічую кафедру вярнуўся Клімент Смаляціч. У выніку на Русі аказалася два мітрапаліты. Мітрапаліт-грэк забараніў тых, хто падтрымліваў Клімента, а Клімент забараніў усіх стаўленікаў і прыхільнікаў грэка. Каб спыніць разлад, князі Мсціслаў і Расціслаў пастанавілі выдаліць абодвух мітрапалітаў і прасіць Патрыярха, каб паставіў на Кіеўскую кафедру новага першасвяціцеля. Але складанасці на гэтым не скончыліся. Мітрапаліт Фёдар, які прыбыў у Кіеў восенню 1161 года, памёр вясной наступнага. Услед за князем Андрэем Багалюбскім (памяць 4/17 ліпеня), які спрабаваў у той час правесці ў мітрапаліты свайго паплечніка епіскапа Фёдара, святы Расціслаў выставіў свайго кандыдата — мітрапаліта Клімента Смаляціча.

Той факт, што вялікі князь змяніў свае адносіны да мітрапаліта Клімента, прасякнутага ідэяй самастойнасці Рускай Царквы, тлумачыцца ўплывам Кіева-Пячэрскага манастыра і асабліва прападобнага Палікарпа (памяць 24 ліпеня / 6 жніўня). Архімандрыт Палікарп, захавальнік пячэрскіх традыцый (з 1165 года настаяцель Кіева-Пячэрскага манастыра), быў духоўным настаўнікам і самым блізкім да князя Расціслава чалавекам. Святы Расціслаў меў набожны звычай у суботы і нядзелі Вялікага посту запрашаць да свайго стала пячэрскага ігумена з дванаццаццю манахамі ды ім прыслугоўваць. Князь не раз выказваў жаданне прыняць пострыг у манастыры прападобных Антонія і Феадосія і нават думаў пабудаваць там сабе келлю.

Жаданне святога Расціслава дамагчыся ў Патрыярха благаславення на служэнне мітрапаліта Клімента не спраўдзілася. Грэкі лічылі права прызначэння мітрапаліта на Кіеўскую кафедру сваім найважнейшым правам, што тлумачылася не столькі царкоўнымі, колькі палітычнымі інтарэсамі. У 1165 годзе ў Кіеў прыбыў новы мітрапаліт — грэк Іаан IV, і святы Расціслаў з пакоры і царкоўнага

паслушэнства прыняў яго.

Новы мітрапаліт, як і яго папярэднік, кіраваў Рускай Царквой менш за год (1166). Пасля яго спачыну Кіеўская кафедра зноў засталася вакантнай, а вялікі князь быў пазбаўлены духоўнай апекі з боку мітрапаліта. Адзіным духоўным суцяшэннем яго былі гутаркі з ігуменам Палікарпам і кіевапячэрскімі старцамі, а таксама насельнікамі кіеўскага Фёдараўскага манастыра, заснаванага яго бацькам.

Вяртаючыся з паходу на Ноўгарад вясной 1167 года, састарэлы князь Расціслаў занямог. Калі ён даехаў да Смаленска, дзе княжыў яго сын Раман, родныя ўгаворвалі яго застацца там, але вялікі князь загадаў везці яго ў Кіеў, дзе хацеў прыняць манашаскі пострыг. «Калі памру па дарозе, — казаў ён, — пакладзіце мяне ў бацькавым манастыры святога Фёдара. Калі Бог ацаліць мяне малітвамі Прачыстай Сваёй Маці і прападобнага Феадосія, пастрыгуся ў Пячэрскім манастыры».

Але даўняе жаданне Расціслава скончыць жыццё манахам святой абіцелі, не збылося. Дабраверны князь памёр на шляху ў Кіеў 14 сакавіка 1167 года. Цела яго, паводле завяшчання, было пакладзена ў Кіеўскім Фёдараўскім манастыры. З XVI стагоддзя князя Расціслава сталі ўшаноўваць як святога, яго імя згадвалася ў «Ступеннай кнізе», а ў народнай памяці з пакалення ў пакаленне перадаваліся песні і паданні пра яго. Святы князь Расціслаў лічыцца нябесным апекуном зямель Смаленскіх і Мсціслаўскіх, у многіх храмах ушаноўваюцца яго іконы.

## ПРАВЕДНАЯ САФІЯ, КНЯГІНЯ СЛУЦКАЯ

**Паляць 19 сакавіка/1 красавіка**

**Трапар праведнай Сафіі Слуцкай, глас 5**

Святая праведная мати Софие, / нетлением мощей и чудес сиянием почти тя Бог; / и мы, поминающе твое праведное житие, / тя молим испросити телесем нашим здравие // и душам спасение.

Святая праведная маці наша Сафія, / нятленнем мошчаў і ззяннем цудаў ушанаваў цябе Бог; / І мы, памінаючы тваё праведнае жыццё, / молім цябе выпрасіць целам нашым здароўе // і душам спасенне.

ПраведнаяСафія была апошняй прадстаўніцай знатнага праваслаўнага роду князёў слуцкіх і капыльскіх Алелькавічаў. Князі з роду Алелькавічаў займалі Кіеўскі, Капыльскі, Слуцкі пасады, былі шчодрымі ахвярадаўцамі праваслаўных храмаў і манастыроў. Праведная Сафія нарадзілася 1 мая 1585 года ў набожнай сям'і князя Юрыя Юр'евіча Алелькі. Пасля смерці бацькі, апекунамі сіраты і распарадчыкамі маёмасці сталі родзічы: спачатку жмудскі стараста Юрый Хадкевіч, а пасля яго смерці віленскі кашталян і брэсцкі стараста Іеранім Хадкевіч. З князямі Радзівіламі, якім запазычылі значныя сумы, апекуны заключылі пісьмовае пагадненне. Згодна з ім князёўна, дасягнуўшы паўналецця, павінна стаць жонкаю Януша Радзівіла. З хрысціянскай пакораю праведная Сафія прыняла гэтае рашэнне, але паставіла цвёрдую ўмову самой заставацца ў Праваслаўі і дзяцей выхоўваць праваслаўнымі. Вянчанне князёўны Сафіі з князем Янушам адбылося паводле праваслаўнага абраду на свята Пакрова, 1 кастрычніка 1600 года, у адным з храмаў Брэста. З ранняга дзяцінства Сафія знаходзіла духоўную апору ў шчырай веры і гарачай малітве, з усімі горасцямі звяртаючыся да Госпада. Ад сваіх набожных бацькоў яна пераняла абавязак апекі над праваслаўнымі храмамі і манастырамі на землях Слуцкага княства. У часы распаўсюджання уніі Сафія рашуча стала на абарону праваслаўнага насельніцтва і яго святыняў. Духоўна і матэрыяльна яна падтрымлівала Слуцкае брацтва,

Праабражэнскі манастыр з прытулкам і вучылішчам. Пры падтрымцы братчыкаў княгіня Сафія пераканала свайго мужа хадайнічаць перад каралём аб атрыманні граматы, якая б забараняла прымушаць праваслаўных вернікаў да уніі. Пасля падпісання такой граматы абарона інтарэсаў Праваслаўя ў Слуцкім княстве была падмацавана законам. Апрача юрыдычнай абароны Праваслаўя княгіня Сафія рупліва клапацілася пра матэрыяльны стан Царквы, шчодра ахвяруючы на манастыры і храмы. Згодна з народным паданнем, яна сама вышывала золатам і срэбрам святарскія аблачэнні, пешшу паломнічала па святых месцах, у дні храмавых святаў бывала ў самых аддаленых цэрквах. Дзякуючы княгіні Сафіі, горад Слуцк меў у рэлігійным жыцці Беларусі асаблівае значэнне важнага духоўнага цэнтра, апірышча Праваслаўя. Пасля спачыну гэтай вялікай угодніцы Божай яе муж, князь Януш Радзівіл, выдаваў граматы ў падтрымку праваслаўных. У адной з такіх грамат гаварылася: «...цэрквы і манастыры рэлігіі стараруская ў маёнтках маіх па-ранейшаму павінны захоўвацца, і нашчадкі мае павінны сачыць, каб не было ў гэтым ніякае перамены».

Спачыла праведная Сафія пры родах дзіцяткі 19 сакавіка 1612 года ва ўзросце 26-ці гадоў. Пахавалі яе ў правым прыдзеле храма Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра. На грабніцы яе быў надпіс: «1612 года, сакавіка 19 спачыла дабраверная Сафія, княжна Слуцкая Алелькаўна Юравічаўна, Альгердава племя, і пакладзена была ў Слуцку ў манастыры Святой Жывапачатнай Троіцы». Тут жа размяшчаўся вобраз Пакрова Божае Маці — фамільная ікона князёў Алелькавічаў.

Адразу пасля спачыну праведную Сафію народ пачаў ўшаноўваць як апякунку праваслаўнай веры і горада Слуцка. У архіве Свята-Троіцкага манастыра захоўвалася рукапісная кніга з апісаннем цудаў, якія адбываліся па малітвах вернікаў пры грабніцы з нятленнымі мошчамі

святой. Кнігу склаў у пачатку XIX стагоддзя настаўнік Слуцкай духоўнай семінарыі іераманах Маркіян. У гістарычнай літаратуры зафіксаваны факт абароны жыхароў Слуцка ў час нашэсця французаў (1812), а таксама выратавання горада ад эпідэміі халеры ў 1848 годзе пасля таго, як па просьбе гараджан адбыліся хрэсныя ходы з мошчамі святой па вуліцах горада.

Пасля закрыцця Свята-Троіцкага храма (1930) распараджэннем савецкай улады мошчы святой перададзены ў анатамічны музей медычнага факультэта БДУ. У пасляваенны час намаганнямі веруючых вернуты Царкве. Цяпер мошчы святой спачываюць у левым прыдзеле Мінскага кафедральнага сабора Святога Духа і глыбока ўшаноўваюцца вернікамі. У 1984 годзе святая праведная Сафія далучана да Сабору Беларускіх святых. У яе гонар асвячоны храмы ў Мінску, Мастах, вёсцы Пціч Пухавіцкага раёна.

## СВЯТЫ УЛАДЗІМІР, ВЫЗНАЎЦА ВІЦЕБСКІ

**Памяць 26 сакавіка/8 красавіка**

**Трапар святому Уладзіміру Віцебскаму, глас 4**

По слову пророка Давида, / благолепие Дома Божия паче жизни возлюбивый, / и от безбожных гонение, заточение и судище претерпевый, / без страха за Православную веру пострадал еси, / святый исповедниче Владимире, / моли Христа Бога и нам сию крепость веры стяжати, // и пребывати в ней непоколебимо.

Паводле слова прарока Давіда, / прыгажосць Дома Божага больш за жыццё ўзлюбіўшы, / і ад бязбожнікаў ганенне, зняволенне і асуджэнне перацярпеўшы, / без страху за Праваслаўную веру пакутаваў ты, / святы вызнаўца Уладзімір, / маліся Хрысту Богу, каб і нам гэтай моцы веры дасягнуць, // і заставацца ў ёй непахісна.

Святы вызнаўца Уладзімір Елянеўскі нарадзіўся ў 1874 годзе ў сям'і протаіерэя на Віцебшчыне. Пасля заканчэння Віцебскай духоўнай семінарыі, некаторы час працаваў у духоўным ведамстве. У1904 годзе закончыў юрыдычны факультэт Імператарскага Юр'еўскага універсітэта (цяпер Тарту, Эстонія). Працаваў судовым следчым Віцебскага акружнога суда. Адначасова актыўна ўдзельнічаў у жыцці Царквы, пакладаючы свае прафесійныя веды на карысць Праваслаўя. У 1918 годзе быў абраны з ліку міран у склад Епархіяльнага савета Полацка-Віцебскай епархіі. У час канфіскацыі царкоўных каштоўнасцей Уладзімір Елянеўскі адкрыта выступаў супраць рабавання цэркваў багаборчай уладай. У 1922 годзе яго арыштавалі і прысудзілі да пазбаўлення волі са строгай ізаляцыяй на адзін год і наступнай забаронай працаваць следчым на працягу трох гадоў. У камеры яго змясцілі разам з нядаўнімі падследчымі па крымінальных справах, што толькі павялічыла яго пакуты. Пасля вызвалення Уладзімір апынуўся без работы, а пасля смерці жонкі застаўся з трыма дзецьмі на руках. Вера і асабістая мужнасць адрознівалі яго ад многіх, хто спрабаваў ўратаваць жыццё, далучыўшыся да абнаўленства. У 1926 годзе Елянеўскі зноў выбраны ў Епархіяльны савет Полацка-Віцебскай епархіі. Нават абнаўленцы называлі Уладзіміра Елянеўскага «думай ціханаўцаў», аддаючы належнае яго аўтарытэту.

У 1929-1931 гадах Уладзімір Елянеўскі як вопытны юрыст аказаў неацэнную дапамогу ў аднаўленні раней закрытых прыходаў і іх вяртанні з абнаўленства. З яго чынным удзелам больш за 50 прыходаў вярнулася ў лона Патрыяршай Царквы. Мудрасць і прафесіяналізм юрыста разам з гарачай верай дазволілі Уладзіміру заняць правільную пазіцыю ў няроўным дыялогу з багаборчай уладай і выкарыстаць усе законныя сродкі для захавання і ўмацавання Праваслаўнай Царквы на Віцебшчыне.

1 чэрвеня 1931 года Уладзімір быў другі раз арыштаваны і змешчаны ў віцебскую турму. Яму прад'явілі цэлы шэраг ілжывых абвінавачанняў — прыналежнасць да групы ісцінна-праваслаўных, падбухторванне насельніцтва да масавых хваляванняў, правядзенне антысавецкай агітацыі. Вінаватым сябе ён не прызнаў, на допытах адкрыта вызнаваў сябе перакананым вернікам і адмаўляў сувязь з абнаўленцамі. Пастановай асобай нарады пры Калегіі АГПУ ад 14 ліпеня 1932 года Уладзіміра Елянеўскага вызвалілі з-пад варты, але пры гэтым пазбавілі права пражывання ў 12-ці памежных пунктах і Уральскай вобласці, з прымацаваннем да месца жыхарства на тры гады.

Пасля заканчэння тэрміну высылкі Уладзімір Елянеўскі вярнуўся ў Віцебск інвалідам 2-й групы. Стан здароўя не дазваляў працаваць, таму даводзілася цярпець паўгалоднае існаванне. У 1944 годзе ён пераехаў у Мінск і да 1948 г. працаваў юрыстам у Мінскім епархіяльным упраўленні, дапамагаючы архіепіскапу Васілію (Ратміраву).

У 1949 годзе Уладзімір Елянеўскі вярнуўся ў Віцебск. Нягледзячы на сталы ўзрост і цяжкія хваробы, гэты перыяд яго жыцця быў таксама плённым: ён перапісваўся і меў асабістыя сустрэчы з мітрапалітам Мінскім і Беларускім Піцірымам (Свірыдавым), па просьбе якога напісаў нарыс па гісторыі супрацьстаяння абнаўленчаму расколу ў Віцебскай епархіі ў 1920-1930-я гады.

Пражыўшы доўгае жыццё, праявіўшы насуперак знешнім абставінам цвёрдае стаянне ў праваслаўнай веры, Уладзімір Елянеўскі спачыў у Віцебску 8 красавіка 1954 года. Рэабілітаваны 12 верасня 1989 года пракуратурай Віцебскай вобласці.

Рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы ад 4 лістапада 2007 года вызнаўца Хрыстоў Уладзімір праслаўлены ў ліку святых зямлі Беларускай.

## СВЯЦІЦЕЛЬ ГАЎРЫІЛ, АРХІЕПІСКАП МАГІЛЁЎСКІ, РАЗАНСКІ

**Памяць 7/20 красавіка**

**Трапар свяціцелю Гаўрыілу Магілёўснаму, Разанскаму, глас 5**

Верою и правдою Богови служа, / снискал еси любовь паствы твоея, / Гаврииле святителю, / добрый пастырю словесных овец. / В годину испытаний похищенных волками в унию / в лоно православия возвратил еси, / икону Богоматере "Знамения", именуемую "Корчемною", / яко источник неоскудный утешения, / пастве своей указал еси. / и ныне молися о нас прилежно, // чтущих святую память твою.

Вераю і праўдаю Богу служачы, / здабыў ты любоў паствы тваёй, / Гаўрыіле свяціцелю, / добры пастыр авечак духоўных. / У часіну выпрабаванняў скрадзеных ваўкамі да уніі / ты вярнуў ва ўлонне праваслаўя, / ікону Божае Маці "Знамённе", названую "Карчомнаю", / як невычэрпную крыніцу суцяшэння / пастве сваёй указаў ты. / І цяпер маліся старанна за нас, // якія ўшаноўваем святую памяць тваю.

Нарадзіўся будучы свяціцель 17 красавіка 1785 года ў сяле Гарадковічы Разанскай губерні ў сям'і панамара, пазней свяшчэнніка гэтага сяла. У дзяцінстве хлопчык не вызначаўся моцным здароўем і часта хварэў. Аднак ён меў цвёрдую волю і характар, якія спалучаліся з дабрынёй, міласэрнасцю, працавітасцю і назіральнасцю.

У 1808 годзе, закончыўшы Разанскую духоўную семінарыю, Георгій (так звалі свяціцеля да прыняцця манашаства) паступіў у Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію, пасля заканчэння якой атрымаў ступень магістра багаслоўя і прызначэнне на кафедру багаслоўя ў родную Разанскую семінарыю. У 1815 годзе ў Разанскім Спаскім манастыры будучы свяціцель быў пастрыжаны ў

манашаства з імем Гаўрыіл. Пасля ўзвядзення у сан архімандрыта ён прыназначаны намеснікам Разанскага Свята-Троіцкага манастыра. Далей на працягу сямі наступных гадоў архімандрыт Гаўрыіл кіраваў Арлоўскай, затым Ніжагародскай семінарыямі, быў настаяцелем Макар'еўскага Жаўтаводскага і Пячэрскага Ніжагародскага манастыроў.

У 1828 годзе ў Санкт-Пецярбургскім Казанскім саборы архімандрыт Гаўрыіл быў узведзены ў сан епіскапа і пастаўлены начале Калужска-Бораўскай епархіі. Менавіта ў Калузе явілася яму асаблівае заступніцтва Божай Маці: аднойчы, у час хваробы ў сне яму явіўся старац і загадаў адслужыць малебен з акафістам перад іконай Божай Маці «Міласцівая». Уладыка выканаў гэты загад, а на наступны дзень ужо быў здаровы і сам узначаліў велікапосную службу ў саборы.

У 1831 годзе ўладыку Гаўрыіла перавялі на Магілёўскую кафедру. Гэта быў час паступовага вяртання мясцовых уніятаў у лона Праваслаўнай Царквы. Свяціцель склаў праграму мерапрыемстваў па уніяцкім пытанні, падтрымліваў тых, хто асабіста далучаўся да Праваслаўнай Царквы, адначасова рыхтуючы глебу да ўсеагульнага ўз'яднання. Дзякуючы сваёй міралюбнасці архіепіскап карыстаўся павагай і аўтарытэтам сярод іншаверцаў. Каля 60 тысяч чалавек вярнуліся ў Праваслаўе за час прабывання свяціцеля на Магілёўскай кафедры. Менавіта ў той час падаў прашэнне аб далучэнні да Праваслаўя і вядомы Літоўскі уніяцкі епіскап Іосіф (Сямашка), які пазней узначаліць працэс уз'яднання. З дапамогай архіепіскапа Гаўрыіла ў 1832 годзе праваслаўным быў вернуты Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Свяціцель праяўляў клопат пра духавенства епархіі, ён распрацаваў палажэнне аб доме апекі для ўдоў і сірот духоўнага звання. Такі дом быў адкрыты каля Магілёва ў 1838 годзе.

Праасвяшчэнны Гаўрыіл, паводле сведчання

сучаснікаў, быў «увасабленнем шчырасці і прастаты». У зносінах з людзьмі ён пазбягаў дакаранняў, гаворачы: «Дакараць — значыць раздражняць, а раздражняць — значыць памяншаць здольнасць да ўспрыняцця ісціны».

У 1837 годзе ўладыка пакінуў Магілёў у сувязі з пераводам у Разанскую епархію, якую ўзначальваў на працягу наступных дваццаці гадоў. Яго клопатам на Разаншчыне былі пабудаваны і ўпрыгожаны многія храмы, абноўлены кафедральны Успенскі сабор, архіерэйскае падвор'е з крыжовай царквой у Разанскім крамлі.

У час бедстваў і эпідэмій свяціцель шчодра ахвяраваў сродкі для выратавання людзей, арганізоўваў раздачу хлеба і грошай для бедных. Распараджэннем свяціцеля быў падвоены памер дапамогі ўдовам і сіротам духоўнага звання. Архіепіскап Гаўрыіл заснаваў вучылішча з поўным забеспячэннем для дзяўчынак-сірот.

Уладыка цікавіўся гісторыяй і станам асветы ў епархіях, дзе яму даводзілася здзяйсняць служэнне. У Разані ён заснаваў царкоўна-гістарычны камітэт, сабраў вялікую бібліятэку старажытных рукапісаў, якую перадаў ва Успенскі Вольгінскі манастыр. Па яго благаславенню была ўзведзена кап ліца на месцы фундамента старажытнага храма з пахаваннямі разанскіх князёў, якія загінулі ў час нашэсця хана Батыя. Уладыка любіў паэзію, пісаў духоўныя канты, цікавіўся навукай, археалогіяй, старажытнымі архівамі.

У 1858 годзе, паводле ўласнай просьбы, свяціцель быў звольнены на пакой. Ён пасяліўся ў Разанскім Вольгінскім манастыры, дзе праводзіў час у малітвах і справах дабрачыннасці. 7 красавіка 1862 года свяціцель Гаўрыіл з мірам адыйшоў да Госпада. Пахаванне адбылося ў пятніцу Светлага тыдня ў Архангельскім саборы Разанскага крамля.

12 студзеня 1987 года свяціцель быў праслаўлены ў ліку мясцовашанаваных Разанскіх святых. У 1999 годзе

адбылося аднойдзенне мошчаў святого Гаўрыіла і перанясенне іх у Свята-Троіцкі манастыр Разані. У тым жа годзе складзены жыціе і акафіст свяціцелю. 31 студзеня 2002 года рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы свяціцель Гаўрыіл далучаны да ліку Сабору Беларускіх святых.

## МУЧАНІКІ АНТОНІЙ, ІААН І ЯЎСТАФІЙ ВІЛЕНСКІЯ

***Памяць 14/27 красавіка і 13/26 ліпеня***

### Трапар мучанікам Антонію, Іаану, Яўстафію Віленскім, глас 4

Иже земных чксти и славы отвергшеся, / доблии и честнии страдальцы, / веры ради крепко и мужественно муки претерпесте, / на смерть себе вдавше за Живот всех — Владыку. / Темже и Христос преславно / столпом облачным с небесе вас озари, / и почестьми и венцы от престола славы венча. / Со ангелы Тому предстояще, // молите спастися душам нашим.

Вы ад зямнога гонару і славы адмовіліся, / доблесныя і слаўныя пакутнікі, / дзеля веры стойка і мужна мукі перанеслі, / на смерць сябе аддаўшы за Жыццё ўсіх — Уладара. / Таму і Хрыстос з вялікай славаю / слупом воблачным з нябёсаў вас азарыў, / і пашанаю і вянцамі ад прастола славы ўвянчаў. / З ангеламі стоячы прад Ім, / маліце, каб спасліся душы нашы.

Падзеі, звязаныя з жыццём і пакутніцкай смерцю святых мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія, адбыліся ў Вільні ў XIV стагоддзі пры вялікім князю Альгердзе (1296-1377). Жыціе не паведамляе звестак пра паходжанне, выхаванне і гады ранняй маладосці святых братоў. Але можна выказаць здагадку, што паходзілі яны з баяраў — ваеннаслужылых людзей, якія ў Вялікім княстве Літоўскім

належалі да вышэйшага стану. Жыціе апавядае, што да святога хрышчэння родныя браты Антоній і Іаан служылі пры двары князя Альгерда, насілі славянскія імёны Няжыла і Кумец і былі язычнікамі вогнепа-клоннікамі. Абодва браты ўверавалі ў Хрыста дзякуючы пропаведзі прасвітара Нестара, духаўніка жонкі Альгерда — княгіні Марыі. Пасля хрышчэння старэйшы брат Кумец прыняў хрысціянскае імя Іаан, а Няжыла — імя Антоній.

Спачатку браты хавалі сваю прыналежнасць да хрысціянства, але потым, знайшоўшы ў сабе мужнасць, сталі адкрыта вызнаваць новую веру. Адмаўленне пакланяцца язычніцкім ідалам, выкананне хрысціянскіх звычаяў — усё гэта выглядала ў вачах прыдворнай язычніцкай партыі адкрытым выклікам і адступніцтвам.

Нейтральна ставячыся да рэлігійных перакананняў братоў, князь Альгерд спрабаваў прадухіліць наспяванне канфлікту, раіў ім трымаць свае перакананні ў тайне і ніяк не выяўляць іх публічна. Каб упэўніцца ў паслушэнстве братоў, ён у посны дзень прапанаваў ім мясную ежу. У адказ Антоній і Іаан рашуча адмовіліся, засведчыўшы гэтым, што хрысціянскі абавязак важней за паслушэнства князю.

Калегія жрацоў на чале з вярхоўным жрацом Крыве-Крывейтам запатрабавала ад князя Альгерда суровага і публічнага пакарання адрачэнцаў. Альгерд не жадаў караць смерцю Антонія і Іаана, але ў той жа час баяўся страціць княжы пасад у выпадку бунту язычнікаў. Ен быў разгневаны, бо браты сваім адкрытым вызнаннем Хрыста ўзрушылі супраць князя немалую частку насельніцтва. Таму ён загадаў пасадзіць сваіх прыдворных у поруб.

У вязніцы святыя мужна пераносілі ўсе выпрабаванні і пакуты. Але з цягам часу старэйшы Іаан не вытрываў. Таемна ад Антонія ён паведаміў князю, што гатовы ва ўсім падпарадкавацца яго волі. Альгерд загадаў вызваліць не толькі Іаана, але і Антонія, бо думаў, што і Антоній падзяляе братавы думкі і пачуцці. Абодвум былі вернуты

іх пасады пры двары.

Каб дагадзіць князю і прыдворным жрацам, Іаан стаў выконваць язычніцкія абрады і звычаі, хоць унутрана, у сэрцы сваім, паранейшаму заставаўся хрысціянінам. Антоній жа не змяніў свайго ладу жыцця, як і раней ён адкрыта вызнаваў сябе хрысціянінам, выконваў усе хрысціянскія абрады, пазбягаючы язычніцкіх.

Неўзабаве Антонія зноў кінулі ў вязніцу, узмацніўшы катаванні. Але Антоній больш смуткаваў з-за праяўленай старэйшым братам маладушнасці, і таму вырашыў адмовіцца ад зносін з ім. Сам жа з ранейшай пакорай і духоўнай стойкасцю прыняў новае выпрабаванне, верачы, што яго пакуты за Хрыста ўмацуюць брата і памножаць насенне веры. Чутка пра яго незвычайную цвёрдасць і цярплівасць распаўсюдзілася сярод жыхароў Вільні. Мноства народу сыходзілася, каб упэўніцца ў непахіснасці мучаніка і паслухаць яго натхнёную пропаведзь. Нават язычнікі пранікаліся міжвольнай павагай да яго, і многія ўверавалі ў Хрыста.

Іаан жа «быў у непавазе ва ўсіх», бо хрысціяне не любілі яго як адрачэнца ад веры, а язычнікі пагарджалі ім, як чалавекам маладушным. Усвядоміўшы свой грэх, Іаан неўзабаве раскаяўся і дзякуючы пасрэдніцтву святара Нестара аднавіў ранейшыя зносіны з братам. Новым сведчаннем сваёй веры Іаан выклікаў гнеў княжага асяроддзя і быў жорстка збіты. Напаўжывога яго кінулі ў вязніцу да Антонія, дзе Гасподзь цудоўным чынам аднавіў яго сілы. Абодва браты падрыхтаваліся прыняць смерць з годнасцю і мужнасцю.

Пераканаўшыся, што, нягледзячы на пераслед, вера Хрыстова пашыраецца, жрацы звярнуліся да Альгерда з патрабаваннем аддаць Антонія і Іаана на публічнае жорсткае пакаранне. Альгерд саступіў патрабаванню язычнікаў, але пастанавіў пакараць аднаго Антонія, спадзеючыся, што Іаан, узрушаны смерцю брата, зноў адрачэцца ад хрысціянства. Пасля беспаспяховых

угавораў і цяжкіх катаванняў Антоній быў асуджаны на смерць праз павешанне на дубе, які лічыўся свяшчэнным у язычнікаў. Гэта адбылося на досвітку 14 красавіка 1347 года.

Між тым святы мучанік Іаан паранейшаму заставаўся ў вязніцы. Мужная смерць брата і яго перадсмяротныя словы так падзейнічалі на Іаана, што ён, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, заставаўся цвёрдым і непахісным у хрысціянскай веры. Неўзабаве Альгерд пагадзіўся з патрабаваннем язычніцкіх жрацоў, і 24 красавіка на тым самым дубе быў павешаны і святы Іаан. Так завяршылі свой подзвіг веры браты-мучанікі. Іх целы з пашанай былі пахаваны вернікамі-хрысціянамі ў старажытнай віленскай Свята-Мікалаеўскай царкве.

Увосень таго ж года праславіўся ў Вільні яшчэ адзін святы мучанік — Яўстафій. Яўстафій быў сваяком Антонія і Іаана, служыў лоўчым пры двары князя Альгерда. Ён быў малады, прыгожы тварам і, нягледзячы на сваю маладосць, вылучаўся сярод княжай дружыны асаблівай мужнасцю і адвагай. Таксама вызначаўся ён розумам і душэўнаю дабрынёю.

Спачатку Яўстафій таксама быў язычнікам і насіў імя Круглец. Пачуўшы пропаведзь пра Хрыста, ён з юнацкай палкасцю адпрэчыў язычніцкія бясчынствы і ўсім сэрцам прыняў хрысціянства. У святара Нестара навучаўся ён ісціннай веры і неўзабаве прыняў Святое Хрышчэнне з імем Яўстафій. З усёй стараннасцю ён пачаў весці хрысціянскі лад жыцця, выконваючы ўсе абрады і ўстанаўленні Царквы.

Паколькі Яўстафій быў адным з набліжаных князя і неадлучным спадарожнікам на вайне і паляванні, то яго навяртанне ў хрысціянства не магло доўга заставацца ў тайне. Спачатку Альгерд паспрабаваў сілай прымусіць Яўстафія адрачыся ад хрысціянства, прапануючы есці мяса ў пост. Замест гэтага Яўстафій стаў перакананаўча прапаведаваць ісціннага Бога, схіляючы да хрысціянства

і княжую дружыну. Тады князь аддаў праведніка жрацам, якія схапілі яго і пачалі біць жалезнымі булавамі.

Убачыўшы, што ніякія пакуты не могуць прымусіць Яўстафія адрачыся ад хрысціянскай веры, Альгерд прысудзіў яго да такога ж смяротнага пакарання, як і яго сваякоў Іаана і Антонія. Вестка пра блізкую смерць не толькі не засмуціла мучаніка, але, наадварот, напоўніла духоўнай радасцю. Яго павесілі на дубе, на якім незадоўга да таго прынялі смерць святыя Антоній і Іаан. Гэта адбылося 13 снежня 1347 года.

Так скончылі сваё зямное жыццё святыя Антоній, Іаан і Яўстафій. Спачын святых мучанікаў пераканаў многіх язычнікаў у ісціннасці новай веры, і з таго часу хрысціянства стала яшчэ хутчэй распаўсюджвацца ў Вялікім княстве Літоўскім.

У 1350 годзе князь Альгерд ажаніўся другі раз з праваслаўнай князёўнай Юліяніяй Цвярской. Тым часам віленскія хрысціяне пабудавалі «на месцы шыбенічным», дзе пацярпелі святыя мучанікі, храм у імя Святой Троіцы і ў памяць «Троіцы раўналікіх мучанікаў». Улічваючы жаданне новай княгіні і сыноў, Альгерд гэтаму не перашкаджаў. Паводле падання, прастол храма паставілі на месцы ссечанага дуба, на якім прынялі смерць святыя, а з самога дуба вырабілі грабніцу, у якую і былі пакладзены іх мошчы. Калі будаўніцтва Свята-Троіцкага храма было завершана, у яго перанеслі нятленныя целы святых мучанікаў. Неўзабаве пры храме ўзнік мужчынскі манастыр. Паводле некаторых сведчанняў, у 1354 годзе Альгерд вярнуўся ў Праваслаўе, ахрысціў сваіх дзяцей, а перад смерцю пастрыгся ў схіму і быў пахаваны ў пабудаваным ім Прачысценскім саборы.

Ушанаванне святых Віленскіх мучанікаў пачалося адразу пасля іх пакутніцкай смерці. Была засведчана нятленнасць целаў, а таксама цуды і ацаленні, якія здзяйсняліся пры іх грабніцы. Слава пра подзвіг, мучаніцкі спачын і цуды шырока распаўсюдзілася па

Вялікім княстве Літоўскім і па ўсіх краінах, дзе вызнавалася праваслаўная вера.

Дакладная дата царкоўнага праслаўлення мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія невядома, але можна з упэўненасцю сказаць, што гэта адбылося паміж 1354 і 1374 гадамі ў Канстанцінопалі. Урачысты акт кананізацыі здзейсніў Патрыярх Канстанцінопальскі Філафей, што было падзеяй неардынарнай, бо паводле існуючай традыцыі святыя кананізаваліся мітрапалітам Кіеўскім альбо ўшаноўваліся мясцова.

Урачыстае праслаўленне адбылося ў Сафійскім саборы Канстанцінопаля. Дзень памяці мучанікаў устаноўлены 14/27 красавіка. У 1374 годзе, праз 27 гадоў пасля спачыну, часцінкі мошчаў святых былі з належнай урачыстасцю перанесены з Вільні ў Канстанцінопаль, дзе святыню сустрэў Патрыярх Філафей, які «першым уславіў іх як мучанікаў і ўшанаваў іх іконамі, пакланеннямі і штогадовымі службамі». Часцінкі мошчаў былі змешчаны ў велічным кафедральным саборы Святой Сафіі для малітоўнага ўшанавання. Патрыярх Філафей увёў і царкоўную службу святым, якая паводле яго даручэння была складзена на грэчаскай мове. З XV ст. гэтая служба стала распаўсюджвацца і на славянскай мове.

Пасля заключэння Брэсцкай царкоўнай уніі (1596) сярод іншых праваслаўных цэркваў, уніяты захапілі ў 1609 годзе і царкву Святой Троіцы ў Вільні. У 1655 годзе праваслаўныя перанеслі мошчы святых мучанікаў у Свята-Духаў манастыр, які заставаўся адзінай апорай праваслаўнай веры ў Вільні і наваколлі.

Уніяты, якія таксама ўшаноўвалі святых мучанікаў, намагаліся вярнуць мошчы ў Свята-Троіцкі манастыр. Але настаяцель архімандрыт Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі схаваў мошчы ў пячоры пад галоўным алтаром Свята-Духава храма. Каб месца гэтае не было забыта, у іканастасе над сутарэннем была пастаўлена ікона святых мучанікаў.

Святыя мошчы прабылі ўтоенымі больш за сто

пяцьдзесят гадоў. У 1814 годзе яны былі аднойдзены, да іх сталі прыходзіць людзі для малітвы і пакланення. У 1851 годзе клопатам мітрапаліта Літоўскага Іосіфа (Сямашкі) у Свята-Духавым саборы ўладкавана ніжняя царква ў гонар святых Віленскіх мучанікаў. На ахвяраванні вернікаў вырабілі новую пазалочаную раку, у якую святыя мошчы былі ўрачыста перакладзены.

У 1915 годзе ў сувязі з Першай сусветнай вайной мошчы святых мучанікаў былі вывезены ў Маскву і змешчаны ў Данілавым манастыры. Пасля рэвалюцыі 1917 года распараджэннем савецкага ўрада мошчы апынуліся ў Маскоўскім музеі атэістычнай прапаганды. У 1920-1930-я гады праваслаўныя Віленшчыны, якая ў той час была ў складзе Польшчы, неаднойчы звярталіся да царкоўных улад з просьбай пачаць перамовы пра вяртанне святых мошчаў. Але ў той час гэты намер здзейсніць не ўдалося. І толькі 26 ліпеня 1946 года распараджэннем Патрыярха Аляксія І святыя мошчы былі перавезены на месца свайго гістарычнага знаходжання — у Віленскі Свята-Духаў манастыр. У 1997 годзе раку з мошчамі святых мучанікаў вынеслі з пячорнай царквы і ўстанавілі ў цэнтральнай частцы Свята-Духава сабора.

Па просьбе беларускіх вернікаў 26 ліпеня 1993 года часцінкі мошчаў святых мучанікаў перанесены ў іконе ў Мінскі Петра-Паўлаўскі сабор. Храмы ў гонар святых дзейнічаюць у Ваўкавыску, Смаргоні, вёсках Забалаць Воранаўскага, Подберазь Валожынскага, Свяціца Ляхавіцкага раёнаў.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК КАНСТАНЦІН, ПРАСВІТАР ШАРКАЎШЧЫНСКІ

***Памяць 16/29 красавіка і 21 мая/3 чэрвеня***

**Трапар свяшчэннамучаніку Канстанціну Шаркаўшчынскаму, глас 8**

Верою и благочестием измлада воспитан, / добрый пастырь явися порученному стаду, / во иереех мученик Твой, Господи, Константин, / храм и приход непорочны в руце Твоей положи: / ихже спасай всегда в мире, / молитвами Богородицы, Едине Человеколюбче.

У веры і набожнасці з юнацтва выхаваны, / добрым пастырам стаў даручанаму статку, / у сане іерэйскім мучанік Твой, Госпадзі, Канстанцін, / храм і прыход беззаганнымі ў руцэ Тваёй захаваў: / іх жа спасай заўсёды ў міры, / па малітвах Багародзіцы, Адзіны Чалавекалюбны.

Свяшчэннамучанік Канстанцін нарадзіўся 22 сакавіка 1875 года ў мястэчку Стара-Шаркаўшчына Дзісненскага павета Віленскай губерні ў сям'і свяшчэнніка Дзімітрыя Жданава, настаяцеля мясцовай Свята-Успенскай царквы. У 1892 годзе ва ўзросце 17 гадоў Канстанцін паступіў у Літоўскую духоўную семінарыю, але праз два гады спыніў вучобу ў сувязі са смерцю маці. Ён вымушаны быў працаваць, каб матэрыяльна дапамагаць бацьку — у іх сям'і было дзевяць дзяцей. У 1900 годзе, паспяхова здаўшы іспыты па багаслоўскіх навуках пры Літоўскай духоўнай кансісторыі, Канстанцін Жданаў быў рукапаложаны ў сан дыякана, а затым у сан святара. У тым жа годзе спачыў яго бацька, і малады пастыр быў прызначаны на месца настаяцеля Стара-Шаркаўшчынскага Успенскага храма, дзе праслужыў 19 гадоў.

Айцец Канстанцін запомніўся прыхаджанам надзвычай міласэрным і дабрадзейным пастырам, з асаблівай любоўю ён ставіўся да асірацелых дзяцей, памагаў абяздоленым і бедным. Айцец Канстанцін быў выдатным прапаведнікам слова Божага, быў строгім і патрабавальным у пытаннях веры. З 1809 года пад кіраўніцтвам айца Канстанціна ў Стара-Шаркаўшчыне

пачалося будаўніцтва новага драўлянага храма. Бацюшка асабіста арганізаваў пошук сродкаў, выязджаў у Маскву для збору ахвяраванняў на іканастас. Гэты цудоўны пазалочаны іканастас знаходзіцца ў Шаркаўшчынскім Успенскім храме да сённяшняга дня.

13 лістапада 1912 года адбылося ўрачыстае асвячэнне новазбудаванай царквы. У памяць аб завяршэнні будаўніцтва прыхаджане з вялікай удзячнасцю паднеслі свайму настаяцелю ікону роўнаапостальнага Канстанціна з памятным надпісам. Гэтая ікона і цяпер захоўваецца ў мясцовым храме.

Мірны перыяд пастырскага служэння айца Канстанцша закончыўся ў 1915 годзе, калі лінія фронту Першай сусветнай вайны наблізілася да тэрыторыі Літоўскай епархіі, якую ў той час узначальваў архіепіскап Ціхан (Бялавін), будучы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. 29 жніўня 1916 года ўладыка Ціхан наведаў Стара-Шаркаўшчынскі прыход. У тым жа годзе архіепіскап Ціхан прызначыў іерэя Канстанціна загадчыкам Беразвецкай школы, якая была эвакуіравана ў Стара-Шаркаўшчыну ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі.

Пасля рэвалюцыйных падзей 1917 года, айцец Канстанцін заставаўся са сваёй паствай, заклікаў да ўзмоцненай малітвы, узаемадапамогі і хрысціянскага цярпення. Вясной 1919 года айцец Канстанцін Жданаў быў арыштаваны мясцовай бальшавіцкай уладай. Прыхаджане спрабавалі абараніць свайго настаяцеля, прапаноўвалі выкуп, збіралі подпісы з просьбай вызваліць свайго пастыра. Але айца Канстанціна адправілі ў Дзісну, дзе пасля катаванняў у ноч на 29 красавіка 1919 года ён быў расстраляны. Пазней высветлілася, што айцец Канстанцін памёр не адразу, раненага, яго скінулі ў яму і яшчэ жывога засыпалі зямлёй. Праз некалькі месяцаў было дазволена паразахаваць цела мучаніка. Яго аблачылі ў новае святарскае адзенне і пахавалі ў склепе пад алтаром Дзісненскай Свята-Адзігітрыеўскай царквы. Там

цела свяшчэннамучаніка знаходзілася амаль 90 гадоў.

Увесь гэты час праваслаўныя вернікі Шаркаўшчыны ўшаноўвалі айца Канстанціна як бязвінна забітага ў часы бязбожных ганенняў. У памяць пра свайго настаяцеля прыхаджане змясцілі на сцяне яго партрэт, выкананы на аснове фатаздымка.

З 1995 года па благаславенню епіскапа Полацкага і Глыбоцкага Глеба (Савіна) у дзень памяці раўнаапостальнага Канстанціна, нябеснага апекуна іерэя Канстанціна Жданава, здзяйсняліся памінальныя богаслужэнні. 20 жніўня 2008 года труна з мошчамі свяшчэннамучаніка Канстанціна была паднята з царкоўнага склепа. Мошчы перакладзены ў новую труну і змешчаны ва Уваскрасенскім храме горада Дзісны.

У 2009 годзе рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы матэрыялы аб праведным жыцці і мучаніцкай канчыне іерэя Канстанціна Жданава былі накіраваны ў Сінадальную камісію па кананізацыі святых Рускай Праваслаўнай Царквы. А 3 чэрвеня 2011 года адбылося царкоўнае праслаўленне іерэя Канстанціна ў ліку мясцовашанаваных святых Полацкай епархіі. Памяць свяшчэннамучаніка Канстанціна, прасвітара Шаркаўшчынскага, адзначаецца 29 красавіка, у дзень яго праведнай канчыны, 3 чэрвеня, у дзень яго праслаўлення, а таксама ў Саборы навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай.

## МУЧАНІК-ДЗІЦЯТКА ГАЎРЫІЛ БЕЛАСТОЦКІ

***Памяць 20 красавіка/3 мая***

### Трапар мучаніку Гаўрыілу Беластоцкаму, глас 5

Святый младенче Гаврииле, / ты за Прободеннаго нас ради от иудей / люте от онехже в ребра прободен был еси / и за Истощившаго кровь Свою за нас / все тело твое на

истощение крове в лютыя язвы предал еси, / ныне же во славе вечней с Ним вселился еси. / Тем помяни и нас, молим, зде чтущих память твою, / прося нам здравие телеси // и спасение душам нашим.

Святы дзіцятка Гаўрыіле, / ты, за Працятага дзеля нас іудзеямі, / люта імі ж у рэбры працяты быў, / і за Таго, Хто праліў кроў Сваю за нас, / ты ўсё цела тваё на выцячэнне крыві і лютыя раны аддаў; / цяпер жа ў славе вечнай з Ім пасяліўся ты. / Таму, молім, памяні і нас, якія шануюць памяць тваю, / просячы нашым цёлам здароўе // і спасенне душам нашым.

Святы мучанік Гаўрыіл Беластоцкі, сын набожных земляробаў Пятра і Анастасіі Гоўдзеляў, нарадзіўся 22 сакавіка 1684 года ў вёсцы Звяркі каля Заблудава, што на Беласточчыне (цяпер Польшча). Хрысцілі дзіця ў храме Свята-Успенскага Заблудаўскага манастыра, аднаго з тых нямногіх, якія захоўвалі вернасць Праваслаўю ў XVII стагоддзі. Шасцігадоваму Гаўрыілу былі ўласцівыя незвычайныя ў яго ўзросце якасці душы: паслухмянасць, пакорлівасць, удумлівасць, схільнасць да малітвы і адзіноты.

11 красавіка 1690 года, калі бацькоў не было дома, хлопчыка выкраў арандатар па прозвішчы Шутко, член фанатычнай іудаісцкай секты. Дзіця было тайна вывезена ў Беласток і аддадзена на жорсткія катаванні, якія сталі прычынай пакутніцкай смерці. Праз пэўны час цела бязвінна забітага Гаўрыіла было знойдзена на жытнёвым полі, на ўскрайку лесу. Ні звяры, ні птушкі не кранулі цела мучаніка. Дзіцятка пахавалі паводле праваслаўнага абраду на могілках у Звярках. Пра гэтую трагічную падзею быў зроблены запіс у «праўных» кнігах заблудаўскай гарадской управы.

У 1720 годзе ўсю тэрыторыю цяперашняй Беласточчыны ахапіла эпідэмія, ахвяраю якой сталі тысячы людзей. У Звярках бацькі імкнуліся хаваць

памерлых дзетак бліжэй да магілы мучаніка Гаўрыіла. У час аднаго з пахаванняў, калі выпадкова зачапілі яго труну, выявілася, што цела дзіцяткі не было кранута тленнем. Народнае паданне звязвае з гэтай падзеяй шматлікія выпадкі цудоўных ацаленняў, а таксама і сканчэнне эпідэміі на Беласточчыне. Неўзабаве мошчы дзіцяткі Гаўрыіла з пашанай былі перанесены ў асобную крыпту Звяркоўскага храма. У 1746 годзе храм згарэў, аднак мошчы засталіся непашкоджанымі. Тады іх перанеслі ў храм Заблудаўскага манастыра.

У цяжкі для праваслаўных жыхароў Беласточчыны перыяд і ў сувязі з пагаршэннем матэрыяльнага становішча манастыра архімандрыт Міхаіл (Казачынскі) па благаславенню Кіеўскага мітрапаліта перанёс у 1755 годзе мошчы святога мучаніка Гаўрыіла ў Слуцкі Свята-Троіцкі манастыр. Хрэсны ход са святымі мошчамі прайшоў больш за 300 вёрст. На ўсім шляху праваслаўныя вернікі з блізкіх і далёкіх вёсак сустракалі мошчы з пашанай і пакланеннем. Праваслаўныя прасілі ў святога мучаніка дапамогі ў адстойванні бацькоўскай веры. Да грабніцы была прымацавана дошка з кароткімі звесткамі пра святога. Да гэтай падзеі архімандрыт Міхаіл склаў «Надгробак» — вершаваную аповесць пра жыццё і бязвінную смерць мучаніка.

У 1820 годзе адбылося афіцыйнае далучэнне мучаніка-дзіцяткі Гаўрыіла да ліку святых Рускай Праваслаўнай Царквы. Яшчэ ў 1752 годзе архімандрыт Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра Дасіфей (Галяхоўскі) склаў трапар і кандак святому, а ў 1855 годзе ігумен Слуцкага манастыра Мадэст напісаў малітву да яго. У 1891 годзе над ракай з мошчамі ўсталявалі ікону святога — дар вядомага мастака Івана Трутнева.

У 1897 годзе на добраахвотныя ахвяраванні вернікаў была выраблена новая срэбная рака, а ранейшая драўляная, па благаславенню епіскапа Беластоцкага Уладзіміра, у 1908 годзе перададзены ў Свята-Мікалаеўскі

сабор Беластока. Над новай ракай у Слуцку гарэла непагасная лампада — дар архіепіскапа Валынскага і Жытомірскага Антонія (Храпавіцкага). Святкаванне памяці мучаніка-дзіцяткі Гаўрыіла адбывалася два разы на год: 20 красавіка — у дзень яго мучаніцкага спачыну, і ў дзень Святога Духа. У гэты дзень мошчы ўрачыста абносілі вакол манастырскага Свята-Троіцкага сабора, а потым ставілі пасярод храма, каб вернікі маглі ім пакланіцца. Святы мучанік-дзіцятка Гаўрыіл ушаноўваўся праваслаўнымі як апякун хворых дзетак. У Слуцкім манастыры захоўвалася рукапісная кніга, у якой запісваліся выпадкі шматлікіх цудоўных ацаленняў, што адбываліся па малітвах перад ракай святога.

На пачатку XX стагоддзя ўшанаванне мучаніка-дзіцяткі Гаўрыіла распаўсюдзілася па ўсёй Расійскай імперыі. У дзень яго памяці ў Слуцкі Свята-Троіцкі манастыр збіраліся тысячы паломнікаў. Архіепіскап Антоній (Храпавіцкі), аўтар канона святому Гаўрыілу, адзначаў у 1914 годзе, што «такі наплыў паломнікаў ён назіраў толькі ў Пачаеве, ды і то зрэдку».

У красавіку 1914 года ў Слуцку адбыўся акт праслаўлення святога Гаўрыіла. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел каля 25 тысяч багамольцаў, у тым ліку архіепіскап Валынскі Антоній (Храпавіцкі), епіскап Мінскі Мітрафан (Краснапольскі) і епіскап Слуцкі Феафілакт (Кляменцьеў).

Яшчэ ў 1910 годзе Беластоцкі епіскап Уладзімір (Ціханіцкі) перанёс часцінку мошчаў святога Гаўрыіла ў Мікалаеўскі сабор Беластока, з 1912 года яна знаходзілася ў Супрасльскім Благавешчанскім манастыры. З пачаткам Першай сусветнай вайны драўляную раку з часцінкай мошчаў святога Гаўрыіла эвакуіравалі ў Маскву. Святыня знаходзілася ў Пакроўскім саборы на Краснай плошчы.

Пасля рэвалюцыі 1917 года настаяцель Пакроўскага сабора свяшчэннамучанік Іаан Васторгаў за абарону святыні быў арыштаваны ўладамі і ў 1918 годзе расстраляны. Рашэннем народнага суда было забаронена

выкарыстанне ў храмах Масквы тэкстаў трапара і кандака мучаніку Гаўрыілу «як контррэвалюцыйных». Рака з часцінкай мошчаў была здадзена ў Крымінальны музей, а затым трапіла ў музей атэізму. У 1920 годзе Савет народных камісараў пастанавіў правесці поўную ліквідацыю мошчаў. Далейшы лёс гэтай часцінкі невядомы.

Самі мошчы дзіцяткі Гаўрыіла ў 1930-я гады па рашэнню савецкай улады былі перададзены са Слуцка ў Мінскі музей атэізму, дзе яны знаходзіліся на пачатку Другой сусветнай вайны. У ваенны час мошчы мучаніка былі вернуты Царкве і знаходзіліся ў Мінскім Спаса-Праабражэнскім манастыры. У 1944 годзе часцінку святых мошчаў перанеслі на радзіму святога — у Свята-Успенскі храм Заблудава, другую — у прыход мястэчка Свіслач на Гродзеншчыне, дзе служыў свяшчэннік Аляксій Зноска, складальнік акафіста святому Гаўрыілу. У ліпені 1944 года святыя мошчы былі вывезены ў Гродна і змешчаны ў крыпце Свята-Пакроўскага сабора, там яны знаходзіліся да 1992 года.

22 верасня 1992 года па благаславенню архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы (цяпер мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы) і архіепіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Валянціна святыя мошчы былі ўрачыста перанесены з Гродна ў Свята-Мікалаеўскі сабор Беластока. У шматлюдным хрэсным ходзе ўдзельнічала каля 50-60 тысяч вернікаў. У кожным паселішчы мошчы заносілі ў храм, перад імі служылі малебны, чыталі акафіст.

Святы мучанік Гаўрыіл Беластоцкі глыбока ўшаноўваецца праваслаўнымі як у Польшчы, так і ў Беларусі. У яго гонар асвячоны храмы ў Іўі Лідскага раёна, прыдзел у царкве Сабору Беларускіх святых у Гродне. Часцінкі мошчаў захоўваюцца ў гродзенскіх Свята-Пакроўскім і Барыса-Глебскім храмах, у манастыры ў гонар Нараджэння Багародзіцы, а таксама ў

Свята-Міхайлаўскай царкве Шчучына. Паводле пераканання вернікаў, дзіцятка Гаўрыіл з'яўляецца малітоўным заступнікам хворых дзяцей і падлеткаў.

## СВЯЦІЦЕЛЬ КІРЫЛ, ЕПІСКАП ТУРАЎСКІ

***Памяць 28 красавіка/11 мая***

### Трапар свяціцелю Кірылу Тураўскаму, глас 4

Благочестия ревнителю и рачителю, / иноков и столпников похвало, / святителю Туровския паствы преславне, / златословесный учителю, / светлым учением богоразумия своего просветивый концы русския, / в молитве к Богу благодатный грешников споспешниче, / Кирилле богомудре, / моли Христа Бога утвердитися нам, соотечественником твоим, // во Православии, благочестии и единомыслии.

Набожнасці пабornік і руплівец, / манахаў і стоўпнікаў пахвала, / свяціцелю Тураўскай паствы слаўны, / залатаславёсны вучыцелю, / светлым вучэннем богапазнання свайго прасвяціў ты краі рускія, / у малітве да Бога благадатны грэшнікаў спрыяльнік, / Кірыле багамудры, / малі Хрыста Бога, каб умацаваліся мы, суайчыннікі твае, // у Праваслаўі, набожнасці і аднадумстве.

Свяціцель Кірыл, епіскап Тураўскі — самая славутая асоба, якую нарадзіла Турава-Пінская зямля. «Блажэнны Кірыл быў нараджэннем і выхаваннем з горада Турава, што ў рускім краі, багатых бацькоў сынам», — чытаем у жыціі свяціцеля, напісаным, верагодна, яшчэ ў XII стагоддзі. Нарадзіўся ён каля 1113 года ў арыстакратычнай сям'і. Яго бацька, відаць, займаў высокую пасаду ў атачэнні вялікага князя. Будучы свяціцель атрымаў тагачасную класічную грэчаскую

адукацыю, з дзяцінства дома (або пры манастыры) пад кіраўніцтвам настаўнікаў-грэкаў «асабліва старанна чытаў свяшчэнныя кнігі», глыбока асэнсоўваючы іх змест. Яго літаратурнабагаслоўская спадчына сведчыць, што акрамя славянскай ён валодаў грэчаскай мовай, прайшоў вышэйшы курс граматыкі, глыбока ведаў Свяшчэннае Пісанне, устаўную, апакрыфічную, агіяграфічную і святаайцоўскую літаратуру.

Яшчэ ў маладым узросце (каля 1123 года) Кірыл адмовіўся ад спадчыны бацькоў і прыняў пострыг у тураўскім Мікалаеўскім манастыры. Каля 1143 года прыняў святарскі сан, стаў іераманахам, а праз год па волі брацII стаў настаяцелем Мікалаеўскага манастыра ў сане ігумена. Згодна з жыціем, «і многім быў на карысць, навучаючы і настаўляючы манахаў быць у пакоры і паслушэнстве ігумену», «чарнец бо, які не слухаецца ігумена, згодна з абетам, не можа атрымаць спасення». На гэтую тэму напісаны твор «Сказанне пра чын чарнарызца», танальнасць якога сведчыць, што святіцель Кірыл рупліва клапаціўся пра манастырскі парадак і дысцыпліну, для чаго і перавёў з часам сваю абіцель на больш строгі Студыйскі статут. Гэта выклікала незадаволенасць часткі насельнікаў, што, відаць, і стала адной з прычын адмаўлення свяціцеля ад ігуменства і адасаблення ад брацii. Ён прыняў затворніцтва, пасяліўшыся ў слупе (асобна стаячай вежы) для ўзмоцненага малітоўнага подзвігу.

Аднак каля 1159 года, паводле «малення князя і народа», Кірыл вымушана пакінуў затвор і пайшоў на «грамадскае служэнне» — тураўскае веча выбрала яго на епіскапскую кафедру. Свяціцель прыклаў шмат намаганняў, каб уладкаваць царкоўнае жыццё Тураўскай епархіі, змагаўся з ерасямі і кананічнымі парушэннямі, займаўся прапаведніцкай і літаратурнай дзейнасцю. Свяціцель клапаціўся пра будаўніцтва новых храмаў. Верагодна, што якраз пры ім быў узведзены мураваны

сабор у тураўскім замку, які датуецца другой паловай XII стагоддзя і ад якога застаўся толькі фундамент.

Асабліва шырока разышлася слава пра епіскапа дзякуючы яго дару боганатхнёнага прапаведніцтва. Пропаведзі яго распаўсюджваліся вусна, запісваліся і змяшчаліся ў рукапісных зборніках побач са старажытнымі святаайцоўскімі творамі. У іх выкладзены асновы богапазнання, разумення свяціцелем чалавека і сусвету, хрысціянскай этыкі і маралі.

Схільны да адзіноты, праз некаторы час свяціцель пакінуў епіскапскую кафедру і, верагодна, прыняўшы вялікую схіму, цалкам прысвяціў сябе напісанню духоўных твораў. Лічыцца, што апошнія гады ён правёў у тураўскім Барыса-Глебскім манастыры на Балоні. Спачыў свяціцель Кірыл каля 1183 года. Пахаваны, паводле падання, на тураўскіх Барыса-Глебскіх могілках.

Царкоўнае ўшанаванне свяціцеля Кірыла пачалося, відаць, неўзабаве пасля яго смерці. Ужо ў рукапісным «Саборніку» XIII стагоддзя ён называецца «святым манахам». Магчыма, яшчэ ў XII стагоддзі ў Тураве невядомы аўтар напісаў пролагавае жыціе свяціцеля, а таксама склаў царкоўную службу. Дакладна невядома, калі адбылася афіцыйная кананізацыя святога, але ўшанаванне яго хутка распаўсюдзілася «па ўсёй зямлі Рускай».

Захавалася каля 70-ці твораў свяціцеля Кірыла Тураўскага розных жанраў. Сярод іх - «Аповесць пра беларызца і манашаства», «Сказанне пра чын чарнарызца», «Слова пра паходжанне манашаства», напісаныя ў час знаходжання свяціцеля ў манастыры, а таксама «Аповесць пра безразважнага цара і яго мудрага саветніка», прытчы «Пра сляпога і кульгавага», «Пра чалавечую душу і цела», тры Вялікія каноны, восем «слоў-павучанняў», 32 малітвы ды інш. Яго творы ўключаліся ў папулярныя зборнікі і анталогіі («Торжественник», «Златоуст»), некаторыя друкаваліся ў «Евангеллі

вучыцельным» (Заблудаў, 1569), «Малітвах паўсядзённых» (Вільня, 1596, 1635; Еўе, 1615).

Сучаснікі называлі тураўскага святціцеля «рускім Залатавустам». Пра сябе ён сціпла пісаў: «Я не жнец, а збіраю каласы; я не мастак у кніжных справах». І разам з тым ён заўжды ўсведамляў вышыню святціцельскага служэння, на якое яго паставіў Гасподзь. Да сваёй паствы ён звяртаўся з такімі словамі: «Калі б я казаў ад сябе, то вы рабілі б добра, не прыходзячы ў храм. Але я спавяшчаю вам Слова Госпада, чытаю вам грамату Хрыстову... Я раздаю словы Божыя, даражэйшыя за золата і каштоўныя камяні, саладзейшыя за мёд і соты, а вы страчваеце іх, не прыходзячы ў царкву... але тых, хто прыходзіць, я хвалю і благаслаўляю».

Мясцовае ўшанаванне святціцеля Кірыла не перапынялася і ў багаборчыя часы. Народ беражліва захоўваў паданні пра святціцеля, з пашанай і любоўю называючы яго «наш Кірылей». На тураўскіх Барыса-Глебскіх могілках устаноўлены крыж у памяць святціцеля. Побач узведзена капліца ў гонар святых Барыса і Глеба. У гонар святога дзейнічаюць храмы ў Брэсце, Гродне, Жабінцы, Светлагорску, вёсцы Баяры Пінскага раёна. У Тураве завяршаецці ўзвядзенне кафедральнага сабора ў гонар святціцеляў Кірыла і Лаўрэнція Тураўскіх. Стараннем беларускай дыяспары храм у гонар святціцеля дзейнічае і ў Нью-Ёрку. Імя Кірыла Тураўскага носіць Мінская духоўная акадэмія. На тураўскай Замкавай гары пастаўлены велічны помнік святціцелю.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК МАКАРЫЙ, МІТРАПАЛІТ КІЕЎСКІ

***Памяць 1/14 мая***

**Трапар свяшчэннамучаніку Макарыю Кіеўскаму, глас 8**

Божественныя Безкровныя совершая Жертвы,/ кровь твою, от безбожных агарян излиянную,/ в жёртву непорочную принесл еси Владыце твоему, Пастыреначальнику Христу. / Егоже моли, молим тя, пролити гнев на языки, хотящия браней; / христолюбивое воинство наше на враги укрепи / и стадо твоё всяких бед невреждено соблюди, / тебе бо крепкаго заступника почитаем, / новый священномучениче русский, святителю блаженный Макарие.

Бажэственныя Бяскроўныя прыносячы Ахвяры, / кроў сваю, бязбожнымі агаранамі пралітую, / у ахвяру беззаганную прынёс ты Уладару твайму, Пастыраначальніку Хрысту. /Яго ж малі, просім цябе, праліць гнеў на народы, што хочуць войнаў; /хрысталюбнае воінства наша на ворагаў умацуй / і статак твой ад усялякіх бед непашкоджаным захавай, / бо цябе як моцнага заступніка ўшаноўваем, / новы свяшчэннамучанік наш, свяціцелю блажэнны Макарые.

У «Сказанні пра святога Макарыя» (Кіеў, 1848) месцам нараджэння свяціцеля называецца Вялікае княства Літоўскае, час нараджэння — першая палова XV стагоддзя. Дасягнуўшы юначых гадоў, Макарый з благаславення набожных бацькоў пастрыгся ў манашскі сан і прысвяціў сябе служэнню Богу. Прыблізна ў 1472 годзе Кіеўскі мітрапаліт Сімяон узвёў Макарыя ў сан архімандрыта і прызначыў настаяцелем Свята-Троіцкага манастыра ў сталічнай Вільні. У гэтым сане Макарый прысутнічаў пры вянчанні вялікага князя Літоўскага Аляксандра з дачкой вялікага князя Маскоўскага Іаана III Аленай. У 1495 годзе, пасля смерці Кіеўскага мітрапаліта Іоны Глезны, архімандрыт Макарый быў рукапаложаны ў епіскапа і прызначаны мітрапалітам Кіеўскім.

Час, калі святы Макарый пачаў служэнне ў архіпастырскім сане, быў няпростым для Кіеўскай

праваслаўнай мітраполіі. Кіеў у той час быў напаўразбураным і жыць у ім было небяспечна з-за частых набегаў крымскіх і нагайскіх татараў. Таму мітрапаліт Макарый, як і яго папярэднікі, жыў у Вільні. Ён праяўляў клопат пра сваю паству, дбаў пра добраўпарадкаванне храмаў і манастыроў мітраполіі.

Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч праводзіў на абшарах Літоўскай Русі пракаталіцкую палітыку, выкарыстоўваючы і прымусовыя сродкі. Мітрапаліт Макарый рашуча адстойваў правы праваслаўных, пры гэтым ён імкнуўся не дапускаць умяшання свецкіх асоб у царкоўныя справы, хацеў мірна ўладкаваць іх.

Вясной 1497 года святіцель адправіўся ў Кіеў, мяркуючы заняцца ўладкаваннем мітрапалічага храма Святой Сафіі, які прыйшоў у запусценне з-за частых татарскіх нападаў. Праплываючы па Прыпяці, святіцель Макарый спыніўся ў сяле Скрыгалава, каб адслужыць літургію ў мясцовым храме. Згодна з паданнем, у гэты час прыйшла вестка пра нечаканы напад перакопскіх татараў. Паведаміўшы пра гэта ўладыку, вернікі запыталі ў яго: што рабіць? «Ратуйцеся, дзеткі, — усклікнуў святіцель, — а мне нельга: я аддаю сябе волі Божай». Людзі паспелі разбегчыся. Бязбожныя татары абступілі царкву, з крыкамі ўварваліся і адсеклі галаву архіпастыру, які ў гэты час здзяйсняў бяскроўную ахвяру. Паколькі ў мошчах свяшчэннамучаніка Макарыя няма косці правай рукі, то ёсць падставы думаць, што святіцель у час службы моцна трымаў у правай руцэ пацір, і зламыснікі, не маючы сілы адняць, адсеклі яму руку.

Цела святіцеля знайшлі ў балоцістай мясцовасці паміж рэкамі Прыпяць і Пціч праз даволі працяглы час, калі жыхары Скрыгалава вярнуліся да сваіх разрабаваных жытлаў. Нягледзячы на гарачыню, цела свяшчэннамучаніка заставалася нятленным. У хуткім часе вестка пра здарэнне дайшла да Кіева. Згодна з

паданнем, жыхары Скрыгалава разам з манахамі Кіева-Пячэрскай лаўры перавезлі нятленныя мошчы па Прыпяці і Дняпры да Кіева. Цела свяшчэннамучаніка паклалі ў правым прыдзеле Кіеўскага Сафійскага сабора. Менавіта да гэтай святыні імкнуўся падзвіжнік Божы, і тут яго пачэсныя мошчы знайшлі супакаенне. Побач быў пастаўлены і мітрапалічы кіпарысавы крыж. Неаднойчы пры мошчах свяціцеля адбываліся цуды, гэта стала прычынай яго ўшанавання народам Божым.

Пры мітрапаліце Кіеўскім, Галіцкім і ўсяе Русі Макарыі II (1534-1555) свяшчэннамучанік Макарый быў далучаны да ліку святых. Побач з ракай на таблічках змясцілі трапар, кандак і малітву свяціцелю. Штогод у дзень памяці яго мошчы абносілі вакол кіеўскага Сафійскага сабора. Святога Макарыя ўшаноўвалі на абшарах усяго Вялікага княства Літоўскага. У 1871 годзе прыдзел у імя свяшчэннамучаніка Макарыя асвячоны ў Віленскім Прачысценскім саборы.

У 1897 годзе да 400-годдзя спачыну свяціцеля Макарыя ў Кіеве была закладзена царква-школа ў яго гонар. Пасля рэвалюцыі яе закрылі і ператварылі ў склад. Адраджэнне храма адбылося ў 1950-я гады, калі ў ім правялі рэстаўрацыю, вырабілі дубовы іканастас і роспісы сцен. Сюды ж перанеслі часцінкі мошчаў свяшчэннамучаніка Макарыя. У 1947 годзе мошчы святога перанеслі ў Кіеўскі кафедральны сабор святога Уладзіміра. І цяпер мошчы знаходзяцца ў паўночнай частцы гэтага сабора.

Яшчэ ў 1890 годзе вядомы археолаг, царкоўны гісторык, багаслоў, прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, ураджэнец Беларусі Уладзімір Завітневіч, супаставіўшы дадзеныя з розных летапісных крыніц, прыйшоў да высновы, што мітрапаліт Макарый прыняў мучаніцкую смерць 1 мая 1497 года. Гэта адбылося ў панядзелак шостага тыдня пасля Пасхі. Зыходзячы з устойлівых мясцовых паданняў, даследчык удакладніў месца

спачыну мітрапаліта — урочышча Грычына. Ускосным пацверджаннем месца гібелі мітрапаліта ў Грычыне стаў знойдзены ў канцы мінулага стагоддзя нагрудны крыжэнкалпіён з выявамі: з аднаго боку — Распяцця, а з другога — архангела Міхаіла. Такі крыж мог належаць вышэйшаму царкоўнаму іерарху.

На месцы гібелі святіцеля Макарыя ў XIX стагоддзі па ініцыятыве Уладзіміра Завітневіча і жыхароў Скрыгалава быў пастаўлены помнік святіцелю — высокая цагляная стэла з іконай святога. Яна і цяпер узвышаецца на высокім беразе Прыпяці. Тады ж была збудавана капліца, якая таксама захавалася да нашага часу. Пасля рэвалюцыі Скрыгалаўскую Свята-Мікалаеўскую царкву перарабілі пад клуб. У пачатку 1990-х гадоў храм вярнулі праваслаўнай абшчыне, у 1999 годзе яго асвяцілі ў імя свяшчэннамучаніка Макарыя, мітрапаліта Кіеўскага.

## ПРАПАДОБНАМУЧАНІК МАКАРЫЙ, ІГУМЕН ПІНСКІ

***Памяць 13/26 мая і 7/20 верасня***

**Трапар прападобнамучаніку Макарыю Пінскаму, глас 4**

Христу, нас ради с Небес сошедшему, / последовал еси в подвизех твоих, Макарие, отче наш. / Егоже моли о нас, ублажающих тя, прощение прегрешений даровати нам, / любовию же и смирением сердца наша озарити / и спасти души наша.

За Хрыстом, Які дзеля нас з Нябёсаў сышоў, / ты следам пайшоў у подзвігах тваіх, Макарые, ойча наш. / Яго ж малі за нас, якія ўблажаюць цябе, прабачэнне саграшэнняў нашых дараваць нам, / любоўю і пакораю сэрцы нашы азарыць / і спасці душы нашы.

Прападобнамучанік Макарый Пінскі нарадзіўся ў 1605 годзе ў старажытным валынскім горадзе Оўручы ў

набожнай сям'і Такарэўскіх, вядомых сваёй адданасцю Праваслаўю. Бацькі выхоўвалі хлопчыка ў страху Божым, прывівалі любоў да малітвы і храма. Хутка юны падзвіжнік, «Збавіцеля Хрыста змоладу ўзлюбіўшы», назаўсёды пакінуў бацькоўскі дом і ў 1614 годзе паступіў у Оўруцкі манастыр у гонар Успення Прасвятой Багародзіцы. Малітва і чытанне святаайцоўскіх твораў сталі любімым заняткам маладога інака.

У 1625 годзе Макарый з благаславення архімандрыта пакінуў Успенскі манастыр і выправіўся да Пінскага епіскапа Аўраамія, які накіраваў яго ў Купяціцкі манастыр пад Пінскам. Там прападобны праславіўся падзвіжніцкім, дабрадзейным жыццём і ў 1630 годзе быў рукапалажаны епіскапам Лазарам (Барановічам) у сан іерадыякана, а праз два гады — у іераманаха. Тут Макарый пазнаёміўся з будучым прападобнамучанікам Афанасіем Філіповічам (Брэсцкім) і стаў яго паплечнікам і сябрам.

З 1637 года прападобны Макарый выконваў абавязкі настаяцеля Уваскрасенскага манастыра, заснаванага мітрапалітам Пятром Магілам у горадзе Камянцы. Пры ігуменстве Макарыя Камянецкі манастыр адбудаваўся і неўзабаве стаў важным цэнтрам Праваслаўя. Пры ім была заснавана школа для навучання дзяцей чытанню, Закону Божаму і творам святых айцоў.

З 1656 па 1659 год святы Макарый быў настаяцелем Купяціцкага манастыра, а з 1660, у сане архімандрыта, «да спасення вечнага праваслаўных людзей прыводзячы», святы Макарый кіраваў брацiяй роднага Оўручскага Успенскага манастыра. Гэта быў цяжкі час для праваслаўных хрысціян Вялікага княства Літоўскага. Рым праз каталіцкую Польшчу імкнуўся навязаць праваслаўным унію і лацінства. Уніяты і манахідамініканцы неаднойчы нападалі на абіцель прападобнага, рабавалі царкоўную маёмасць, білі і абражалі інакаў. Некаторыя з манахаў прасілі дазволу

пакінуць манастыр, але ўгоднік Божы Макарый не падаў духам і падбадзёрваў брацію надзеяй на нябеснае заступніцтва. «Паўтарайце, паўтарайце часцей словы прарока Давіда, — казаў ён, — Гасподзь — асвета мая і Спасіцель мой! Каго мне баяцца?..» І сэрцы інакаў умацоўваліся цвёрдай верай і надзеяй на Усемагутнага Бога.

У час наступу ўніятаў на абіцель, яны заклікалі святога Макарыя далучыцца да уніі, але «веры праваслаўнай бясстрашны абаронца» мужна адказваў: «Якое аб'яднанне магчыма для нас з вамі? Вы адмовіліся ад правілаў Усяленскіх Сабораў, прынялі паданні ілжы і замест таго, каб быць пад уладаю Начальніка Царквы Ісуса Хрыста, схіліліся перад зямным уладаром — рымскім папам». У адказ горад і абіцель былі разрабаваны, а праваслаўныя інакі разагнаны.

Прападобны Макарый перасяліўся ў Кіева-Пячэрскую лаўру. Там ён правёў у подзвігах два гады. Але такі руплівы абаронца Праваслаўя патрэбен быў не толькі ў Кіеве. Мітрапаліт Кіеўскі Іосіф (Нелюбовіч-Тукальскі) прызначыў архімандрыта Макарыя настаяцелем Канеўскага манастыра. Там угоднік Божы, «навучаючы ўсіх ісціннай веры і жыццю багаўгоднаму», праславіўся многімі цудамі і дабрадатным дарам празарлівасці. Мноства бедных, хворых і скрушных людзей прыходзілі да яго ў абіцель, каб атрымаць духоўную параду і ацаленне.

Аднойчы святы Макарый ацаліў сляпога жыхара горада Канева, сказаўшы пры гэтым: «Веруй і маліся Таму, Хто даў зрок сляпому». У час богаслужэння, калі прападобны прамаўляў малітву на асвячэнне вады, сляпы ўбачыў каля вачэй яркі прамень святла і раптоўна стаў бачыць. Ва ўдзячнасць Богу жыхар Канева пабудаваў храм у гонар Богаяўлення Гасподняга. Вядомы выпадак, калі прападобны Макарый «лянівага і непаслухмянага сына набожнай жанчыны» добрай парадай і малітвай

звярнуў да пакаяння. «Чытай адну малітву «Ойча наш», — казаў прападобны юнаку, — і ў ёй знойдзеш усё: і святло богапазнання, і ўрокі жыцця, і суцяшэнне, і сілу духу». Малітва так спадабалася юнаку, што ён пачаў часта чытаць яе і хутка стаў сумленным і дабрадзейным чалавекам.

За два гады да смерці прападобны Макарый прадказаў спусташэнне Канева і пакутніцкае заканчэнне свайго жыцця. Нягледзячы на гэта, ён нястомна заклікаў цвёрда і мужна вызнаваць святое Праваслаўе.

4 верасня 1678 года туркі і татары напалі на Канеў і ўварваліся ў манастыр. З крыжом у руках прападобны бясстрашна сустрэў варвараў на паперці храма. Татары сталі жорстка біць яго, патрабуючы сказаць, дзе схавана манастырскае золата і маёмасць. «Маё золата на Небе, а не на зямлі», — адказваў святы. Ворагі сталі збіваць яго палкамі, ламалі рукі і ногі жалезнымі прутамі. Але святы Макарый, молячыся да Госпада, цярпліва пераносіў пакуты. Праз два дні, 7 верасня 1678 года, мучыцелі адсеклі прападобнаму Макарыю галаву, а цела кінулі на плошчы. Хрысціяне тайна перанеслі святога ў манастырскую царкву і пахавалі пад ахвярнікам храма.

У 1688 годзе пры перабудове манастырскай царквы выпадкова была адкрыта труна прападобнага, у ёй знайшлі яго нятленнае цела. 13 (26) мая 1688 года адбылося ўрачыстае перанясенне мошчаў у Пераяслаўскую Уваскрасенскую царкву. Цяпер мошчы прападобнамучаніка знаходзяцца ў храме Успення Прасвятой Багародзіцы горада Чаркасы ва Украіне. У 2008 годзе ў гарадах Канеў і Чаркасы адбыліся ўрачыстасці з нагоды 330-годдзя з дня мучаніцкага спачыну прападобнамучаніка Макарыя, у іх прыняў удзел архіепіскап Пінскі і Лунінецкі Сцяфан. У Пінску дзейнічае хрысцільны храм, асвячоны ў гонар прападобнамучаніка Макарыя. Яго імя носіць маладзёжнае брацтва пры Свята-Варварынскім кафедральным саборы Пінскай

епархіі.

## ПРАВЕДНЫ ІААН КАРМЯНСКІ

***Памяць 18/31 мая І 27 жніўня/9 верасня***

**Трапар праведнаму Іаану Кармянскаму, глас 4**

Святче Божий, отче наш праведне Иоанне, / пресвитере славне стада Христова, / свято житие твое совершив, / дара прозрения и исцеления сподобился еси. / И ныне нетленным телесем с нами пребывая, / моли Христа Бога, // да спасет Господь души наша, почитающих, блаженне, святую память твою.

Святы Божы, ойча наш праведны Іаане, / прасвітар слаўны статку Хрыстовага, / у святасці жыццё сваё правёў ты, / дару празарлівасці і ацалення спадобіўся ты. / І цяпер, нятленным целам з намі застаючыся, / малі Хрыста Бога, / каб спас Гасподзь душы тых, хто ўшаноўвае, блажэнны, святую памяць тваю.

Нарадзіўся Іаан Гашкевіч у 1837 годзе ў мястэчку Стрэшын Магілёўскай губерні (цяпер Жлобінскі р-н Гомельскай вобл.). Яго бацька шмат гадоў служыў свяшчэннікам у мясцовым Пакроўскім храме. З ранніх гадоў Іаан разам з братам дапамагаў у храме. Паслушанне, праца і малітва, а таксама спадзяванне на Промысел Божы і на Пакроў Царыцы Нябеснай з маладых гадоў сталі галоўнымі рысамі айца Іаана. Пачатковую адукацыю ён атрымаў у царкоўна-прыходскай школе, затым скончыў гімназію і Магілёўскую духоўную семінарыю (1859). У 1862 годзе архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Яўсевій (Арлінскі) рукапалажыў Іаана Гашкевіча ў сан іерэя і накіраваў служыць у царкву Нараджэння Багародзіцы вёскі Шарсцін Рагачоўскага павета.

Малады 25-гадовы іерэй Іаан з матушкай Марыяй

прыехалі на новае месца жыхарства напярэдадні Вялікага посту, і гэта сімвалічна адбілася на ўсім іх далейшым жыцці, якое прайшло ў малітвах і працы, посце і пакаянні. За 14 гадоў жыцця ў вёсцы Шарсцін у сям'і Гашкевічаў нарадзілася чацвёра дзяцей: трое сыноў — Міхаіл, Ігнацій, Сімяон і дачка Таццяна. З часам Міхаіл і Сімяон сталі свяшчэннікамі, Ігнацій — псаломшчыкам, а Таццяна — настаўніцай царкоўна-прыходскай школы.

У 1876 годзе ва ўзросце 39 гадоў айцец Іаан быў пераведзены ў вёску Агародня Гомельскага павета, дзе стаў настаяцелем мясцовай царквы. Храм у гонар святціцеля Мікалая ў вёсцы Агародня стаў месцам узмоцненага малітоўнага подзвігу святара. На гэтым месцы служэння ў поўнай меры Гасподзь раскрыў духоўныя здольнасці Свайго выбранніка. На новым прыходзе бацюшка прыклаў шмат намаганняў для наладжвання прыходскага жыцця і добраўпарадкавання храма. Неўзабаве айцец Іаан наведаў Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе атрымаў ад старцаў благаславенне весці строгі аскетычны лад жыцця. Бацюшка да смерці не ўжываў мясной ежы і трымаў строгі пост у сераду і пятніцу, толькі пасля вячэрняга богаслужэння дазваляў сабе з'есці прасфару і выпіць крыху вады, ночы праводзіў у малітве. Розум свой бацюшка заўсёды займаў Іісусавай малітвай, навучаючы гэтаму сваіх сыноў і духоўных дзяцей. На богаслужэнне да яго прыходзілі людзі з суседніх паселішчаў, каб наталіцца благадаццю ад сумеснай малітвы з «пастырам добрым».

Любоў да бліжняга, якую прапаведаваў, айцец Іаан пацвярджаў канкрэтнымі справамі, часта паўтараючы словы апостала Іакава: «Вера без спраў мёртвая» (Іак. 2, 20). У Агародні і ваколіцах людзі памятаюць і перадаюць з пакалення ў пакаленне гісторыі, якія сведчаць пра надзвычайную дабрыню, міласэрнасць і празорлівасць свайго пастыра. Аднойчы айцец Іаан заўважыў, што нехта з яго двара бярэ ноччу дровы, і вырашыў высачыць

зламысніка. Калі ж ён заўважыў, што прыйшла бедная ўдава, то сказаў: «Пачакай, памагу табе, а то цяжка падняць». Калі ж жанчына ўзмалілася, просячы прабачэння, старац сказаў: «Бог благаславіць, бяры дровы, грэй печку дзецям...». У час Першай сусветнай вайны бацюшка клапаціўся пра абяздоленых, з беднымі дзяліўся апошнім, шматдзетнай сям'і аддаў сваю карову.

У канцы жыцця айцец Іаан атрымаў ад Госпада дар ацалення, у тым ліку беснаватых. Прапаведуючы слова Божае, айцец Іаан заклікаў усіх да пакаяння: «Хутка Гасподзь пралье на нас чашу гневу Свайго, калі мы не пакаемся, як ніневіцяне», — часта паўтараў ён і прарочыў, што будучае пакаленне ўбачыць у храмах мярзоту запусцення. Гэтыя словы збыліся ў хуткім часе пасля яго спачыну. У 1926 годзе храм у Агароднi закрылі, а святара — малодшага сына айца Іаана — адправілі ў высылку.

У 70 гадоў айцец Іаан быў узведзены ў сан протаіерэя, меў узнагароды — набедранік, скуф'ю, камілаўку, залаты нагрудны крыж. У 75 гадоў бацюшка выйшаў за штат па ўзросту і стану здароўя, саступіўшы месца свайму малодшаму сыну Іаану.

У дзень спачыну праведнага Іаана восенню 1917 года, як ён і прадказваў, было пагодна, сонечна. Сыны перанеслі бацюшку ў храм, дзе ён знаходзіўся тры дні. Пахавалі яго з правага боку ад алтара. У свой час айцец Іаан казаў: «Будуць скакаць на мне, ды труна моцнай будзе». Так і выйшла: у 1950-я гады храм спалілі, а ўсё, што засталося ад пажару, у тым ліку надмагільныя пліты і крыжы, згрэблі бульдозерам у роў. На роўным месцы наладзілі футбольнае поле і пляцоўку для танцаў. І толькі ў 1997 годзе пры раскопках фундамента царквы зачапілі труну... Вось тады людзі і ўспомнілі пра свайго забытага пастыра.

Аднойдзенне мошчаў айца Іаана супала з прыездам у Гомель Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія ІІ.

Напярэдадні прыезду Святейшага мошчы былі перанесены ў храм Пакрова Багародзіцы ў вёсцы Карма Добрушскага раёна. Гэты храм айцец Іаан закладаў і асвячаў у 1903 годзе.

У 1991 годзе створана камісія з трох святароў, якая засведчыла нятленнасць мошчаў праведнага Іаана. У 1997 годзе рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы мошчы святога перанесены ў Пакроўскі храм вёскі Карма. А праз год адбылося ўрачыстае царкоўнае праслаўленне Іаана Кармянскага і далучэнне яго да ліку святых зямлі Беларускай. У 2000 годзе Свята-Пакроўскі прыход у Карме пераўтвораны ў жаночы манастыр у імя святога праведнага Іаана Кармянскага. Манастыр уключае храмы — Пакроўскі і ў гонар Стрэчання Гасподняга (дамовы), манашаскі корпус і гасцініцу для паломнікаў. Пры манастыры стараннем насельніц створаны бібліятэка, швейная і залаташвейная майстэрні. Сёння вёска Карма стала месцам паломніцтва вернікаў з Беларусі і суседніх краін. Цэрквы ў гонар праведнага Іаана Кармянскага дзейнічаюць ў Гомелі, вёсках Глінянкі Кобрынскага і Малыя Лётцы Віцебскага раёнаў.

## ПРАПАДОБНАЯ ЕЎФРАСІННЯ, ІГУМЕННЯ ПОЛАЦКАЯ

***Памяць 23мая/5 і 24мая/6 чэрвеня***

### Трапар прападобнай Еўфрасінні Полацкай, глас 4

Подражающи дванадесятолетна дванадесятолетну Христу, / учившему во святилищи Божию слову, / последовала еси, Евфросиние. Славу временную и земнаго обручника оставльши / и вся мирская презревши, краснейшему паче всех Христу себе уневестила еси, / крест вземши, путем ангельскаго жития шествующи и многия к Нему наставляющи, / во благоухании мира в Небесный чертог востекла еси, //

идеже моли, Егоже возлюбила еси, о чтущих благочестно память твою.

Па прыкладу дванаццацігадовага Хрыста, / Які вучыў у храме Божаму слову, / зрабіла ты, дванаццацігадовая Еўфрасіння, славу часовую і зямнога жаніха пакінуўшы, / і ўсім мірскім пагарджаючы, прыгажэйшаму за ўсіх Хрысту сябе ўнявесціла ты; / крыж узяўшы, шляхам ангельскага жыцця ідучы і многіх да Яго звяртаючы, / у духмянасці міра ў Нябесны хорам узышла ты; / там малі Таго, Якога ўзлюбіла ты, за шануючых набожна памяць тваю.

Паходзіла святая Еўфрасіння са старажытнага роду полацкіх князёў, якія вялі пачатак ад князя Ізяслава — сына святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Нарадзілася яна, паводле розных крыніц, у перыяд паміж 1102 і 1104 годам у сям'і князя Георгія Усяславіча, сына Усяслава Полацкага. З дзіцячых гадоў Прадслава (гэта яе свецкае імя) уражвала выдатнымі здольнасцямі і выхаваннем. З дзяцінства мела вялікую любоў да малітвы і кніжнай навукі. Калі бацькі пачалі думаць пра шлюб дачкі, дванаццацігадовая Прадслава, адхіліўшы ўсялякія прапановы, цвёрда вырашыла прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу. Неўзабаве яна прыняла ў адным з полацкіх манастыроў пострыг з імем Еўфрасіння, у гонар святой прападобнай Еўфрасінні Александрыйскай.

Па благаславенню Полацкага епіскапа Іліі княжна-інакіня стала жыць у келлі пры полацкім Сафійскім саборы, дзе «сэрца сваё напойвала Божай прамудрасцю». Яна займалася вывучэннем Свяшчэннага Пісання, чытаннем і перапісваннем кніг, вывучыла, відаць, грэчаскую мову, стаўшы адной з самых адукаваных жанчын таго часу.

Аднойчы ў сне Еўфрасінні явіўся ангел і ўказаў новае месца для падзвіжніцкага служэння — загараднае Сяльцо, дзе было падвор'е Полацкай епіскапскай кафедры з

драўлянай царквой у гонар Спаса і пахавальняй епіскапаў. Прыкладна ў 1125 годзе епіскап Ілія благаславіў Еўфрасінню на заснаванне ў Сяльцы жаночага манастыра, прызначыўшы яе ігуменняй.

У новазаснаванай абіцелі ў гонар Праабражэння Гасподняга святая адкрыла школу, дзе навучала дзяцей розных саслоўяў чытанню, перапісванню кніг, спевам, рукадзеллю і іншым рамёствам. Сама яна, як мяркуюць, пісала летапісы, складала малітвы і павучальныя словы, усё жыццё імкнулася да духоўнага ўдасканалення. Славілася прападобная сваёй здольнасцю прымірыць варагуючых і справядліва рассудзіць спрэчку. Сярод першых насельніц манастыра былі малодшая сястра Еўфрасінні Градзіслава, у манашастве Еўдакія, стрыечная сястра Звеніслава, якая прыняла пострыг з імем Еўпраксія, а таксама пляменніцы Агафія і Яўфімія. Прападобная Еўфрасіння наладзіла жыццё манахінь «у адну душу», усе яны «адным сэрцам і адною думкаю» ўзносілі малітвы да Бога. Еўфрасіння навучала насельніц цярпенню, устрыманню, душэўнай чысціні і пакорнасці волі Божай.

На сродкі, ахвяраваныя князямі і гараджанамі, прападобная Еўфрасіння займалася добраўладкаваннем манастыра. Каля 1132 года па яе просьбе дойлід Іаан узвёў мураваны храм у гонар Святога Спаса. Жыціе Еўфрасінні апавядае пра цуд, які адбыўся пры будаўніцтве храма — па яе малітвах з'явілася неабходная для завяршэння будаўніцтва плінфа. Храм Спаса — найкаштоўнейшы помнік беларускага храмавага дойлідства, які захаваўся да нашага часу. Паводле падання, Еўфрасіння жыла ў келлі Спаса-Праабражэнскай царквы, справа ад хораў.

Пазней прападобная заснавала яшчэ і мужчынскі манастыр у гонар Святой Багародзіцы. Для яго па просьбе Еўфрасінні Канстанцінопальскі патрыярх Лука Хрысаверг даслаў цудатворны Эфескі вобраз Маці Божай. Ікону

ўпрыгожылі золатам, каштоўнымі камянямі ды змясцілі ў манастырскай царкве. Кожны аўторак святыню выносілі з храма і абходзілі з ёю ўсе гарадскія цэрквы. Цяпер у манастыры маецца спісак Эфескай іконы Божае Маці, які таксама ўшаноўваецца як цудатворны.

Па просьбе прападобнай у 1161 годзе мясцовы майстар Лазар Богша вырабіў каштоўны напрастольны крыж-машчавік — унікальны помнік старабеларускага ювелірнага мастацтва XII стагоддзя, які прападобная Еўфрасіння прынесла ў дар царкве Святога Спаса. У крыж былі змешчаны святыя рэліквіі, відавочна прывезеныя з Візантыі. Еўфрасіння пакінула запавет, каб крыж на ўсе часы заставаўся ў Полацку, у манастыры Спаса. Так было на працягу 100 гадоў. Потым крыж вывозілі ў Смаленск і Маскву, у 1563 годзе ён быў вернуты ў Полацк і знаходзіўся там да 1921 года. У 1941 годзе крыж знік з Магілёўскага музея, і яго месцазнахолданне да гэтага часу невядома. У 1997 годзе ў храме ўрачыста асвяцілі ўзноўлены вобраз (копію) крыжа, выраблены сучасным майстрам Мікалаем Кузьмічом.

Заснаваныя прападобнай манастыры сталі асяродкамі асветы ў Полацкім княстве, пры іх працавалі школы, бібліятэкі, скрыпторыі, магчыма, іканапісныя і ювелірныя майстэрні, прытулкі для бедных.

Незадоўга да смерці прападобная Еўфрасіння з пляменнікам Давідам і сястрой Еўпраксіяй выправілася ў паломніцтва да Святой Зямлі, даручыўшы заснаваныя ёю манастыры клопатам сястры Еўдакіі. Пакланіўшыся святыням Канстанцінопаля, прападобная дайшла да Іерусаліма, дзе спынілася ў рускім манастыры Прасвятой Багародзіцы. Полацкая ігумення пакланілася Гробу Гасподняму, ахвяравала для яго залатую кадзільніцу і іншыя дары.

Неўзабаве прападобная занемагла. Прадчуваючы блізкую канчыну, яна запаведала пахаваць яе ў лаўры святога Савы, аднак там было забаронена хаваць

жанчын. Спачыла прападобная 23 мая 1173 года, цела яе было пахавана ў храме пры лаўры святога Феадосія Вялікага пад Іерусалімам. Прыкладна ў 1187 годзе ў сувязі з асадай егіпецкім султанам Іерусаліма мошчы святой перанесены ў Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе ў пячорным Благавешчанскім храме яны знаходзіліся больш за 700 гадоў. Прападобная Еўфрасіння стала першай з усходнеславянскіх жанчын, удастоеных быць пахаванымі ў лаўры.

У канцы XIX  пачатку XX стагоддзя жыхары Полацка і ўсёй Полацкай епархіі неаднойчы звярталіся ў Сінод з хадайніцтвам аб перанясенні мошчаў з Кіева ў Полацк.

20 красавіка 1910 года пачалося ўрачыстае перанясенне пачэсных мошчаў прападобнай на радзіму. 22 красавіка хрэсным ходам мошчы перанеслі на параход, на якім па Дняпры яны следавалі да Оршы. Ад Оршы да Полацка веруючыя з пашанай неслі святыню на руках. 20 мая хрэсны ход з мошчамі прыбыў у Полацк. 22 мая святыня ўрачыста ўнесена ў Спаскі храм Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Для мошчаў была выраблена каштоўная кіпарысавая рака, абкладзеная срэбрам і пазалочанымі рэльефамі, упрыгожаная высокамастацкімі эмалевымі выявамі і арнаментамі.

У час Першай сусветнай вайны святыя мошчы разам з іншымі манастырскімі каштоўнасцямі былі эвакуіраваны ў Растоў Вялікі (Расія) і змешчаны ў Богаяўленскім Аўрааміевым манастыры. У1920 годзе стараннем сясцёр Полацкага манастыра святыя мошчы вярнуліся на радзіму.

У 1920 годзе паводле пастановы Народнага камісарыята юстыцыі РСФСР мошчы прападобнай былі кашчунна ўскрыты. Праз некаторы час насельніцам манастыра ўдалося вярнуць святыню ў Полацк. 13 мая 1922 года грабніца з мошчамі прападобнай Еўфрасінні зноў была ўскрыта, а рака канфіскавана ўладамі. Мошчы святой былі адпраўлены на атэістычную выстаўку ў

Маскву, а затым — у Віцебскі краязнаўчы музей.

У перыяд Вялікай Айчыннай вайны веруючыя перанеслі нятленныя мошчы святой з музея ў Віцебскую Свята-Пакроўскую царкву, а ў 1943 годзе дабіліся дазволу на вяртанне мошчаў у Полацкі жаночы манастыр. З таго часу яны знаходзяцца ў абіцелі і глыбока ўшаноўваюцца насельніцамі манастыра і вернікамі. У 2007 года мошчы перакладзены ў новую срэбную грабніцу, вырабленую брэсцкім мастаком-ювелірам Мікалаем Кузьмічом.

Царкоўнае ўшанаванне святой Еўфрасінні пачалося яшчэ ў XII стагоддзі, а афіцыйная каканізацыя адбылася ў 1547 годзе. Самае старажытнае песнапенне ў яе гонар змешчана ў Сціхірары канца XII — пачатку XIII стагоддзя. Каля 1187 года складзе на яе Жыціе, якое захавалася ў мностве спіскаў. Найбольш старажытнымі выявамі прападобнай Еўфрасінні лічацца фрэска (на жаль, лік на ёй страчаны) пры ўваходзе ў келлю на хорах Спаскай царквы ў Полацку (XII ст.), вобраз з іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра (1685), выява на фелоні з Успенскага сабора Кіева-Пячэрскай лаўры (1750), палатно з выявай прападобнай Еўфрасінні ў поўны рост з трапезнай царквы Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра (1-я трэць XIX ст.). У Дальніх пячорах Кіева-Пячэрскай лаўры маецца ікона з часцінкамі мошчаў прападобнай. На ёй святая выяўлена ў аблачэнні схімніцы, з кукалем на галаве, з заплюшчанымі вачыма і з рукамі, складзенымі крыжападобна. Вобраз прападобнай Еўфрасінні прысутнічае на групавых іконах «Сабор Кіева-Пячэрскіх святых», «Сабор святых жанчын, праслаўленых на Рускай зямлі», «Сабор Беларускіх святых».

У гонар прападобнай будуюцца і асвячаюцца цэрквы не толькі ў Беларусі, але і за мяжой, там, дзе жывуць нашы суайчыннікі. Помнікі ёй устаноўлены ў Полацку, Мінску, Рэчыцы. У 2007 годзе ў Беларускім Экзрхаце заснаваны ордэн і медаль Еўфрасінні Полацкай з яе

выявай. Імі ўзнагароджваюцца прадстаўнікі духавенства і міран за шматгадовае плённае служэнне і заслугі перад Царквой і Айчынай.

## СВЯЦІЦЕЛЬ ДЗІЯНІСІЙ, ЕПІСКАП ПОЛАЦКІ

***Памяць у Нядзелю 3-ю пасля Пяцідзесятніцы***

### Трапар свяціцелю Дзіянісію Полацкаму, глас 2

Славнаго града Полотска архипастырю, / веры и благочестия ревнителю, / подвигом добрым подвизался еси, / ко спасению ближних наставляя, / преподобную Евфросинию сподвижницу имел еси. / И нам, святителю Дионисие, // посли твое благословение.

Слаўнага горада Полацка архіпастыр, / веры і набожнасці руплівец, / подзвігам добрым падзвізаўся ты, / да спасення бліжніх настаўляючы, / прападобную Еўфрасінню паплечніцаю меў ты. / І нам, свяціцелю Дзіянісіе, // пашлі тваё благаславенне.

Гістарычныя звесткі пра жыццёвы шлях свяціцеля Дзіянісія не захаваліся. Вядома толькі, што быў ён чацвёртым з епіскапаў Полацкіх, чые імёны дайшлі да нас. Ён узначальваў Полацкую епархію Пасля ўладыкі Казьмы, які спачыў пасля 1156 года. А пераемнікам епіскапа Дзіянісія на Полацкай кафедры стаў епіскап-грэк Мікалай.

Верагодна, што Дзіянісій быў выхадцам з манахаў Кіева-Пячэрскай лаўры. У епіскапскі сан, на думку даследчыкаў, ён быў рукапалажаны ў перыяд паміж 1156 і 1167 гадамі. У жыцці Еўфрасінні Полацкай апавядаецца, што менавіта ўладыка Дзіянісій здзейсніў манашаскі пострыг дзвюх стрыечных сясцёр прападобнай Еўфрасінні. Гэта адбылося непасрэдна перад яе паломніцтвам у Святую Зямлю, пачатак якога адносіцца

да зімы 1166-1167 года. Уладыка Дзіянісій благаславіў прападобную Еўфрасінню ў далёкае падарожжа па святых месцах.

Відавочна, што свяціцель Дзіянісій быў ініцыятарам царкоўнага праслаўлення Еўфрасінні Полацкай. Пры ім былі напісаны жыціе і служба святой княжне-ігуменні.

Згодна з паданнем, свяціцель Дзіянісій быў адным з выдатных праваслаўных падзвіжнікаў свайго часу, ён вёў строгае і праведнае жыццё, клапаціўся пра сваю паству, быў міласэрны да людзей простых, бедных і гаротных.

Памёр свяціцель, згодна з летапіснымі сведчаннямі, каля 1182 года. Невядома, ці быў ён пахаваны ў адным з полацкіх манастыроў, ці мошчы яго былі перанесены ў Кіева-Пячэрскую лаўру.

Гісторыя не захавала звестак і пра кананізацыю свяціцеля, аднак царкоўнае паданне сведчыць пра народную памяць пра ўладыку. Асабліва яго шануюць у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры і ў Полацкай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

## ДАБРАВЕРНЫ КНЯЗЬ БАРЫС ТУРАЎСКІ

***Памяць у Нядзелю 3ю пасля Пяцідзесятніцы***

### Трапар дабравернаму князю Барысу Тураўскаму, глас 8

Суету врменныя жизни уразумев, / междоусобиц и распрей уклонився, / нетлённыя славы сподобился еси, / благоверный княже Борисе. / Моли прилежно Единосущную Троицу, / державе сродник твоих богоугодней быти // и сыновом земли нашея спастися.

Марнасць часовага жыцця спасцігнуўшы, / ад міжусобіц і сварак ухіліўшыся, / нятленнай славы спадобіўся ты, дабравёрны княжа Барысе. / Маліся дбайна Адзінасутнай Троіцы, / каб дзяржаве суродзічаў

тваіх быць богаўгоднаю // і сынам зямлі нашае спасціся.

Пра жыццё дабравернага князя Барыса летапісы захавалі вельмі скупыя звесткі. Паходзіў ён з дынастыі кіеўскіх князёў, быў сынам князя Юрыя Далгарукага, унукам Уладзіміра Манамаха. Яго старэйшы брат Андрэй Багалюбскі быў шырока вядомы не толькі як воін, але і як асветнік, заснавальнік храмаў.

Князь Барыс згадваецца ўпершыню ў 1147 годзе як удзельнік барацьбы за кіеўскі прастол. Стаўшы ў 1147 годзе вялікім князем кіеўскім, яго бацька Юрый Далгарукі падзяліў паміж сваімі дзецьмі Кіеўскую вобласць, надаўшы Барысу Белгарад пад Кіевам. Аднак неўзабаве Барыс страціў сваю вотчыну ў міжусобнай барацьбе.

У 1155 годзе Барыс атрымаў ад бацькі гарады Тураў і Пінск, аднак і там яму ўдалося ўтрымацца толькі два гады. Апошняя летапісная згадка пра князя Барыса датуецца 1158 годам, у ёй паведамляецца пра яго спачын у Суздальскай зямлі: «Мая 4 дня спачыў Барыс Юр'евіч і пахаваны ў царкве святых мучанікаў Барыса і Глеба на Нерлі ў Кідзекшы, якую пабудаваў яго бацька Юрый». Там жа былі пахаваны яго жонка і дачка Еўфрасіння.

Больш за пяць стагоддзяў цела дабравернага князя Барыса знаходзілася ў каменнай грабніцы. У 1675 годзе засведчана нятленнасць мошчаў князя, пра што было паведамлена архіепіскапу Суздальскаму Сцяфану. З таго часу, верагодна, пачалося народнае ўшанаванне дабравернага князя. Аднак афіцыйнае царкоўнае праслаўленне адбылося толькі ў 1982 годзе ў Саборы Уладзімірскіх святых. У 2002-м дабраверны князь Барыс далучаны да Сабору Беларускіх святых.

## СВЯЦІЦЕЛЬ МІНА, ЕПІСКАП ПОЛАЦКІ

***Памяць 20 чэрвеня / 3 ліпеня***

**Трапар свяціцелю Міну Полацкаму, глас 1**

Киевских подвижников достойный наследниче, / престолом Полотския Софии возвеличенный, / граду и людем помощник являешися, / святителю отче наш Мино. / Слава Давшему тебе благодать, / слава Венчавшему тя, // слава Действующему тобою Спасителю Богу.

Кіеўскіх падзвіжнікаў наследнік дастойны, / прастолам Полацкай Сафіі ты ўзвялічаны, / гораду і людзям памочнікам з'яўляешся, / свяціцелю ойча наш Міна. / Слава Таму, Які даў табе благадаць, / слава Таму, Які ўвянчаў цябе, // слава Спасіцелю Богу, Які дзейнічае праз цябе.

Епіскап Міна здзяйсняў сваё архіпастырскае служэнне ў тыя часы, калі святло веры Хрыстовай яшчэ толькі пачынала распаўсюджвацца на наіцых землях. Час і месца нараджэння свяціцеля нам невядомы. Але можна меркаваць, што адбылося гэта не пазней за 1065 год у Полацку або ў яго наваколлі. У старажытным Полацку прайшлі яго дзяцінства і юнацтва, тут закладаліся асновы і першыя вопыты духоўнага падзвіжніцтва. Дасягнуўшы паўналецця, будучы епіскап накіраваўся ў вядомы КіеваПячэрскі манастыр. Там праз кароткі час прыняў манашаскі пострыг і з інацкай руплівасцю і пакорным сэрцам уступіў на шлях малітоўнага падзвіжніцтва, самаахвярнага служэння Богу і бліжняму.

Хіратонія ў епіскапа, як паведамляецца ў Іпацьеўскім і Лаўрэнцьеўскім летапісах, адбылася 13 снежня 1105 года. Здзейсніў хіратонію, верагодна, мітрапаліт Кіеўскі Нікіфар, які сам раней займаў Полацкую кафедру. Епіскап Міна згадваецца ў «Пацерыку Пячэрскім» (Кіеў, 1661) сярод іншых епіскапаў, выхаванцаў Кіева-Пячэрскага манастыра, якія «не свонм взысканнем, но Божннм понужденнем от глубнны пеіцерныя на высоту Престолов святнтельскнх вознесошася…»

Епіскап Міна ўзначаліў Полацкую епархію ў той час,

калі ў яе ўваходзіла пераважная большасць земляў сучаснай Беларусі. Яго свяціцельскімі малітвамі і клопатамі ўладкоўваліся храмы і манастыры, выхоўваліся новыя пакаленні пастыраў, акармлялася полацкая паства. Кафедральным храмам свяціцеля быў знакаміты сабор у гонар Святой Сафіі, Прамудрасці Божай, які ў перабудаваным выглядзе захаваўся да нашых дзён. Пра высокі стан асветы і маралі тагачасных палачанаў сведчыць факт, што якраз пры епіскапе Міну ўзрасла і прыняла інацкі пострыг прападобная Еўфрасіння Полацкая. Епіскап Міна, як і ншыя полацкія ўладыкі, карыстаўся надзвычай высокім аўтарытэтам, браў чынны ўдзел у справах Полацкага княства і ўсёй Кіеўскай мітраполіі. Вядомы, напрыклад, факт яго ўдзелу ва ўрачыстым перанясенні мошчаў святых мучанікаў Барыса і Глеба ў Кіеў у 1115 годзе.

Спачыў свяціцель летам 1116 года, пра што згадваецца ва Уваскрасенскім летапісе: «Того же лета преставнлся Мнна, епнскоп Полоцкнй нюня 20». Невядома, калі адбылася кананізацыя епіскапа Міны. Верагодна, што праслаўленне было здзейснена не адразу пасля спачыну, бо ў жыцціі прападобнай Еўфрасінні Полацкай пра гэта не згадваецца. У XIX стагоддзі ён лічыўся мясцовашанаваным як іерарх з ліку Кіева-Пячэрскім інакаў.

Невядома дакладна, дзе быў пахаваны свяціцель Міна. Але можна меркаваць, што яго святыя мошчы спачываюць каля Праабражэнскага храма СпасаЕўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Бо вядома, што яго пераемнік, епіскап Полацкі Ілія, даруючы прападобнай Еўфрасінні для заснавання манастыра Сяльцо, якое належала архіерэйскаму дому, сказаў: «Есть там церковь Всемнлостнваго Спаса, ндеже братня наша лежат, прежде нас бывшне епнскопы». На пачатку 1990х гадоў на тым месцы ўсталявалі памятны крыж.

У 1984 годзе свяціцель Міна разам з іншымі святымі

падзвіжнікамі быў уключаны ў Сабор Беларускіх святых. У 2005 годзе ў гарадскім пасёлку Івянец Мінскай вобласці асвячоны ніжні храм у гонар свяціцеля Міны, епіскапа Полацкага.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК МІТРАФАН, АРХІЕПІСКАП АСТРАХАНСКІ

**Памяць *23 чэрвеня / 6 ліпеня***

**Трапар свяшчэннамучаніку Мітрафану Астраханскаму, глас 3**

Воронежския земли прозябение, / во иночестве святителю Митрофану тезоименитый, / страну Белорусскую труды своими украсивый, / слова Божия проповедниче велегласный, / Собора Поместнаго уста богодухновенная, / Патриарха Тихона сработниче верный, / во граде Астрахани священномученика Иосифа прославивый, / егоже преемник на престоле и в страданиих явился еси,/ отче наш Митрофане, / моли Христа Бога // о спасении всех почитающих тя.

Варонежскай зямлі парастак, / у інацтве свяціцелю Мітрафану тэзаімяніты, / край Беларускі працаю сваёю ўпрыгожыў, / слова Божага прапаведнік гучнагалосы, / Сабору Паместнага вусны боганатхнёныя, / Патрыярха Ціхана паплечнік верны, / у горадзе Астрахані свяшчэннамучаніка Іосіфа праславіў ты / і яго пераемнікам на прастоле і ў пакутах стаў, / ойча наш Мітрафане, маліся Хрысту Богу // за спасенне ўсіх, хто ўшаноўвае цябе.

Нарадзіўся будучы свяціцель у 1869 годзе ў Варонежскай губерні ў сялянскай сям'і. Адукацыю атрымаў у Варонежскай духоўнай семінарыі і Кіеўскай духоўнай акадэміі. Аўдавеўшы, у 1896 годзе прыняў

манашаства, а затым сан свяшчэнніка. У1902 годзе іераманах Мітрафан прызначаны рэктарам Магілёўскай духоўнай семінарыі і ўзведзены ў сан архімандрыта. У 1907 годзе адбылася яго архіерэйская хіратонія з прызначэннем епіскапам Гомельскім, вікарыем Магілёўскай епархіі. З 1908 г. ён быў настаяцелем МагілёваБрацкага манастыра.

У 1912 годзе Праасвяшчэнны Мітрафан прызначаны епіскапам Мінскім і Тураўскім. На Мінскай кафедры ён асабліва клапаціўся пра ўшанаванне памяці беларускіх святых — свяціцеляў Кірыла і Лаўрэнція Тураўскіх і мучаніка Гаўрыіла Беластоцкага. У 1913 годзе епіскап звярнуўся да паствы з пасланнем, дзе заклікаў аднавіць у царкоўнай свядомасці памяць пра гэтых святых. У красавіку 1914 года па ініцыятыве епіскапа ў Слуцку адбылося ўрачыстае царкоўнае праслаўленне мучаніка дзіцяткі Гаўрыіла. Дзякуючы ўладыку быў пакладзены пачатак асабліваму ўшанаванню цудатворнай Мінскай іконы Божае Маці. У дзень свята гэтай іконы вакол горада адбыўся хрэсны ход на чале з епіскапам Мітрафанам.

Намаганнямі ўладыкі ў 1913 годзе быў утвораны Мінскі епархіяльны місіянерскі савет, які супрацьстаяў каталіцкаму ўплыву. У тым жа годзе па благаславенню Праасвяшчэннага Мітрафана быў заснаваны жаночы манастыр у гонар святой прападобнай Еўфрасінні Полацкай у Івянцы (цяпер Валожынскі раён) — апошні манастыр, адкрыты ў Мінскай епархіі да 1917 года.

У 1914 годзе епіскап Мітрафан асвяціў у Мінску новы мураваны храм у гонар Казанскай іконы Божае Маці, пабудаваны на сродкі чыгуначнікаў. З пачаткам Першай сусветнай вайны па благаславенню епіскапа Мітрафана ва ўсіх прыходах епархіі быў арганізаваны збор сродкаў на карысць сем'яў, чые кармільцы былі мабілізаваны на фронт. Лазарэты для раненых былі абсталяваны ў Мінскім СпасаПраабражэнскім, Слуцкім Свята-Троіцкім

манастырах, у памяшканнях архіерэйскага дома. "

Ва ўмовах вайны ўладыка Мітрафан здзяйсняў богаслужэнні ў храмах ваеннай зоны, пад яго кіраўніцтвам прайшла эвакуацыя царкоўных установ на ўсход у сувязі з набліжэннем лініі фронту. За руплівую працу ва ўмовах ваеннага часу епіскап Мітрафан атрымаў царкоўную ўзнагароду — ордэн святога Аляксандра Неўскага.

У 1916 годзе епіскапа Мітрафана перавялі на кафедру Астраханскую і Цараўскую. У 1917 і 1918 гадах яго выбіралі Старшынёй аддзела вышэйшага царкоўнага ўпраўлення, утворанага на Памесным Саборы Рускай Праваслаўнай Царквы. На самім Саборы ўладыка выступаў з дакладам пра неабходнасць аднаўлення патрыяршаства. У 1918 годзе ён быў узведзены ў сан архіепіскапа.

25 мая 1918 года ўладыка Мітрафан пастановай савецкай улады быў арыштаваны. Паства спрабавала вызваліць свайго архіпастыра, але беспаспяхова.

Праасвяшчэнны Мітрафан быў расстраляны 6 ліпеня 1919 года без суда і следства. Перад расстрэлам архіепіскап благаслаўляў салдат, якім было загадана страляць у яго. Убачыўшы гэта, чэкіст, які камандаваў расстрэлам, ударыў архіпастыра рэвальверам па руцэ, а затым стрэліў у скронь.

Праваслаўным жыхарам Астрахані ўдалося атрымаць цела забітага архіпастыра і пахаваць яго каля ПакроваБолдзінскага манастыра. У 2001 годзе Сінод Рускай Праваслаўнай Царквы ўключыў свяшчэннамучаніка Мітрафана ў Сабор навамучанікаў і вызнаўцаў Расійскіх. А ў 2002 годзе Сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы пастанавіў далучыць свяшчэннамучаніка Мітрафана да Сабору Беларускіх святых.

## ПРАПАДОБНЫ МАРЦІН ТУРАЎСКІ

***Памяць 27 чэрвеня/10 ліпеня***

**Трапар прападобнаму Марціну Тураўскаму, глас 6**

Тяжким недугом страждущий и людьми забытый, / молил еси жажду утолити, преподобне Мартине, / темже Христос посла с Небесе благоверных Бориса и Глеба / тебе служити недуг исцелити, / молися ныне ко Господу // спастися душам нашим.

Ад цяжкай хваробы пакутуючы і людзьмі забыты, / маліўся ты, каб смагу наталіць, прападобны Марціне, / таму Хрыстос паслаў з Нябёсаў дабравёрных Барыса і Глеба / табе паслужыць і хваробу ацаліць, / маліся цяпер да Госпада, // каб спасліся душы нашы.

Пра святога Марціна захавалася няшмат звестак. Вядома, што ён служыў кухарам пры сядзібе Тураўскіх епіскапаў — Сімяона, Ігнація, Іаакіма і Георгія, у самым старажытным манастыры Турава — Барыса-Глебскім. Манастыр размяшчаўся на поўдзень ад княжага замка. Заснаваны быў ён яшчэ ў XI стагоддзі ў памяць святых мучанікаў Барыса і Глеба, забітых у 1015 годзе. Пры манастыры знаходзілася кафедра Тураўскіх епіскапаў, яны былі адначасова ігуменамі гэтага манастыра.

Дасягнуўшы сталага ўзросту, Марцін быў звольнены на спакой. Але старац не захацеў расставацца з манастыром і, адчуўшы пакліканне служыць Богу, прыняў манашаскі пострыг. У манашастве ён выконваў многія паслушэнствы, здзяйсняў подзвігі дзеля ўратавання сваёй душы. Сталы ўзрост і цяжкая праца былі прычынай частых і працяглых хвароб прападобнага Марціна.

Аднойчы ён моцна занядужаў і, пакутуючы ад болю, горача маліўся і клікаў на дапамогу святых мучанікаў Барыса і Глеба. На трэці дзень хваробы ў цудоўным бачанні явіліся яму два мужы, у якіх прападобны пазнаў

святых князёў. Яны падалі хвораму вады, і ён адчуў сябе здаровым. Пасля цудоўнага ацалення прападобны Марцін пражыў яшчэ год, а затым з мірам адышоў да Госпада. Адбылося гэта пасля 1146 года.

Пахаваны быў святы Марцін на манастырскіх могілках, побач з храмам. Яму прысвечана сказанне «Слова пра Марціна мніха», запісанае невядомым аўтарам неўзабаве пасля спачыну прападобнага. З невялікімі зменамі «Слова» ўключана ў Мінеі святіцеля Макарыя.

Прападобны Марцін асабліва ўшаноўваецца на Тураўшчыне, у дзень яго памяці там правіцца ўрачыстае богаслужэнне пры ўдзеле мноства вернікаў. У 1998 годзе ў вёсцы Жалудок Шчучынскага раёна пабудаваны новы храм, асвячоны ў імя прападобнага Марціна Тураўскага.

## ПРАВЕДНАЯ ЮЛІЯНІЯ, КНЯЗЁЎНА АЛЬШАНСКАЯ

***Памяць 6/19 ліпеня***

**Трапар праведнай Юліяніі Альшанскай, глас 8**

Яко непорочная невеста Нетленнаго Жениха Христа, праведная дево Иулиание, / с светлою свещею дрбрых дел вошла еси в чертог Его Небесный / и тамо со святыми блаженства вечнаго наслаждаешися. / Темже моли, Егоже возлюбила еси и Ему же девство твое обручила еси, спасти души наша.

Як беззаганная нявеста Нятленнага Жаніха Хрыста, праведная дзева Юліянія, / са светлаю свёчкаю добрых спраў увайшла ты ў хорам Яго Нябесны / і там са святымі блажэнствам вечным цешышся. / Таму малі Таго, Якога ўзлюбіла ты і Якому дзявоцтва сваё заручыла ты, каб Ён спас душы нашы.

Праведная Юліянія жыла ў першай палове XVI стагоддзя. Паходзіла яна з родавай галіны князёў Альнанскіх, якія мелі вялікія ўладанні на тэрыторыі

Беларусі і Украіны. Бацька святой — князЬ Юрый ДубравіцкіАлынанскі — быў набожным хрысціянінам, вядомым ахвярадаўцам Кіева-Пячэрскай лаўры.

Пра жыццё святой праведнай Юліяніі гісторыя не захавала звестак. Вядома толькі, што памерла яна на 16м годзе жыцця каля 1550 года і была пахавана паблізу ад Успенскай царквы Кіева-Пячэрскай лаўры. Нятленныя мошчы святой былі аднойдзены выпадкова на пачатку XVII стагоддзя. Згодна са «Сказаннем аб аднойдзенні пачэсных мошчаў святой Юліяніі» (Кіеў, 1705), каля Успенскай царквы знайшлі грабніцу, на якой была дошчачка з гербам князёў Алыпанскіх і надпісам: «Юліянія, князёўна Алыпанская, дачка князя Альшанскага, памерла дзеваю на 16м годзе ад нараджэння». Калі труну адчынілі, то ўбачылі дзеву, цела якой не кранула тленне. На ёй былі шаўковыя, шытыя золатам строі, шыя і рукі ўпрыгожаны каштоўнасцямі, а галава ўвянчана залатым вянком з жэмчугам. Аднак ад дотыку рук адзенне рассыпалася ў прах. Тады мошчы прыбралі ў новыя строі і паклалі ва Успенскай царкве, але без асаблівага ўшанавання. У 1617 годзе нейкі арыянін прыйшоў ва Успенскую царкву і папрасіў адчыніць яму грабніцу пра веднай Юліяніі. Пры кладаючыся да святых мошчаў, ён зняў з рукі святой каштоўны пярсцёнак. Але як толькі ён выйшаў з храма, то ўпаў каля царкоўнай брамы і раптоўна памёр. Пры ім знайшлі схаваны пярсцёнак святой.

Царкоўнае паданне захавала і іншы выпадак. Святая дзева ў духоўным бачанні явілася архімандрыту Пятру Магілу (пазней — мітрапаліту Кіеўскаму), дакараючы яго за непавагу да яе мошчаў. Пасля гэтага была выраблена новая грабніца з надпісам: «Па волі Тварца неба і зямлі жыве ва ўсе леты Юліянія, памочніца і вялікая ў Небе заступніца. Тут косці — ацаленне ад усіх пакутаў... Райскія паселішчы сабой упрыгожваеш, Юліянія, як кветка цудоўная».

Праведная Юліянія цудоўным чынам з'яўлялася ігумену Залатаверхага Кіеўскага манастыра Феадосію. Пры гэтым яна сказала: «Гасподзь таму явіў гэтае бачанне, каб ты ўведаў, што і я далучана Госпадам да святых дзеў, якія дагадзілі Яму».

У 1718 годзе святыя мошчы праведнай Юліяніі пацярпелі ад пажару, які адбыўся ва Успенскай царкве. Рэштка мошчаў была перанесена ў Бліжнія пячоры КіеваПячэрскай лаўры, а ў 1889 годзе часцінку святых мошчаў перанеслі ў кафедральны сабор горада Жытоміра.

Праведная Юліянія асабліва ўшаноўваецца ва Украіне і Беларусі. Яе імя ўключана таксама ў Саборы Кіева-Пячэрскім і Валынскіх святых. У 2001 годзе ў Дубровіцы (Сарненская епархія, Украіна) — старажытным удзеле князёў Алыыанскіх, арганізаваны прыход у імя святой праведнай дзевы Юліяніі. У вёсцы Алынаны Столінскага раёна Пінскай епархіі асвячоны храм у гонар святой княжны Алынанскай. 3 1999 года часцінка яе святых мошчаў знаходзіцца і ў Галыпанскай царкве ў імя велікамучаніка Георгія Пераможца Навагрудскай епархіі. Штогод у дзень памяці святой там правяцца ўрачыстыя службы з удзелам шматлікіх паломнікаў з усёй епархіі. У Слоніме дзейнічае храм, у Гродне — праваслаўнае сястрынства ў імя святой Юліяніі, князёўны Алыпанскай.

## ПРАПАДОБНАМУЧАНІК АФАНАСІЙ, ІГУМЕН БРЭСЦКІ

***Памяць 20 ліпеня/2жніўня I 5/Ц верасня***

**Трапар прападобнамучаніку Афанасію Брэсцкаму, глас 2**

Блажен еси, отче наш Афанасие, / яко верно пожил еси, стоя бодренно за святую Православную веру, / со умилением присно поя неседальное Пречистей, / заповедуя никомуже нарушати Православныя веры святыя, / пострадав за свидетельство истнны даже до

смерти. / Мы же, чтущие святыню твою, со дерзновением взываем ти:/ отче наш, преподобномучениче Афанасие, похвало и украшение наше.

Блажэнны ты, ойча наш Афанасіе, / бо верна жыў ты, стоячы пільна за святую праваслаўную веру, / у замілаванні заўсёды спяваючы несядальнае Прачыстай, /запаведуючы, каб ніхто не парушаў Праваслаўную веру святую, / і пацярпеў ты за сведчанне ісціны нават да смерці. / І мы, ушаноўваючы святыню тваю, з адвагаю ўсклікаем да цябе: / ойча наш, прападобнамучанік Афанасіе, пахвала і ўкраса наша.

Святы прападобнамучанік Афанасій нарадзіўся каля 1597 года ў набожнай сям'і брэсцкіх гараджан Філіповічаў.Умаладыягадыёнслужыўхатнімнастаўнікам у дамах шляхты, у тым ліку і ў канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі. Разгульнае жыццё пры дварах магнатаў толькі мацавала ў прападобнага Афанасія намер пазбавіцца жыццёвай мітусні і прысвяціць сябе Богу. Гады служэння прападобнамучаніка Афанасія прыпалі на час усталявання на праваслаўных землях Вялікага княства Літоўскага царкоўнай уніі з Рымам. Але ён свядома выбраў шлях праваслаўнага манашаскага падзвіжніцтва, каб усімі магчымымі сродкамі адстойваць права на вызнанне сваёй бацькоўскай веры.

У 1627 годзе Афанасій накіраваўся ў Віленскі Свята-Духаў манастыр, дзе прыняў манашаскі пострыг ад ігумена Іосіфа Бабрыковіча. Адсюль прападобны Афанасій быў пасланы на паслушанне спачатку ў Куцеінскі манастыр пад Оршай, а затым — у Міжгорскі каля Кіева. З Міжгор'я Афанасій зноў выехаў у Вільню, дзе праз некаторы час быў узведзены ў сан іераманаха і неўзабаве прызначаны намеснікам Дубойскай абіцелі пад Пінскам. У 1636 годзе абіцель была перададзена пінскім езуітам, што выклікала вялікае абурэнне і пратэсты насельнікаў. Прападобны Афанасій перайшоў на

паслушанне ў суседні Купяціцкі манастыр, які славіўся сваёй цудадзейнай іконай Божае Маці. У 1638 годзе ён здзейсніў падарожжа ў Маскву, каб сабраць міласціну на манастыр і паведаміць маскоўскаму цару Міхаілу пра крыўды праваслаўным у Рэчы Паспалітай.

У 1640 годзе святы Афанасій быў выбраны ігуменам Свята-Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. Прыбыўшы ў Брэст, прападобны Афанасій перш за ўсё адшукаў старыя епіскапскія і каралеўскія граматы, якімі пацвярджаліся манастырскія правы і прывілеі. Знайшоўшы ў граматах, што «унія з старым Рымам, прынятая насуперак законам Усходняй Царквы, праклятая навекі», прападобны Афанасій пачаў даводзіць гэта адкрыта ў храме і іншых месцах. Ва ўсім ваяводстве ўніяты захваляваліся, адчуваючы вялікую трывогу.

Святы Афанасій неаднаразова ездзіў у Варшаву, звяртаўся да польскага караля і сейма, пераконваючы і патрабуючы абараніць правы праваслаўных, паведамляючы пра крыўды і ўціск з боку езуітаў і ўніятаў. Да смелых выкрыванняў, выказаных падзвіжнікам у Варшаве паставіліся з вялікім незадавальненнем і адправілі яго на суд да Кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы.

У Кіеве Афанасія апраўдалі і па просьбе браціі Брэсцкага манастыра ўзнавілі ў ігуменстве. Пасля вяртання ў Брэст прападобны Афанасій цалкам аддаўся манашаскім подзвігам. Адасобленае жыццё інакаў, аднак, раз за разам парушалася нападамі на манастыр, здзекамі, кпінамі і рознымі выпрабаваннямі.

У 1644 годзе Афанасія як парушальніка спакою арыштавалі, адвезлі ў Варшаву і закавалі ў кайданы. У такіх умовах ён заставаўся больш за год. У зняволенні святы Афанасій склаў малітваслоўе, якое спяваў, каб прыцішыць душэўны боль. Каралю Уладзіславу IV ён напісаў тры пасланні з просьбай абараніць Праваслаўную Царкву ў Вялікім княстве Літоўскім.

Выконваючы волю караля, мітрапаліт Пётр Магіла пасяліў Брэсцкага ігумена ў КіеваПячэрскім манастыры. Там святы Афанасій напісаў адзін з найлепшых сваіх твораў — «Дыярыуш» («Дзённік»), у якім выкрыў здрадніцкую сутнасць уніі, вобразна раскрыў адну з гістарычных старонак барацьбы праваслаўнага народа супраць рымакаталіцкай агрэсіі.

У 1648 годзе святога Афанасія зноў арыштавалі паводле лжывага абвінавачання ў дапамозе паўстаўшым казакам. У ноч на 5 верасня 1648 года гайдукі прывялі яго ў сасновы бор каля вёскі Гершоны пад Брэстам. Там прымусілі выкапаць сабе яму, а потым страшэнна катавалі распаленым жалезам, прымушаючы адмовіцца ад выказванняў супраць уніі і каталіцызму. Не губляючы самавалодання, святы падзвіжнік мужна адказаў катам: «Што я казаў, тое сказаў, і з тым паміраю». Пасля гэтых слоў аднаму з гайдукоў загадалі страляць у святога Афанасія. Уражаны мужнасцю і стойкасцю ігумена, гайдук перад выкананнем загаду прасіў у святога прабачэння і пастырскага благаславення. Яшчэ жывога прападобнамучаніка скінулі ў яму. Абаронца веры Хрыстовай павярнуўся тварам уверх, склаў рукі крыжападобна і аддаў душу сваю Госпаду.

Восем месяцаў цела пакутніка за Праваслаўе, засыпанае зямлёй, ляжала без царкоўнага пахавання. Толькі ў маі 1649 года інакі знайшлі нятленнае цела ігумена, перанеслі ў манастыр і з пашанаю пахавалі каля правага кліраса ў галоўным храме брэсцкага манастыра ў гонар святога Сімяона Стоўпніка.

Прападобны Афанасій быў прызнаны святым у хуткім часе пасля сваёй пакутніцкай смерці. У 1666 годзе ў Брэсце было складзена жыціе на польскай мове, у якім ігумен Афанасій называецца «святым і прападобнамучанікам». У 1815 годзе ў час пажару, які здарыўся ў Брэсцкім Сімяонаўскім манастыры, драўляны манастырскі храм згарэў, а медная грабніца з мошчамі

святога расплавілася. Абгарэлыя мошчы, якія ацалелі ў пажары, былі пакладзены ў каўчэг і пастаўлены для ўсенароднага пакланення ў Благавешчанскай манастырскай царкве. У 1833 годзе манастырскія пабудовы былі знесены ў сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці, а мошчы перанесены ў Свята-Мікалаеўскі сабор. Штогод, у дзень памяці, іх урачыстым хрэсным ходам абносілі вакол сабора. Пасля ўзвядзення ў Брэсце новага му раванага Сімяонаўскага сабора святыя мошчы прападобнага перанесены ў гэты храм.

У час Першай сусветнай вайны святыя мошчы былі вывезены ў Францыю. Толькі ў 1995 годзе часцінка мошчаў вернута ў Брэст, цяпер яна знаходзіцца ў кафедральным Свята-Сімяонаўскім саборы. У Віцебску, Мінску, Гродне і Слоніме пабудаваны храмы, асвячоныя ў гонар святога Афанасія. З 1996 года ў Брэсце (раней вёска Аркадзія), на месцы гібелі прападобнамучаніка, дзейнічае Свята-Афанасіеўскі мужчынскі манастыр.

## ПРАПАДОБНАЯ МАНЕФА ГОМЕЛЬСКАЯ

### Трапар прападобнай Манефе Гомельскай, глас 4

Веселися земле Гомельская, / се, бо Господь яви дивную подвижницу, / во тьме греховней яко солнце возснявшую, / и в иночестем чине Евангелие людем возвещавшую. / И ныне же нетленным телесем с нами пребывая, / спасай нас молитвами твоими, // Манефо, мати преподобная.

Радуйся, зямля Гомельская, / бо вось, Гасподзь явіў цудоўную падзвіжніцу, / якая ў цемры грахоўнай нібы сонца заззяла, / І ў чыне манашаскім Евангелле людзям абвяшчала. / І цяпер нятлённым цёлам з намі застаючыся, / ратуй нас малітвамі тваміі, // Манефа, маці прападобная.

Схіманахіня Манефа (Марыя Скапічова) нарадзілася красавіка 1918 года ў вёсцы Сеўрукі на Гомельшчыне. З дзяцінства пакутуючы ад невылечнай хваробы, Марыя не магла хадзіць. Аднак яна несла свой жыццёвы крыж з цярпеннем, пакорнасцю, любоўю да Госпада і людзей. Яе духоўнае ўзрастанне адбывалася ў атмасферы дамашняй малітвы. Часта яна наведвала і храм былога Чонкаўскага жаночага манастыра ў гонар Ціхвінскай іконы Божае Маці. У 1942 годзе ў адноўленым манастыры Марыя прыняла манашаскі пострыг ад архімандрыта Серафіма (Шахмуця). Але ўжо ў верасні 1943 года ў ходзе карнай аперацыі акупантаў манастыр быў спалены, а манахіні разагнаны.

Прападобная вярнулася ў бацькоўскую хату і там працягвала свой малітоўны подзвіг. Начнымі малітвамі яна вымольвала ацаленне хворым, брала іх боль на сябе, сама пакутуючы ад бясконцых хвароб. Дабрыня матушкі прыцягвала да яе не толькі аднавяскоўцаў, але і людзей здалёк. Галоўная яе парада людзям — імкнуцца да пакаяння, міласэрнасці і малітвы. Схіігумен Макарый (Харкоў), апошні са старцаў Опцінскага манастыра, пасвяціў яе ў схіму. Выбранніца Божая матушка Манефа была надзелена вялікім дарам малітвы, празарлівасці і ацалення людскіх немачаў.

Гасподзь паслаў схіманахіні Манефе аднадумцаў, якія сталі яе духоўнымі дзецьмі і памочнікамі ў жыцці. У доме яе жылі тры манахіні і іераманах Мікалай Мамічаў. Такім чынам пры матушцы ўтварыўся невялікі манастыр са сваім укладам, дзе жылі сумесна і маліліся разам паплечнікі прападобнай.

25 лютага 1984 года матушка Манефа адышла да Госпада. На пахаванне схіманахіні прыехалі ўсе, хто ведаў і любіў яе як малітвенніцу і духоўную маці. Праведніцу пахавалі на вясковых могілках у Сеўруках, паставіўшы на яе магіле сціплы крыж.

З 2005 года свяшчэннікі Гомельскага

ПетраПаўлаўскага кафедральнага сабора служылі на магіле матушкі паніхіды. Па благаславенню Святейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II11 жніўня 2006 года адбылося аднойдзенне пачэсных мошчаў святой схіманахіні Манефы, а 20 верасня таго ж года мошчы былі пакладзены ў спецыяльную раку.

11 жніўня 2007 года ў Гомелі адбылося царкоўнае праслаўленне прападобнай Манефы. Яе святыя мошчы, якія славяцца дарам дабрадатнай дапамогі і ацаленнямі, спачываюць у Гомельскім ПетраПаўлаўскім кафедральным саборы. У гонар прападобнай Манефы асвячоны храм у вёсцы Сеўрукі Гомельскага раёна.

## ПРАПАДОБНЫ ФЕДАР, КНЯЗЬ АСТРОЖСКІ

***Памяць 11/24 жніўня***

**Трапар прападобнаму Фёдару Астрожскаму, глас 4**

Княжеских дароношений и всего суетствия мирскаго спешие отвергся, / Божиих же дарований, премудре Феодоре, преискренне сподобитися желая, / приял еси иноческий образ / и, в нем смиренным послушанием / и безмолвным житием Царю Небесному благоугождая, / получил еси от Него безсмертныя дары, // ихже и нам, чтущим тя, получити молися.

Ад княжаскіх дарапрынашэнняў і ўсёй мітусні мірской спешна адмовіўшыся, / да Божых дароў, прамудры Фёдар, шчыра далучыцца жадаючы, / прыняў ты манашаскі чын,/ і ў ім пакорлівай паслухмянасцю / і маўклівым жыццём Цару нябеснаму дагаджаючы, / атрымаў ад Яго несмяротныя дары, // маліся, каб і мы, што ўшаноўваем цябе, атрымалі іх.

**С**таражытныя крыніцы сведчаць, што род князёў Астрожскіх паходзіў ад князёў ТураваПінскіх, якія ў сваю чаргу вялі свой радавод ад святога роўнаапостальнага

князя Уладзіміра, хрысціцеля Русі. Бацька прападобнага, князь Даніла Астрожскі, быў вядомы як нястомны змагар за незалежнасць заходнерускіх земляў ад польскага караля Казіміра III. Але найболын бацькі Фёдара праславіліся глыбокай набожнасцю і хрысціянскаю любоўю да храмаў Божых, шчодра ахвяруючы ім землі ды іншую маёмасць.

Прападобны Фёдар быў старэйшым сынам у сям'і, вызначаўся цікавасцю да розных навук і жаданнем прымяняць набытыя веды ў жыцці. У летапісах ён згадваецца ўпершыню пад 1386 годам як уладальнік земляў Астрожскіх, Заслаўскіх і Корацкіх. Ад бацькі князь пераняў права апекі над усімі праваслаўнымі цэрквамі і манастырамі на сваіх землях.

Вядомы факт удзелу Фёдара Астрожскага ў вызваленні князя Свідрыгайлы, які ў час дынастычнай вайны быў схоплены польскім войскам і па загаду Вітаўта пасаджаны ў Камянецкі замак. У 1408 годзе князь Фёдар з'явіўся туды з атрадам воінаў і вызваліў літоўскага князя, які далей мусіў хавацца спачатку ў Венгрыі, а потым у Маскве. Праз некаторы час паміж Вітаўтам і Свідрыгайлам быў заключаны мір, які прападобны Фёдар імкнуўся скарыстаць у інтарэсах Праваслаўнай Царквы. Каб замацаваць за ключаны мір, у 1410 годзе князь Фёдар удзельнічаў у па ходзе караля Ягайлы супраць нямецкіх рыцараўкрыжакаў, якія няспынна ўчынялі наезды на Вялікае княства Літоўскае. У вядомай бітве пад Грунвальдам князь Фёдар ахоўваў асобу самога караля, чым нямала паспрыяў перамозе літоўскага і польскага войскаў над крыжакамі.

У час княжай міжусобіцы Фёдар Астрожскі, як пішуць гісторыкі — «муж вялікай смеласці і непахіснага аўтарытэту з усіх правадыроў Літвы і Русі», быў самым дзейсным і храбрым паплечнікам Свідрыгайлы, які ў 1431 годзе быў прызнаны вялікім князем. Астрожскі актыўна ўступаўся за зямлю Падольскую, на якую пасягалі палякі,

і здабываў не адну гучную перамогу. Іх ён выкарыстоўваў для абароны Праваслаўнай Царквы і яе правоў.

Далей князя Фёдара чакалі сур'ёзныя выпрабаванні і расчараванні. Вялікі аўтарытэт князя выклікаў незадавальненне ў Свідрыгайлы, той загадаў схапіць князя Фёдара і пасадзіць у вязніцу. Ужо тады князь Астрожскі задумаўся пра марнасць зямной славы, каварства і нетрываласць чалавечых пачуццяў.

Пасля вызвалення ён яшчэ не раз удзельнічаў у розных бітвах, у тым ліку — з татарамі. Да 1438 года мы бачым яго багатым землеўласнікам, знакамітым воінам і аўтарытэтным дыпламатам. Захаваліся звесткі, што ён заснаваў Прачысценскую царкву ў Астрогу і Мяжырыцкі манастыр на Украіне.

Але на гэтым сканчаецца свецкая дзейнасць прападобнага Фёдара. Ён «пакінуў спакусы свету гэтага» і княжую славу, вырашыўшы прыняць абет святога інацтва. Пасля пострыгу яго прынялі ў склад брацііі Кіева-Пячэрскага манастыра. У старажытных спевах праслаўлялася «пакорлівае паслушэнстваімаўчальніцтва» князяінака, яго руплівасць на ніве дабрадзейнасці і хрысціянскай любові. Паводле старажытнага падання, прападобны Фёдар «душу сваю ўсяляк удасканальваў і з тым адышоў да Госпада». Згодна з некаторымі крыніцамі, ён спачыў у глыбокай старасці каля 1483 года.

Царкоўнае праслаўленне святога адбылося не пазней як у канцы XVI стагоддзя. Да 1638 года адносіцца запіс, згодна з якім Фёдар знаходзіўся ў Феадосіеўскай пячоры «в целом теле» разам з іншымі кіевапячэрскімі ўгоднікамі і цудатворцамі. У 1643 годзе іераманах з Канстанцінопаля Мялецій Сірыг склаў службу прападобным айцам, што ў Дальніх пячорах. У гэтай службе імя Фёдара праслаўляецца нароўні з іншымі ўгоднікамі Божымі. У 1908 годзе асобная служба святому складзена епіскапам Валынскім, пазней мітрапалітам, Антоніем (Храпавіцкім).

Прападобны Фёдар асабліва ўшаноўваецца ва Украіне

і на поўдні Беларусі — на Піншчыне і Брэстчыне. У 2002 годзе рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы прападобны Фёдар, князь Астрожскі, далучаны да Сабору Беларускіх святых. У гонар яго асвячона дамовая царква ў доме «Кінанія», што ў пасёлку Калодзішчы пад Мінскам. Там знаходзіцца ікона святога Фёдара Астрожскага з часцінкай яго мошчаў.

## ПРАПАДОБНАМУЧАНІК СЕРАФІМ, АРХІМАНДРЫТ ЖЫРОВІЦКІ

***Памяць 24 жніўня/6 верасня ,***

**Трапар прападобнамучаніку Серафіму Жыровіцкаму, глас 2**

Пламенем веры разжегся, / светильннк явился еси Белорусстей Церкви, / возсиявый во обители Жировицстей. / Яко пастырь добрый, / вёрныя ко спасению наставивый / и душу свою за Христа положивый, / преподобномучениче Серафиме, // моли о нас Всещедраго Бога.

Полымем веры разгарэўшыся, / ты з'явіўся свяцільнікам Беларускай Царкве, / заззяўшы ў абіцелі Жыровіцкай / Як пастыр добры, / які веруючых да спасення настаўляў, / і жыццё сваё за Хрыста палажыў, / прападобнамучанік Серафім, // малі за нас Усяшчодрага Бога.

Прападобнамучанік Серафім (у хрышчэнні Раман) нарадзіўся 15 ліпеня 1901 года ў вёсцы Падлессе Ляхавіцкага раёна ў шматдзетнай сялянскай сям'і Рамана і Алены Шахмуцяў. З дзяцінства хлопчыка цягнула да царквы, дзе ён многа і старанна маліўся. Нягледзячы на беднасць і дачасную смерць бацькі, Раману ўдалося скончыць двухгадовую школу ў Ляхавічах. У 1916 годзе ён паступіў паслушнікам у Мінскі Свята-Духаў мужчынскі

манастыр. Але праз год вымушаны быў вярнуцца ў роднае Падлессе, каб дапамагаць аўдавелай маці. У1921 годзе Раман здаў экзамен на псаломшчыка і некаторы час служыў у царкве Нараджэння Багародзіцы ў вёсцы Вяляцічы каля Пінска.

Праз два гады ў Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры адбыўся чын пастрыжэння яго ў манашаства з імем Серафім. Некалькі гадоў ён нёс паслушанне рэгента і ўстаўшчыка ў манастыры, вызначаўся цудоўным голасам. У 1926 годзе Серафіма (Шахмуця) рукапалажылі ў іерадыякана. У гэтым сане ён пэўны час кіраваў манастырскім хорам, выконваў абавязкі эканома. Карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам сярод манастырскай брацііі.

У 1935 годзе Серафім узведзены ў сан іераманаха і накіраваны ў вёску Курашова, што каля Гайнаўкі (цяпер Польшча), дзе праваслаўны прыход апынуўся ў цяжкім становішчы ў сувязі з актывізацыяй уніятаў. За два гады малітоўнай і падзвіжніцкай працы іераманах Серафім дамогся значнага паляпшэння стану храма і прыхода, заўважна ўмацаваў дух праваслаўных вернікаў.

У 1930-я гады айцец Серафім пазнаёміўся з архіепіскапам Панцеляіманам (Ражноўскім), які ў той час пражываў на спакоі ў Жыровіцкім манастыры. Менавіта пад уплывам уладыкі Панцеляімана Серафім паступова сфармаваўся як манах высокага духоўнага жыцця. У перадваенны час разам з Грыгорыем Кударэнкам, будучым архімандрытам Жыровіцкім, ён удзельнічаў у місіянерскіх хрэсных ходах з Жыровіцкай іконай Божай Маці па заходнебеларускіх гарадах і вёсках, дзе асабліва адчуваўся ўплыў рымакаталіцызму. У канцы 1939 года ўладыка Панцеляіман узвёў айца Серафіма ў сан ігумена, крыху пазней — у сан архімандрыта.

Калі пачалася вайна, архімандрыт Серафім і іерэй Грыгорый Кударэнка з благаславення архіепіскапа Панцеляімана ў жніўні 1941 года пакінулі Жыровіцкі

Свята-Успенскі манастыр і выехалі ў напрамку Мінска. Ім было дaручана заняцца арганізацыяй царкоўнапрыходскага жыцця ва Усходняй Беларусі, дзе яно было цалкам разбурана ў даваенны час.

Па дарозе ў Мінск місіянеры наведалі шэраг вёсак Капыльскага, Слуцкага і Уздзенскага раёнаў. У кожным паселішчы яны збіралі сярод вернікаў прашэнні на імя ўладыкі Панцеляімана з просьбай аб адкрыцці прыходскіх цэркваў; усюды адпраўлялі богаслужэнні, аглядалі храмы, якія захаваліся, выбіралі будаўнічыя камітэты для іх рамонту, хрысцілі дзяцей, адпявалі нябожчыкаў, нястомна прапаведавалі.

Прыбыўшы ў Мінск, архімандрыт Серафім і айцец Грыгорый нядоўгі час служылі ў СпасаПраабражэнскай царкве жаночага манастыра. Але ўжо ў студзені 1942 года адправіліся на Віцебшчыну з той жа мэтай місіянерскай пропаведзі. Затым яны наведалі Оршу, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Бабруйск і Гомель. У мясцовасці Чонкі аднавілі жаночы манастыр, у якім пасялілася 30 сясцёр. Аб'ехаўшы Усходнюю Беларусь, архімандрыт Серафім стаў першым летапісцам тых пакутаў, якія перацерпелі служыцелі Праваслаўнай Царквы ў перыяд бальшавіцкага тэрору.

Вярнуўшыся ў Мінск, некаторы час місіянеры служылі ў царкве Святога Духа. У чэрвені 1944 года ў сувязі з набліжэннем лініі фронту яны выехалі ў Гродна, дзе знайшлі прытулак у манастыры Нараджэння Багародзіцы. 6 верасня таго ж года абодвух прапаведнікаў і місіянераў арыштавалі. Савецкія ўлады прад'явілі ім абвінавачанне ў супрацоўніцтве з акупацыйнымі карнымі органамі СД і іншых надуманых злачынствах. На самой справе прычынай арышту была іх падзвіжніцкая і місіянерская дзейнасць. Арыштаваных пратрымалі пад «следствам» роўна 10 месяцаў, так нічога і не дабіўшыся. На допытах асуджаныя трымаліся мужна, не хаваючы сваіх поглядаў і перакананняў. Абодвум

вязням 7 ліпеня 1945 года вынеслі прысуд аб пазбаўленні волі тэрмінам на 5 гадоў з адбываннем пакарання ў канцлагеры. Іх адправілі ў Горкаўскую вобласць, размясцілі ў розных месцах, на адлегласці 12 км. Менш чым праз год пасля вынясення прысуду архімандрыт Серафім пры невядомых абставінах загінуў.

Святар Грыгорый Кударэнка, адбыўшы тэрмін зняволення, вярнуўся ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр, праз нейкі час прыняў манашаскі пострыг з імем Ігнацій. У 1984 годзе ва ўзросце 89 гадоў ён у сане архімандрыта мірна адышоў да Госпада. Незадоўга да смерці ён сведчыў, што ў час місіянерскага падарожжа 19411944 гадоў па Усходняй Беларусі ім разам з айцом Серафімам было адкрыта 74 храмы.

Архімандрыт Серафім быў кананізаваны Беларускай Праваслаўнай Царквой у 1999 годзе як адзін з навамучанікаў Мінскай епархіі. Памяць адзначаецца 6 верасня (дзень яго арышту) і ў Саборы навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай. У гонар прападобнамучаніка дзейнічае прыходская царква ў Слоніме, будуецца храм у Гродне. Іконы святога маюцца ў многіх храмах Беларусі.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК КІПРЫЯН, ПРАСВІТАР ЯТРАНСКІ

***Памяць 27 жніўня/9* верасня.**

**Трапар свяшчэннамучаніку Кіпрыяну Ятранскаму, глас 5**

Во священницех благочестно пожив, / верных поучал еси и мучения путь терпеливо восприим, / послушлив был еси даже до смерти, / священномучениче Киприане, / моли Христа Бога спастися душам нашим.

Як свяшчэннік набожна пражыў ты, / веруючых навучаўшы / і мучэння шлях цярпліва прайшоўшы, / змірэнны ты быў нават да смерці, / свяшчэннамучаніча

Кіпрыяне, / малі Хрыста Бога спасціся душам нашым.

Нарадзіўся будучы свяшчэннамучанік Кіпрыян у 1897 годзе ў вёсцы Альхова (цяпер Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобласці) ў веруючай сялянскай сям'і Івана і Варвары Клімуц. Вялікім жаданнем бацькоў было ўбачыць свайго сына служыцелем алтара Гасподняга. Таму па дасягненні ўзросту Кіпрыян паступіў у Варшаўскую духоўную семінарыю. У час Першай сусветнай вайны сям'я эвакуіравалася ў Расію. Таму курс семінарскіх навук Кіпрыян працягваў у Саратаўскай духоўнай семінарыі. Рэвалюцыйныя падзеі ў Расіі не дазволілі Кіпрыяну адразу стаць на шлях служэння ў сане свяшчэнніка. Яму прыйшлося служыць у Чырвонай арміі, быць сведкам жахаў вайны і бязбожнай палітыкі новай улады.

У 1921 годзе Кіпрыян Клімуц вярнуўся на Гродзеншчыну, якая ўваходзіла тады ў склад Польшчы. У тым жа годзе архіепіскапам Гродзенскім Уладзімірам (Ціханіцкім) ён быў рукапаложаны ў свяшчэнніцкі сан. На працягу васьмі гадоў іерэй Кіпрыян служыў на розных прыходах Гродзенскай епархіі, а з 1930 года і да арышту быў настаяцелем прыхода храма ў гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы сяла Ятра (цяпер Навагрудскі раён).

Усе свае намаганні айцец Кіпрыян накіраваў на ўмацаванне ў людзях веры ў Госпада, на выкараненне бязбожжа, змагаўся супраць падзення маральнасці і іншых заган тагачаснага жыцця. Яго намаганнямі пры Ятранскім прыходзе ў 1934 годзе было створана праваслаўнае Народнае брацтва, якое ставіла мэтай абарону і ўмацаванне Праваслаўя, выхаванне моладзі ў духу веры Хрыстовай. Брацтва на чале з айцом Кіпрыянам выступала таксама супраць уцягвання мясцовай моладзі ў палітычныя партыі і рухі. Такая пазіцыя пастыра прыйшлася недаспадобы мясцовым

актывістм ячэйкі КПЗБ, дзейнасць якой актывізавалася з прыходам у верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь Чырвонай арміі. Над святарам навісла рэальная пагроза, ён падазраваўся ў антыкамуністычнай дзейнасці і супрацоўніцтве з пол ьскай уладай. Аднак святар не пакінуў прыход і працягваў выконваць свой пастырскі абавязак, несучы людзям святло веры Хрыстовай. У гэты перыяд яго богаслужэнні былі асабліва пранікнёнымі, ён быццам раствараўся ў малітве, скіроўваючы сваё сэрца да Госпада.

10 кастрычніка 1939 года айцец Кіпрыян быў арыштаваны органамі НКУС БССР. Яму было прад'яўлена стандартнае па тых часах абвінавачанне: «правядзенне антысавецкай агітацыі». 4 верасня 1940 года іерэй Кіпрыян Клімуц «як сацыяльна шкодны элемент» быў асуджаны на восем гадоў папраўчапрацоўных лагераў і высланы ў Каргопальскі лагер Архангельскай вобласці. Там святар працаваў на лесапавале, выконваючы катаржныя работы і самыя цяжкія павіннасці. Перацярпеўшы жорсткія пакуты, святар Кіпрыян Клімуц памёр ад голаду і поўнай знясіленасці 9 верасня 1942 года і быў пахаваны ў месцы зняволення. Амаль праз 50 гадоў, 29 верасня 1989 года, органы дзяржаўнай улады прызналі прысуд 1939 года незаконным, і іерэй Кіпрыян Клімуц быў рэабілітаваны.

4 жніўня 2011 года ў Навагрудскай епархіі адбыліся ўрачыстасці з нагоды царкоўнага праслаўлення святамучаніка Кіпрыяна і далучэння яго да Сабору Беларускіх святых. Памяць адзначаецца і ў Саборы навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК МІКАЛАЙ, ПРАСВІТАР ВІЦЕБСКІ

***Памяць 30 жніуня /12 верасня***

**Трапар свяшчэннамучаніку Мікалаю Віцебскаму, глас 4**

Кротость и смирение стяжавый, / любовь Христову пастве твоей показал еси, / защитник небоязненныи Церкве Православныя в годину огненных искушений явился еси, / священномучениче Николае, / заточения и изгнания, страдания и смерть от богоборцев претерпел еси. / Венец мученическии приявыи, / на Небеси ныне радуешися. / Моли милостиваго Бога, / да сохранит Церковь нашу от нестроении, / единомыслие и мир людем своим дарует // и спасет души наша.

Лагоднасці і пакоры дасягнуўшы, / любоў Хрыстову пастве тваёй паказаў ты, / бясстрашным абаронцам Царквы Праваслаўнай у час вогненных выпрабаванняў стаў ты, / свяшчэннамўчанік Мікалай, / зняволенні і выгнанні, пакуты і смерць ад багаборцаў перацярпёў ты. / Вянец мучаніцкі прыняўшы, / на Нябёсах цяпер радуешся. / Маліся міласціваму Богу, / каб захаваў Царкву нашу ад разладаў, / даў людзям Сваім аднадумства і мір, // і спас душы нашы.

Нарадзіўся Мікалай Акаловіч 4 мая 1863 года ў вёсцы Ужляціна Віцебскага павета (цяпер Шумілінскі раён) у сям'і псаломшчыка. Пасля сканчэння Віцебскага духоўнага вучылішча працягваў адукацыю ў Віцебскай духоўнай семінарыі, якую паспяхова закончыў у 1883 годзе па першым разрадзе. З 1883 па 1887 год навучаўся ў Маскоўскай духоўнай акадэміі, скончыў яе са званнем магістра. Указам епіскапа Полацкага і Віцебскага Маркела (Попеля) 4 снежня 1887 года Мікалай Акаловіч быў прызначаны на пасаду місіянера Полацкай епархіі. На два гады яго паслалі ў Рэжыцу (цяпер Латвія), дзе жыло нямала старавераў. Неўзабаве Мікалай Акаловіч быў рукапаложаны ў сан дыякана, а 2 лютага 1888 года — у сан свяшчэнніка.

Акрамя пастырскіх абавязкаў, айцец Мікалай

праводзіў значную місіянерскую і асветніцкую дзейнасць. У 1889 годзе ён быў прызначаны на пасаду законанастаўніка Полацкага кадэцкага корпуса. Адначасова ўваходзіў у склад Полацкага епархіяльнага апякунства, з'яўляўся старшынёй рады Полацкага царкоўнага брацтва, старшынёй Полацкага павятовага аддзялення вучылішчнай рады. На працягу многіх гадоў быў рэдактарам газеты «Полоцкне епархнальные ведомості». За заслугі на духоўнаасветніцкай ніве, асаблівую стараннасць і руплівасць у справе добраўпарадкавання мясцовых царкоўнапрыходскіх школ 15 жніўня 1897 года айцец Мікалай атрымаў грамату Святейшага Сінода і памятную Біблію.

У 1906 годзе айцец Мікалай Акаловіч па патрабаванню лекараў мусіў перамяніць клімат і пераехаць на служэнне ў Варонеж. Аднак сувязі з радзімай ён не парываў. Быў удзельнікам перанясення з Кіева ў Полацк мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай у 1910 годзе. Праз два гады ён вярнуўся на Віцебшчыну, дзе неўзабаве быў прызначаны законанастаўнікам Дзвінскага рэальнага вучылішча.

З 1919 года протаіерэй Мікалай жыў у Віцебску. У 1922 годзе яго прызначылі настаяцелем віцебскага Мікалаеўскага кафедральнага сабора. У той час у горадзе ішла кампанія па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцей, абрабаваны былі Мікалаеўскі і Успенскі саборы, архіерэйская МіхаілаАрхангельская і бальнічная цэрквы. Дзякуючы мудрасці айца Мікалая, абышлося без кровапраліцця: перадача каштоўнасцей прайшла досыць мірна, болын за тое — ва Успенскі сабор было вернута раней канфіскаванае літургічнае начынне, што дазволіла зноў адпраўляць богаслужэнні. Аднак у тым жа 1922 годзе па абвінавачанню ў арганізацыі перашкод канфіскацыі каштоўнасцей айцец Мікалай быў арыштаваны. Два тыдні яго ўтрымлівалі пад вартай, умоўна асудзілі на год пазбаўлення волі, але неўзабаве амнісціравалі.

Да таго часу ў Віцебскай епархіі ўсё больш відавочна заяўляла пра сябе абнаўленства — вынік інспіраванага звонку царкоўнага расколу. Абраная ў 1918 годзе Віцебская епархіяльная рада падтрымлівала Патрыярха Ціхана, але ў 1920 годзе яна была скасавана Віцебскім павятовагарадскім ваеннарэвалюцыйным камітэтам.

У 19221925 гадах у Віцебску было афіцыйна зарэгістравана новае епархіяльнае ўпраўленне — адзінае як для прыхільнікаў Патрыяршай Царквы, так і для абнаўленцаў. Толькі праз гэтае епархіяльнае ўпраўленне адбываліся прызначэнні святароў, пасля чаго яны атрымлівалі дазвол на царкоўную службу ад мясцовых органаў улады. Паколькі айцец Мікалай з прычыны арышту страціў месца, а віцебскі Мікалаеўскі сабор ужо знаходзіўся ў руках абнаўленцаў, яму давялося прымаць новае прызначэнне ад «адзінага» епархіяльнага ўпраўлення. Двойчы, у 1924 і 1927 гадах, абнаўленчыя іерархі пісьмова прапаноўвалі айцу Мікалаю перайсці ў абнаўленства, прыняць архіерэйскі сан і ўзначаліць Полацкую епархію. Адказ святара быў цвёрдым і адназначна адмоўным.

Больш за тое, протаіерэй Мікалай Акаловіч стаў найважнейшай фігурай у супрацьстаянні абнаўленчаму расколу ў Віцебску.

З 1922 па 1927 год, падчас высылкі кананічнага архіерэя архіепіскапа Інакенція (Ястрабава), айцец Мікалай аб'яднаў вакол сябе святароў і прыхаджан, мужна дамагаючыся ад багаборчай улады дазволу стварыць асобнае ад абнаўленцаў епархіяльнае ўпраўленне. У студзені 1926 года гэтая мэта была дасягнута. Так прыхільнікаў Патрыяршай Царквы ўдалося ўратаваць ад масавых арыштаў.

З 1924 года протаіерэй Мікалай Акаловіч быў настаяцелем Іліінскай царквы Віцебска. Тут ён выявіў сябе дбайным і бясстрашным пастырам Патрыяршай Царквы, заўсёды гатовым да самаахвярнасці.

Прадчуваючы набліжэнне яшчэ болын жорсткіх выпрабаванняў, адчуваючы патрэбу духоўнай абароны і ўмацавання, з 1928 па 1931 год протаіерэй Мікалай служыў Бажэственную літургію ў Іліінскай царкве штодня.

Асабліва самаадданa айцец Мікалай працаваў у 19291931 гадах, калі Віцебскую кафедру займаў архіепіскап Мікалай (Пакроўскі). Як благачынны гарадскіх цэркваў Віцебска протаіерэй Мікалай Акаловіч стаў першым памочнікам свайго архіерэя, выявіўшы сябе нястомным арганізатарам адраджэння царкоўнага жыцця ў епархіі. У гэты час з абнаўленства ўдалося вярнуць каля 50 прыходаў.

Багаборчая ўлада не магла не заўважыць актыўнасці свяшчэннаслужыцеля. Протаіерэй Мікалай Акаловіч быў арыштаваны 24 красавіка 1931 года і змешчаны ў Віцебскую турму. Яму было прад'яўлена сфабрыкаванае абвінавачанне ў антысавецкай і антыкалгаснай агітацыі. Натуральна, што вінаватым сябе ён не прызнаў. Пастановай асобай нарады пры Калегіі АГПУ ад 14 ліпеня 1932 года айцец Мікалай Акаловіч быў высланы з Віцебска. У гэты час ён быў ужо ў сталым веку — на момант прысуду яму споўнілася 68 гадоў. Падчас следства святар 15 месяцаў прабыў у турме, гэта канчаткова падарвала яго здароўе. Паводле сведчання сына Пятра, пазней таксама арыштаванага і расстралянага, протаіерэй Мікалай Акаловіч памёр у 1934 годзе. Месца зняволення і пакутніцкага скону, а таксама прычына смерці яго засталіся невядомымі. Рэабілітаваны протаіерэй Мікалай Акаловіч 12 верасня 1989 года пракуратурай Віцебскай вобласці.

Царкоўнае праслаўленне навамучаніка адбылося 4 лістапада 2007 годаў Віцебскім Свята-Троіцкім Маркавым манастыры. Ушаноўваецца ён і ў Саборы навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай.

## ПРАПАДОБНЫ ЛЯОНЦІЙ, АРХІМАНДРЫТ ВІЛЕНСКІ

***Памяць 24 верасня/7 кастрычніка***

**Трапар прападобнаму Ляонцію Віленскаму, глас 8**

Земли Пинския прозябение, края Виленскаго процветение, / Церкве Православныя защитниче, / ереси латинския златоустый обличителю, / пастырю добрый и благочестия учителю, / веры истинныя доблий исповедниче, / преподобне отче Леонтие, моли Христа Бога спастися душам нашим.

Зямлі Пінскай парастак, краю Віленскага квецень, / Царквы Праваслаўнай абаронца, / ерасі лацінскай залатавусны выкрывальнік,/ пастыр добры і набожнасці настаўнік, / веры Ісціннай адважны вызнаўца, / прападобны ойча Ляонціе, малі Хрыста Бога спасці душы нашы.

Будучы архімандрыт Ляонцій — у міры Лонгін Фёдаравіч Карповіч — нарадзіўся ў Пінску каля 1580 года. Паходзіў з сям'і пінскага пратапопа. Вучыўся будучы вызнаўца веры Хрыстовай, на думку даследчыкаў, у Астрогу альбо ў Вільні. У паэтычным творы «Лямант», прысвечаным памяці айца Ляонція, ёсць радкі, якія сведчаць пра цяжкія матэрыяльныя ўмовы яго навучання: «Он о нніцнх, убогнх стaранье мел, о вдовах, маючн н сам выхованье с жебраннны неньдзной» (ён выяўляў клопат пра жабракоў, убогіх, удоў, бо і сам быў выхаваны

З дапамогай мізэрнай міласціны). Лонгін Карповіч валодаў глыбокімі ведамі ў багаслоўі, дыялектыцы, логіцы, рыторыцы, валодаў некалькімі мовамі і пры гэтым вызначаўся пакорнай набожнасцю і руплівасцю да веры Праваслаўнай. Архімандрыт Кіева-Пячэрскага манастыра Захарыя (Капысценскі) ў сваёй «Палінодыі», напісанай у 1621 годзе, так характарызуе яго: «Блажэнны Ляонцій Карповіч, архімандрыт Віленскі, муж боганатхнёны, у

мове грэчаскай і лацінскай глыбока дасканалы, абаронца ісціннай веры».

На пачатку XVII стагоддзя ўніяты захапілі Свята-Троіцкі манастыр у Вільні і выцеснілі існуючае пры ім праваслаўнае брацтва, арганізаваўшы замест яго сваё ўніяцкае. Яны намагаліся прысвоіць усе маёмасныя і юрыдычныя правы праваслаўнага брацтва. Спрабуючы абараніць правы Віленскага праваслаўнага брацтва ад несправядлівых замахаў уніятаў, Лонгін Карповіч разам з некаторымі іншымі братчыкамі выпраўляецца ў студзені 1609 года ў Варшаву на пасяджэнне сойму. Лонгін Карповіч паўстае тут перад намі як актыўны міранін, якога сярод іншых віленцаў патрыяршы экзарх Кіеўскай мітраполіі пратапоп Нестар Казменіч ставіць у прыклад у сваім пасланні да пінскага духавенства ад 4 студзеня 1609 года.

Вярнуўшыся з Варшавы, Лонгін Карповіч працягвае сваю энергічную дзейнасць па абароне Праваслаўя.

У прыватнасці, ён узначальвае друкарню Віленскага праваслаўнага брацтва, у якой у 1610 годзе выходзіць знакамітая кніга Максіма (у манашастве'Мялецій) Сматрыцкага «Фрынас, або Плач адзінай кафалічнай апостальскай Усходняй Царквы з тлумачэннем догматаў веры». У кнізе падрабязна і грунтоўна абвяргаюцца лацінскія догматы аб верхавенстве папы, аб зыходжанні Святога Духа і ад Сына, аб чысцілішчы, адзначаецца няправільнасць ужывання апраснакоў пры здзяйсненні Еўхарыстыі, на памылковасць прычашчэння міран пад адным відам. Аўтар дае выразную карціну страшэннага заняпаду веры і набожнасці ў папскай сталіцы — Рыме — і заклікае адступнікаў ад ісціны апамятацца і пакаяцца, вярнуцца да сваёй МаціЦарквы, якая іх нарадзіла і выхавала, і адпрэчыць усе рымскія ерасі і аблуды. Кніга зрабіла глыбокае ўражанне як на праваслаўных, так і на праціўнікаў Праваслаўя, якія абрынулі ўсё сваё абурэнне і раз'юшанасць на выдаўцоў. У Вялікую Суботу 7 красавіка

1610 года ў друкарні быў учынены вобыск, падчас якога галоўнага друкара і карэктара Лонгіна Карповіча арыштавалі, а затым без суда і следства кінулі ў турму. Два гады вызнаўца правёў у кайданах, яго вадзілі з аднога суда на другі, пераводзілі з адной турмы ў другую, штодня ўчынялі допыты, білі, здзекаваліся, прымушаючы адмовіцца ад Праваслаўя і прыняць унію, але ён непахісна адстойваў права народа захаваць роднае Праваслаўе. На целе святога падзвіжніка ад кайданоў утварыліся язвы, сляды якіх заўважныя былі нават пасля яго праведнага спачыну.

Не зламіўшы трываласці падзвіжніка, яго выпусцілі з турмы. Ён вярнуўся да сваіх паплечнікаў, стаўпіы шырока вядомы як адважны вызнаўца і пакутнік за веру. Неўзабаве Лонгін Карповіч прыняў манашаскі пострыг з імем Ляонцій і дзякуючы свайму высокаму аўтарытэту стаў на чале Віленскага Свята-Духавага манастыра ў сане архімандрыта. Пры ім у абіцелі быў уведзены статут агульнага манашаскага жыцця паводле чыну свяціцеля Васілія Вялікага. Нягледзячы на падарванае ў турме здароўе архімандрыт Ляонцій з нязменнай энергіяй працягвае сваю пастырскаасветніцкую дзейнасць. У брацкай друкарні, якую ён паранейшаму ўзначальвае, выдаюцца новыя кнігі: «Евангелле навучальнае», Малітваслоў, Службоўнік, Трэбнік, «Вертаград душэўны» святагорца Фікарды. У апошнім выданні змешчана прадмова архімандрыта Ляонція Карповіча. Узначальваючы Свята-Духаў манастыр і праваслаўнае брацтва, архімандрыт Ляонцій становіцца яшчэ і рэктарам брацкай школы, выхоўваючы моладзь у духу вернасці Праваслаўю.

Як і раней, яму даводзіцца цярпець шматлікія крыўды ад уніятаў Свята-Троіцкага манастыра, якія, карыстаючыся блізкай адлегласцю, амаль штодня кідалі ў манахаў Свята-Духавага манастыра камяні, выпускалі стрэлы. Падчас аднаго з такіх нападаў у 1614 годзе

архімандрыт Ляонцій ледзь застаўся жывы: пінскі ўніяцкі епіскап Паісій Анікеевіч і вядомы ўніяцкі дзеяч Іасафат Кунцэвіч, знаходзячыся ў Свята-Троіцкім манастыры, сталі кідаць цэглу ў архімандрыта Ляонція і сур'ёзна паранілі яго.

Паводле сведчання іераманаха Ісаіі Трафімовіча, архімандрыт Ляонцій меў звычай «на всяк день Божественную совершатн службу», хаця некаторыя з брацii непрыязна да гэтага ставіліся, на што падзвіжнік пярэчыў: «Як, набліжаючыся да сонечнага святла, бачыш на сабе плямы бруду, нават калі яны вельмі малыя, так і прычашчаючыся часта Бажэственным Тайнам, бачыш на сабе свае саграшэнні». Увесь час, вольны ад працы і богаслужэння, архімандрыт Ляонцій праводзіў у келейнай малітве. Ён настолькі любіў малітву, што плакаў, калі яму даводзілася перапыняць малітву дзеля зямных спраў, хоць і гэтыя зямныя справы патрэбныя былі для абароны Святой Царквы. Шмат сіл архімандрыт Ляонцій аддаваў арганізацыі манашаскага жыцця ў родным Свята-Духавым манастыры, які дзякуючы менавіта яго намаганням неўзабаве стаў на чале ўсіх праваслаўных манастыроў Вялікага княства Літоўскага.

Усім праваслаўным віленцам архімандрыт Ляонцій быў вядомы як боганатхнёны прапаведнік. Яго пропаведзі высока ацанілі не толькі праваслаўныя, яны літаральна былі «залатымі» і для езуітаў, якія скуплялі іх за золата, каб спаліць. Менавіта таму з вялікага мноства яго пропаведзяў да нас дайшло толькі тры, прычым такія, у якіх няма ніякай антыўніяцкай палемікі. Праваслаўныя лічылі архімандрыта Ляонція падобным па красамоўству да Залатавуста. Віленскі прапаведнік не толькі сам «выкрываў і абвяргаў» словам пропаведзі, але і іншых заклікаў абараняць Праваслаўе. Захавалася яго пасланне на Афон, у якім архімандрыт Ляонцій просіць святагорца Кірыла прыбыць у Вялікае княства Літоўскае для падтрымкі Праваслаўнай Царквы: «Занядбаная і

пакінутая намі Маці наша судзіць нас і асуджае. Што ж мы за воіны, калі ўвесь час — на адпачынку, а на варце — ніколі... Які мне плён ад манашаскага жыцця, калі без любові яно праведзена будзе? І калі маці хто не любіць, то каго такі наогул любіць можа?»

У 1620 годзе Вялікае княства Літоўскае наведаў Іерусалімскі патрыярх Феафан, які пагадзіўся рукапалажыць для Праваслаўнай Царквы мітрапаліта і чатырох епіскапаў. Паміж абраных на епіскапскае служэнне быў і архімандрыт Ляонцій (Карповіч), які быў нарачоны епіскапам Брэсцкім і Уладзімірскім. Аднак цяжкая хвароба не дазволіла Віленскаму архімандрыту адправіцца ў Кіеў • для хіратоніі. Прадчуваючы блізкую смерць, архімандрыт Ляонцій па просьбе брацтва пасылае да патрыярха свайго пастрыжаніка інака Мялеція Сматрыцкага. Прабыўшы некалькі месяцаў у Кіеве, Сматрыцкі вярнуўся ў Вільню ў сане архіепіскапа і ўжо не застаў жывым свайго настаўніка: 24 верасня 1620 года ён спачыў, а цела яго застаецца непахаваным шэсць тыдняў. Архіепіскап Мялецій адслужыў адпяванне прападобнага Ляонція 2 лістапада 1620 года. У сваім слове на пахаванні ён адзначыў нятленнасць яго пачэсных мошчаў: «Сведчаннем цярплівасці гэтага святога вызнаўца і пакутніка служаць самі язвы, намуляныя кайданамі на гэтым пачэсным целе, якое хоць ўжо шэсць тыдняў застаецца мёртвым, але благадаццю існага ў ім Прасвятога і Жыватворчага Ду ха захоўваецца непашкоджаным і без паху тлення».

У тым самым 1620 годзе ў брацкай друкарні Свята-Духава манастыра была выдадзена паэма «Лямент у света убогнх на жалостное преставленне святолюбнвого... отца Леонтня Карповнча», у якой архімандрыт Ляонцій характарызуецца як святы падзвіжнік і вызнаўца Праваслаўя.

Ушанаванне прападобнага Ляонція як святога ўгодніка было распаўсюджана не толькі ў Вільні, але і за

яе межамі. У 1633 годзе студэнты Кіеўскай духоўнай калегіі віталі свяціцеля Пятра (Магілу) з яго ўзыходам на мітрапалічы прастол. У прывітальным тэксце, які быў яму прысвечаны, ёсць такія словы: «Цяпер пажадай толькі выправіцца ў Вільню і іншыя гарады рускага і літоўскага свету і ўбачыш, як сустрэнуць цябе з радасцю тыя, кім поўныя былі вязніцы, поўныя былі ратушы, поўныя былі вязнічныя сутарэнні за найчысцейшую ўсходнюю веру, як сустрэнуць цябе і правядуць да свайго кіраўніка ў прыгнёце, правадыра ў веры ісціннай, падобнага да Залатавуста ў красамоўстве, — за некалькі гадоў перад гэтым спачылага архімандрыта Ляонція Карповіча. Убачыўшы нятленныя мошчы яго, убачыўшы бліжніх, за веру пацярпелых, ты адчуеш, якою вялікаю справаю паслужыў ты няшчаснаму народу нашаму». Гэтыя словы пра нятленнасць мошчаў былі сказаны праз 13 гадоў пасля спачыну архімандрыта Ляонція. Святы прападобнамучанік Афанасій, ігумен Брэсцкі, у сваім «Дыярыушы» таксама называе архімандрыта Ляонція святым: «Месцічы гаротныя з Любліна, Сокаля, Оршы, Пінска, Бельска, Кобрына, Берасця і з іншых гарадоў і мястэчак слёзна лямантуюць, што не маюць ужо і людзей, з якімі б цэрквы свае дагледзець маглі. Не стала айца і мужа святога Ляонція Карповіча, архімандрыта Віленскага...»

Надалей, аднак, склаліся неспрыяльныя абставіны для шанавання архімандрыта Ляонція. Калі нават мошчы святых мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія давялося схаваць ад уніятаў у пячору, дзе яны знаходзіліся больш за 150 гадоў, то нядзіўна, што адкрытае ўшанаванне архімандрыта Ляонція (Карповіча) спынілася. Аднак у царкоўнай гісторыі захавалася яго імя як вызнаўца, мужнага абаронца Праваслаўнай веры.

Пра яго падзвіжніцкае служэнне Святой Царкве падрабязна апавядае мітрапаліт Макарый (Булгакаў) у сваёй шматтомнай «Нсторнн Русской Церквн». Імя

прападобнага Ляонція згадваецца сярод іншых святых архімандрытам Леанідам (Кавеліным) у яго кнізе «Святая Русь».

15 мая 2011 года адбылося царкоўнае праслаўленне прападобнага Ляонція, архімандрыта Віленскага, вызнаўца. Урачыстасці адбыліся ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы Мінска, у заснаванні якога ў пачатку XVII стагоддзя прымаў непасрэдны ўдзел святы Ляонцій.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК ІААН, АРХІЕПІСКАП РЫЖСКІ

***Памяць 29 верасня/12* кастрычніка**

**Трапар свяшчэннамучаніку Іаану Рыжскаму, глас 4**

Изволением Духа Святаго и избранием народа Божия, / предстоятель Латвийския Церкве явился еси, / священномучениче отче наш Иоанне. / Сего ради слово Истины исправляя, / даже до конца верен пребыв / и мучения ужасная претерпев,/ восприял еси от Бога нетленный венец, / егоже улучити сподоби // всем почитающим святую память твою.

Воляю Духа Святога і па абранню народа Божага, / прадстаяцелем Латвійскай Царквы стаў ты, / свяшчэннамучанік ойча наш Іаане. / Таму слова Ісціны выкладаючы, / да самага канца верным застаўшыся / і мучэнні жахлівыя перацярпеўшы, / атрымаў ты ад Бога нятленны вянец, / такі ж атрымаць спадобі // ўсіх, хто ўшаноўвае святую памяць тваю.

Нарадзіўся свяціцель 6 студзеня 1876 года на латвійскім хутары ў праваслаўнай сялянскай сям'і. Яго прадзедлатыш свядома прыняў Праваслаўе, нягледзячы на пераследы з боку землеўласнікаўлютэран. З дзяцінства Іаан быў знаёмы з цяжкай сялянскай працай, аднак гэта не перашкаджала яму расці ўдумлівым юнаком, імкнуцца

да пазнання слова Божага. У 1897 годзе Іаан скончыў Рыжскую духоўную семінарыю, затым працягваў адукацыю ў Кіеўскай духоўнай акадэміі. У 1903 годзе па благаславенню святога праведнага Іаана Кранштацкага прыняў манашаства і неўзабаве быў рукапалажаны ў іерадыякана. У 1904 годзе Іаан Помер быў пасвячоны ў сан іераманаха. У гэтым сане выкладаў у Чарнігаўскай і Валагодскай духоўных семінарыях, дзе яму ўдалося знайсці агульную мову з навучэнцамі і патушыць дух рэвалюцыйнай узбуранасці, які распаўсюдзіўся ў 19041905 гады і на духоўныя навучальныя ўстановы.

У сан архімандрыта іераманах Іаан быў узведзены 26 верасня 1907 года, а ў наступным годзе прызначаны рэктарам Літоўскай (Віленскай) духоўнай семінарыі. Да моманту новага прызначэння архімандрыт Іаан ужо быў сфармаванай асобай высокага духоўнага ўзроўню, з вялікім інтэлектуальным патэнцыялам і моцнай воляй. Ён праявіў сябе як таленавіты адміністратар, за кароткі час узняўшы дарučаную яму семінарыю на высокі ўзровень. Вялікую ўвагу ён надаваў семінарскаму хору, якасці чытання ў час богаслужэння, а таксама мастацтву пропаведзі. За бедных выхаванцаў семінарыі ён нярэдка сам уносіў плату, даючы ім магчымасць працягваць навучанне. Архімандрыт Іаан ,быў вядомы як выдатны прапаведнік, клапатлівы пастыр, руплівец у справе ўладкавання храмаў і манастыроў. У Літоўскай епархіі ён арганізаваў і ўзначаліў шматлюдныя паломніцкія ходы ў сельскія храмы з цудатворнай Віленскай іконай Божай Маці «Адзігітрыя». Ён валодаў рэдкім дарам сумоўя з простымі людзьмі, вызначаўся незвычайнай прастатой і спагадлівасцю да іх.

У 1912 годзе ў Пецярбургу адбылася хіратонія архімандрыта Іаана ў епіскапа Слуцкага, вікарыя Мінскай епархіі. Уладыка Іаан стаў вікарыем архіепіскапа Мінскага Міхаіла (Цемнарусава). Пасля спачыну правячага архіерэя распараджэннем Сінода прызначаны

часова кіруючым Мінскай епархіяй. Прабыванне ўладыкі Іаана ў Мінску запомнілася духавенству і веруючым узнёслымі царкоўнымі службамі, якія ён здзяйсняў у кафедральным ПетраПаўлаўскім храме на Саборнай плошчы, а таксама ў цэрквах Святога Духа (цяпер кафедральны сабор), прывакзальнай Казанскай і ў гонар іконы «Усіх гаротных Радасць» у турэмным замку. Епіскап Іаан глыбока ўшаноўваў святыні Мінскай епархіі — цудатворныя Мінскую і Крупецкую іконы Божае Маці. Духавенства і міране аднадушна прасілі вышэйшыя царкоўныя ўлады аб прызначэнні епіскапа Іаана на Мінскую кафедру правячым архіерэем. Аднак ужо ў 1913 годзе ўладыка быў пераведзены ў Таганрогскую епархію. Там яго застаў лютаўскі пераварот 1917 года.

Часовы ўрад імкнуўся знайсці кампрамат на ўладыку, які сярод народа меў нашмат большы ўплыў, чым рэвалюцыйныя правадыры. Але рэпутацыя архіпастыра была настолькі беззаганнай, што ўсе спробы засталіся марнымі. За ім пачалі сачыць, але народ добраахвотна наладзіў ахову ўладыкі. У 1917 годзе, каб зменшыць уплыў, яго перамяшчаюць у Старыцу Цвярскога вікарыяцтва, а праз год — у Пензу. Там ён атрымаў тытул архіепіскапа. Пенза ўжо была ў руках чырвоных, але ўладыка прыняў прызначэнне і змагаўся з абнаўленцамі, збіраючы рассеяную паству. У 1918 годзе на жыццё святціцеля быў здзейснены замах. Невядомы адкрыў агонь з рэвальвера і параніў архіепіскапа.

У час баёў з Белай арміяй гарматы «чырвоных» былі павернуты на манастыр, дзе жыў святціцель. Не раз пад прыцэльным агнём была яго келля. Неўзабаве святціцель быў арыштаваны. Яго жорстка катавалі, прысудзілі да расстрэлу, але пасля ўмяшальніцтва нямецкага консула нечакана памілавалі. Праз некаторы час Праасвяшчэнны Іаан быў зноў арыштаваны, адпраўлены ў Маскву і пасаджаны ў турму разам з крымінальнікамі. Цудам яму ўдалося пазбегнуць расправы і выйсці на волю.

У 1921 годзе па просьбе праваслаўных Латвіі Свяцейшы Патрыярх Ціхан прызначыў уладыку Іаана архіепіскапам Рыжскім і ўсяе Латвіі. У 1925 годзе пры падтрымцы праваслаўнага насельніцтва архіепіскапа выбралі ў Латвійскі сейм, што спрыяла ўмацаванню становішча і аўтарытэту Праваслаўнай Царквы ў Латвіі. На паседжаннях сейма ён бясстрашна выкрываў зладзействы бальнавізму ў Расіі і займеў праз гэта шмат ворагаў сярод тых, хто спачуваў балыпавізму ў Латвіі.

У ноч з 12 на 13 кастрычніка 1934 года ўладыка Іаан быў спалены на архіерэйскай дачы. Следства паказала, што яго катавалі паяльнай лямпай, на целе мучаніка было некалькі агнястрэльных ран. Затым яго прывязалі крыжападобна і падпалілі. Калі прыехала паліцыя, цела свяціцеля ўжо абгарэла. Праваслаўныя вернікі апранулі астанкі ў архіерэйскае аблачэнне і паклалі ў храме. Тысячы людзей прыйшлі развітацца са сваім архіпастырам. Пахаваны быў свяціцель на Пакроўскіх могілках Рыгі.

У 1981 годзе свяшчэннамучанік Іаан быў кананізаваны Рускай Праваслаўнай Царквой у Замежжы. У 2001м далучаныдалікунавамучанікаўі вызнаўцаў Расійскіх. 24 верасня таго ж года на Саборы Латвійскай Праваслаўнай Царквы прынята рашэнне аб ук лючэнні свяшчэннамучаніка Іаана ў Сабор Латвійскіх святых. У 2002 годзе пастановай Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы свяшчэннамучанік Іаан, чыя падзвіжніцкая дзейнасць звязана з нашай зямлёй, уключаны ў Сабор Беларускіх святых.

Цяпер мошчы свяшчэннамучаніка Іаана спачываюць у Рыжскім кафедральным саборы ў гонар Раджжаства Хрыстовага.

## ПРАПАДОБНАЯ ХАРЫЦІНА, КНЯЗЁЎНА ЛІТОЎСКАЯ

***Памяць 5/18 кастрычніка***

**Трапар прападобнай Харыціне Літоўскай, глас 2**

От юности твоея Бога всем сердцем возлюбила еси, / Харитино преподобная, / подвиги в вере положила еси за Христа Жениха твоего, / и в новое твое Отечество, землю Новгородскую вселилася еси, / к Небесному Отечеству нас призывавши, // молящи Христа Бога спастися душам нашим.

З юнацтва свайго ўсім сэрцам узлюбіла ты Бога, / Харыціна прападобная, / подзвігі ў веры здзейсніла дзеля Хрыста, Жаніха твайго, / і ў новую Бацькаўшчыну тваю, зямлю Наўгародскую, перасялілася ты, / да Нябеснай Бацькаўшчыны нас паклікаўшы, // моліш ты Хрыста Бога спасці душы нашы.

Пра жыццё гэтай ігуменні, насельніцы наўгародскага ПетраПаўлаўскага манастыра, захаваліся, на жаль, вельмі скупыя і супярэчлівыя звесткі. Прападобная Харыціна паходзіла з роду князёў Літоўскіх. Згодна з летапісным паданнем, нарадзілася ў 1221 годзе. Неўзабаве па невядомых прычынах яна перасялілася ў Ноўгарад Вялікі. Паданне звязвае яе з братам святога Аляксандра Неўскага, князем Наўгародскім Фёдарам. Маладыя былі заручаны, але раптоўная смерць жаніха 10 чэрвеня 1233 года, у дзень прызначанага вяселля, перашкодзіла шлюбу. Згодна з летапісам, яго бацька, «князь Яраслаў, аддаў усе дары нявесце і з гонарам адпусціў».

Неўзабаве нявеста прыняла манашаскі пострыг, каб стаць нявестай Хрыстовай. Яе пастрыглі з імем Харыціна ў ПетраПаўлаўскім манастыры на Сінічай гары каля Ноўгарада. Тут юная Харыціна, як і ўсе сёстры абіцелі, выконвала нялёгкія паслушэнствы, узрастала духоўна праз пакору і ўстрыманне, пост і малітву. Верагодна, самаадданасць і манашаскія подзвігі прападобнай Харыціны паслужылі прычынай таго, што сёстры з цягам часу выбралі яе настаяцельніцай абіцелі. Там яна была

ўзведзена ў сан ігуменні і да канца дзён сваіх яўляла прыклад пакорлівасці і чысціні інацкага жыцця. Спачыла 5 кастрычніка 1281 года, у дзень святкавання памяці святой мучаніцы Харыціны (IV стагоддзе).

Праведнае і дабрадзейнае жыццё стала прычынай мясцовага ўшанавання прападобнай пасля яе спачыну. Грабніца з мошчамі святой была пастаўлена ў паўднёвазаходняй частцы храма наўгародскага ПетраПаўлаўскага манастыра. Над ракай было драўлянае надмагілле, абітае металічнымі лістамі з выявай юнай княжны ў багатым адзенні і невялікім тэкстам. Вось гэты надпіс, зроблены, відаць, на падставе больш даўняй пісьмовай крыніцы: «Тут, у былым ПетраПаўлаўскім манастыры, у царкве святых апосталаў Пятра і Паўла, за правым кліpасам пры сцяне, спачывае святая дабраверная княжна чэхіна Харыціна, інакіня з роду каралёў Літоўскіх. Спачыла ў лета ад стварэння свету 7000, ад Раждажства Хрыстовага 1492 года кастрычніка 5 дня, на дзень святой мучаніцы Харыціны, пры дабраверным гасудару і вялікім князю Іаане Васілевічу, пры мітрапаліце Маскоўскім Засіму Барадатым і пры архіепіскапе Наўгародскім святым Генадзію. За вярсту ад Ноўгарада было месца, званае Сінічай гарой; там заснаваны быў ПетраПаўлаўскі дзявочы манастыр у лета ад стварэння свету 6600, ад Раждажства Хрыстовага 1092, пры пятым епіскапе Наўгародскім святым Германе». З гэтага тэксту вынікае, што святая жыла не ў XIII, а ў XV стагоддзі. Тым не менш, афіцыйнай датай памяці, пазначанай у царкоўным календары, лічыцца 5/18 кастрычніка 1281 года.

Іканапісны «Подліннік» сведчыць: «Родам была каралеўства Літоўскага; выглядам проставалосая дзяўчына, у адной свіце, без мантыі». У рукапісным тэксце, змешчаным каля ракі, Харыціна названа настаяцельніцай ПетраПаўлаўскага манастыра, у якім яна і прыняла пострыг.

Прападобная Харыціна ўшаноўвалася не толькі ў манастыры, але і шырэй — у наўгародскіх і літоўскабеларускіх землях. Пасля аднойдзення нятленных мошчаў ёй складзена царкоўная служба і напісана ікона.

У багаборчыя часы ПетраПаўлаўская царква была закрыта, але мошчы святой, схаваныя пад спудам, захаваліся. І цяпер яны знаходзяцца ў ПетраПаўлаўскай царкве на Пятроўскіх могілках Ноўгарада.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК АРХІДЫЯКАН НІКІФАР

***Памяць 6/19 кастрычніка***

**Трапар свяшчэннамучаніку архідыякану Нікіфару, глас 5**

Земли греческия отрасле преславная, / священномучениче архиднаконе Никифоре, / латинскаго лукавствия обличителю, / веры Православныя утверждение, / за Христа быв гладом уморен, / Ему же на небеси песнь поеши дивную, // и о нас моли, спастися душам нашим.

Зямлі грэчаскай парастак слаўны, / свяшчэннамучанік архідыякан Нікіфар, / лацінскага крывадушша выкрывальнік, / веры Праваслаўнай умацаванне, / за Хрыста ты голадам замораны, / Яму ж на нябёсах песню спяваеш дзівосную, // маліся і за нас, каб спасліся душы нашы.

Нікіфар Парасхес-Кантакузен — прадстаўнік Канстанцінопальскага Патрыярха, старшынстваваў на праваслаўным Брэсцкім саборы 1596 года. Пра яго захавалася няшмат звестак, але нават тыя, што дайшлі да нас, апавядаюць пра Нікіфара як пра нястомнага змагара за веру Хрыстову, абаронцу чысціні Праваслаўя, руплівуца царкоўнага добраўладкавання.

Святы Нікіфар нарадзіўся ў Канстанцінопалі, у

багатай сям'і. Дакладная дата яго нараджэння невядома, мяркуюць, што ён нарадзіўся ў 40я гады XVI стагоддзя. Адукацыю атрымаў у Італіі ў Падуанскім універсітэце, дзе вучылася шмат праваслаўных грэкаў. Пасля заканчэння ўніверсітэта застаўся ў Падуі як выкладчык грэчаскай мовы. У агульных рысах юнацтва Нікіфара нагадвае жыццёвы шлях прападобнага Максіма Грэка, які таксама правёў маладосць у Італіі. Сваю вернасць Праваслаўю Нікіфар пацвердзіў прыняўшы сан дыякана і сем год прас лужыўшы прапаведнікам у саборы святога Марка ў Венецыі, дзе богаслужэнне здзяйснялася паводле праваслаўнага абраду.

На пачатку 1580х гадоў Нікіфар заняў важнае месца ў Канстанцінопальскай патрыярхіі. Хутка ён становіцца адным з актыўных змагароў з царкоўнай уніяй. Спачатку Экзарх Нікіфар выступіў супраць уніяцкіх планаў католікаў у Малдавіі, арганізаваў асуджэнне уніі на саборы ў горадзе Ясы летам 1595 года. З ініцыятывы Нікіфара быў пазбаўлены кафедры епіскап Георгій Магіла, які праводзіў уніяцкую лінію. Рашэнні Яскага сабору, якія рэзка і сурова асуджалі унію, сталі важнай падтрымкай для праваслаўных у Рэчы Паспалітай.

Прыбыццё ў 1596 годзе Экзарха Нікіфара ў Брэст, дзе ён узначаліў праваслаўны сабор, мела выключнае значэнне для ходу тагачасных падзей. Менавіта Нікіфар з яго вялікім вопытам і розумам здолеў арганізаваць і правесці пасяджэнні праваслаўнага сабору так, што дзеянні ўніятаў былі асуджаны як незаконныя.

Адразу пасля заключэння уніі, калі пачаліся ганенні на праваслаўных, Нікіфар паводзіў сябе незалежна і бясстрашна. Калі Кірыл Лукарыс і іншыя грэкі спешна пакінулі краіну, Нікіфар застаўся. Ён працягваў арганізоўваць супраціўленне уніі, звяртаўся да праваслаўных з пасланнямі, падбадзёрваў і пераконваў маладушных. Хаця ён знаходзіўся ў землях князя Канстанціна Астрожскага і выкладаў у Астрожскай

акадэміі, яму было зразумела, што рана ці позна яго схопяць. Таму ўчынкі Нікіфара нельга растлумачыць інакш як тым, што інтарэсы Царквы для яго былі вышэй за ўласныя, і ён быў напоўнены рашучасцю пастаяць за ісціну «нават да смерці».

Неўзабаве пасля Брэсцкага сабору Нікіфара абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Турцыі і іншых злачынствах, за якія яму пагражала смяротная кара. Тыя абвінавачанні не мелі пад сабой ніякай глебы, а толькі выкрывалі нянавісць да Экзарха з боку арганізатараў уніі. На судзе ён трымаўся незалежна і свабодна, рашуча абвяргаючы ўсе паклёпніцкія нагаворы.

Судовыя пасяджэнні былі спынены зза адсутнасці доказаў супраць Нікіфара, аднак на свабоду яго не выпусцілі. Без усялякага прысуду яго адправілі ў Мальбаркскі замак на поўначы Польнчы. Хадайніцтвы грэчаскіх іерархаў, у прыватнасці Александрыйскага патрыярха Мялеція, не былі ўзяты пад увагу. Князь КанстанцінВасілій Астрожскі, які выступаў у абарону Нікіфара, таксама не дамогся справядлівасці, бо ў судзе пераважалі сенатарыкатолікі. У 1599 годзе, праз два гады пасля судовага працэсу Нікіфар памёр у вязніцы галоднай смерцю.

Экзарх Нікіфар — асоба вялікага маштабу, несумненны падзвіжнік, які яўляе нам прыклад жыцця па веры і бясстрашнай, бескампраміснай вернасці Царкве, вернасці, магчымай толькі праз благадатнае садзеянне Духа Святога. Яго настойлівая барацьба з уніяй нагадвае подзвіг яго сучасніка — свяціцеля Патрыярха Маскоўскага Гермагена, які цвёрда стаяў у веры і таксама загінуў галоднай смерцю. Але подзвіг Экзарха Нікіфара адметны — у ім няма нацыянальнай абмежаванасці. Нікіфар — грэк, аднак яму аднолькава былі дарагія і грэкі, і малдаване, і рускія, і палякі. Ён змагаўся за Царкву з поўным усведамленнем яе звышнацыянальнай прыроды, у якой «няма ні эліна, ні іудзея, ні скіфа, ні

варвара» (Кал. 3,11).

У 2001 годзе свяшчэннамучанік Нікіфар быў кананізаваны па ініцыятыве Львоўскай епархіі Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхата, а ў 2002м далучаны да Сабору Беларускіх святых.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК АЛЯКСІЙ, ПРАСВІТАР ЛЕЛЬЧЫЦКІ

***Памяць 7/20 кастрычніка***

**Трапар свяшчэннамучаніку Аляксію Лельчыцкаму, глас 2**

Подвигом добрым подвизался еси, / и веру соблюл еси даже до крове, / священномучениче Алексие, / взирающе на страдания твоя, / и мы прославляем прославившаго тя Господа, / даровавшаго нам светильника новаго.

Подзвігам добрым падзвізаўся ты / і веру захаваў ты нават да крыві, / свяшчэннамучаніча Аляксіе, / гледзячы на пакуты твае, / і мы праслаўляем Госпада, Які праславіў цябе / і даў нам светача новага.

Аляксій Магільніцкі нарадзіўся *17* кастрычніка 1870 года ў горадзе Мінску ў сям'і мяшчан. Пасля сканчэння Мінскага духоўнага вучылішча паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. У 1892 годзе пачаў служэнне ў якасці псаломшчыка Востраўскай царквы Пінскага павета. Праз год у Мінскім кафедральным саборы епіскап Мінскі і Тураўскі Сімяон (Лінькоў) здзейсніў рукапалажэнне Аляксія ў сан дыякана, а неўзабаве — і ў сан свяшчэнніка. Першым месцам служэння маладога пастыра стаў прыход у гонар Нараджэння Багародзіцы вёскі Вялікі Бор Рэчыцкага павета. Малады свяшчэннік запомніўся людзям як добры прапаведнік, выкладчык Закону Божага ў мясцовым народным вучылішчы.

Наступным месцам служэння сталі Туркі Бабруйскага павета, дзе айцец Аляксій праслужыў больн за дзесяць гадоў. Стараннем настаяцеля ў Турках была пабудавана новая драўляная царква ў гонар Святой Троіцы, а таксама званіца, трапезная і іншыя царкоўныя пабудовы. На жаль, яны не захаваліся да нашага часу. З пачаткам рускаяпонскай вайны айцец Аляксій стаў актыўным арганізатарам збору сродкаў для воінаў, за гэта быў узнагароджаны срэбным медалём Чырвонага Крыжа.

У 1907 годзе айцец Аляксій прызначаны ў Свята-Міхайлаўскі сабор горада Мазыра. Адначасова ён выкладаў Закон Божы ў жаночай гімназіі і мужчынскім гарадскім вучылішчы. На ўсіх месцах служэнне айца Аляксія вызначалася руплівым выкананнем пастырскіх абавязкаў, любоўю да прыхаджан, мірам у прыходзе.

У 1912 годзе сям'ю Магільніцкіх напаткала няшчасце — ва ўзросце 37 гадоў памерла матушка Анастасія. Пад апекай айца Аляксія засталося пяцёра непаўналетніх дзяцей. Нягледзячы на цяжкасці, яму ўдалося выгадаваць, выхаваць і даць добрую адукацыю кожнаму з іх.

Апошняе месца пастырскага служэння айца Аляксія — храм у гонар Святой Троіцы мястэчка Лельчыцы Мазырскага павета, куды ён быў пераведзены ў 1920 годзе. Нягледзячы на ганенні з боку бязбожнай улады, ён да канца заставаўся верным Богу і свайму святарскаму абавязку. У 1930 годзе яго прыцягнулі да суда на падставе надуманага абвінавачання ў «захаванні дробнаразменнай манеты». Неўзабаве храм у Лельчыцах быў закрыты і ператвораны ў зернесховішча. У такіх умовах свяшчэннік не мог пакінуць сваю паству без духоўнай дапамогі. Ён пачаў выконваць богаслужэнні і трэбы на сваёй кватэры — хрысціў дзяцей, маліўся за здароўе хворых і за ўпакой спачылых.

Такія смелыя дзеянні пастыра не маглі застацца незаўважанымі. 14 жніўня 1937 года яго арыштавалі,

абвінаваціўшы ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці, паклёпе на савецкую ўладу, агітацыі супраць калгасаў». Айцец Аляксій Магільніцкі не прызнаў свае віны ні па адным з абсурдных абвінавачанняў і нікога не агаварыў. Яго справу накіравалі на разгляд асобай тройкі НКУС БССР, якая 27 верасня 1937 года прыгаварыла Аляксія Магільніцкага да вышэйшай меры пакарання. 20 кастрычніка 1937 года ў Мазыры прыгавор быў прыведзены ў выкананне. Дзеянні бязбожнай улады былі прызнаны беспадстаўнымі толькі „ ў 1989 годзе, тады і адбылася рэабілітацыя святара. я

21 лістапада 2010 года ў горадзе Мазыр Тураўскай епархіі адбыліся ўрачыстасці з нагоды царкоўнага праслаўлення святаманучаніка Аляксія і далучэння яго да ліку навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай.

У вёсцы Сырод Калінкавіцкага раёна будуецца храм у гонар свяшчэннамучаніка Аляксія Лельчыцкага.

## САБОР НАВАМУЧАНІКАЎ І ВЫЗНАЎЦАЎ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

***Памяць 28 кастрычніка (ці у нядзелю пасля гэтай даты)***

**Трапар навамучанікам і вызнаўцам зямлі Беларускай, глас 5**

Святии новомученицы земли Белорусския, / благочестия светильницы и жития евангельскаго образи, / заточения, изгнания и горькия работы мужествение претерпевшии / и Христа ради даже до крове пострадавиши, / Егоже, яко Начальника мира и спасения Совершителя, / усердно ныне молите // помиловати души наша.

Святыя навамучанікі зямлі Беларускай, / светачы набожнасці і ўзор жыцця евенгельскага, / вы мужна перацярпелі зняволенні, выгнанні і цяжкія работы, / і

пакутавалі дзеля Хрыста нават да крыві, / Яго як Падацеля міру і Здзяйсняльніка спасення / старанна сёння маліце / спасці душы нашы.

Сабор навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай устаноўлены рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы ў 2011 годзе. Святкуецца 15/28 кастрычніка пры супадзенні з нядзельным днём а,бо ў бліжэйшую нядзелю пасля гэтай даты. У Сабор уваходзяць навамучанікі Мінскай епархіі, звесткі пра якіх прыводзяцца ніжэй, навамучанікі іншых епархій БПЦ, а таксама святыя вызнаўцы, праслаўленыя за межамі Беларусі, якія сваім паходжаннем ці служэннем звязаныя з нашай зямлёй.

**Святы Уладзімір Хіраска, вызнаўца (18741933).**

Нарадзіўся ў горадзе КамянецПадольскі ва Украіне ў сям'і свяшчэннаслужыцеля. Скончыў Падольскую духоўную семінарыю, выкладаў у царкоўнапрыходскіх школах. З1911 года ён настаяцель царквы ў гонар іконы Божае Маці «Усіх гаротных Радасць» у Мінску пры вучылішчы сляпых, выкладаў Закон Божы ў гарадскіх гімназіях. У 1925 годзе святар разам з прыхаджанамі выступіў у абарону мітрапаліта Мелхіседэка (Паеўскага), высланага з Мінска за супрацьдзеянне абнаўленцтву. Пасля арышту ў 1926 годзе высланы на тры гады ў Арол. У 1929 годзе зноў арыштаваны па абвінавачанню «ў контррэвалюцыйнай дзейнасці» і высланы на тры гады ў Сібір. Вярнуўся ў 1932 годзе паўсляпым. Памёр праз некалькі месяцаў пасля вызвалення ад шматлікіх хвароб, атрыманых у месцах зняволення.

**Свяшчэннамучанік Васілій Ізмайлаў (188522.2.1930).**

Нарадзіўся ў Вышнім Валачку Цвярской губерні ў сям'і мяшчан. Скончыў Цвярскую духоўную семінарыю і СанктПецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў

багаслоўе ў Мінскай духоўнай семінарыі. З 1927 года настаяцель Свята-Уваскрасенскага сабора ў Барысаве. За абарону царквы і супраціўленне абнаўленцам, якія імкнуліся захапіць храм, арыштаваны ў 1927 годзе. Праз тры гады ў Салавецкім лагеры асобага прызначэння прыняў мучаніцкую смерць.

**Свяшчэннамучанік Сергій Радакоўскі (188221.3.1933).**

Нарадзіўся ў Жыткавічах на Гомельшчыне ў сям'і псаломшчыка. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. З1920 года служыў настаяцелем Свята-Троіцкай царквы вёскі Таль Любанскага раёна. Першы раз арыштаваны ў 1930м за нявыплату падаткаў і адпраўлены на лесапавал. У 1933 годзе арыштаваны другі раз «за антысавецкую агітацыю» і пастановай тройкі АГПУ расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобласці ў 1989 годзе.

**Святы Міхаіл Навіцкі, вызнаўца (188930.4.1935).** Нарадзіўся на Мазыршчыне ў святарскай сям'і. Скончыў гісторыкафілалагічны факультэт СанктПецярбургскага ўніверсітэта. Выкладаў у Мінскай мужчынскай гімназіі. У 1920 годзе рукапаложаны ў святарскі сан і прызначаны настаяцелем ПетраПаўлаўскай царквы мястэчка Узда Ігуменскага павета. Адначасова выконваў абавязкі благачыннага. Пасля закрыцця ў 1933 годзе храма, здзяйсняў службы ў невялікай вартоўні. У ноч напярэдадні Вялікай Суботы 1935 года святар быў збіты невядомым, які патрабаваў аддаць царкоўныя каштоўнасці. Памёр на трэці дзень Святой Пасхі, пахаваны на Уздзенскіх могілках.

**Свяшчэннамучанік Парфірый Рубановіч (18831943).** Нарадзіўся ў Лемяшэвічах на Піншчыне ў святарскай сям'і. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю.

З 1914 года настаяцель СпасаПраабражэнскай царквы ў Заслаўі. У 1935 годзе ўлады закрылі храм, пасля чаго айцец Парфірый служыў у могілкавай царкве. У 1937 годзе, паводле лжывага абвінавачання, быў арыштаваны і без суда і следства адпраўлены ў канцлагер на 10 гадоў. Пакаранне адбываў каля Гомеля, працуючы на тарфяным заводзе. Быў забіты партызанамі ў 1943 годзе.

**Свяшчэннамучанік Міхаіл Плышэўскі (186219.8.1937).** Нарадзіўся ў Варонічах Ігуменскага павета ў сям'і святара. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Служыў настаяцелем царквы святога прарока Іліі ў мястэчку Шацк Пухавіцкага раёна. У канцы 1920 — пачатку 1930х гадоў неаднойчы арыштоўваўся. У апошні раз пазбаўлены волі ў 1937 годзе за арганізацыю збору подпісаў дзеля адкрыцця храма. Расстраляны за «антысавецкую дзейнасць» у дзень Праабражэння Гасподняга.

**Свяшчэннамучанік Дзімітрый Паўскі (187414.8.1937).** Нарадзіўся ў вёсцы Максаціха Цвярской губерні ў сям'і святара. Скончыў Казанскую духоўную семінарыю. Да рэвалюцыі — настаяцель Мінскага ПетраПаўлаўскага кафедральнага сабора (узарваны ў 1936 годзе — *рэд.),* выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі. З 1917 года служыў у царкве Святога Ду ха ў Астрашыцкім Гарад ку ка ля Мінска. Упершыню арыштаваны ў 1931 годзе за адмаўленне адрачыся ад сану. Прыгавораны да пяці гадоў пазбаўлення волі ў канцлагеры. Пасля вызвалення служыў у Калінінскай вобласці. У 1937м арыштаваны паўторна па абвінавачанню ў «антысавецкай агітацыі» і «контррэвалюцыйнай шпіёнскай дзейнасці». Расстраляны 14 жніўня таго ж года.

**Свяшчэннамучанік Іаан Варанец (186419.8.1937).**

Нарадзіўся ў Халопенічах Барысаўскага павета ў сям'і святара. З 1905 года служыў настаяцелем Георгіеўскай царквы ў Смілавічах Ігуменскага павета. Быў арыштаваны ў 1930 годзе за спробы бараніць сялян у час калектывізацыі і высланы на тры гады. Вярнуўшыся ў Смілавічы, працягваў служыць у царкве да яе закрыцця (1935). Другі раз быў арыштаваны ў 1937м. Свяшчэнніка абвінавацілі ў тым, што ў час Усесаюзнага перапісу насельніцтва ён пераконваў прыхаджан не баяцца запісвацца вернікамі. Расстраляны ў дзень Праабражэння Гасподняга таго ж года.

**Свяшчэннамучанік Леанід Біруковіч (186425.8.1937).** Нарадзіўся ў сяле Ухвала Барысаўскага павета ў святарскай сям'і. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. З 1899 года настаяцель Свята-Успенскай царквы вёскі Брадзец Бярэзінскага раёна. Тройчы арыштоўваўся — у 1934, 1935 і 1937 гадах. Апошнім разам прысуджаны да расстрэлу за хадайніцтва аб адкрыцці прыходскага храма. Прыгавор выкананы ў Мінску 25 жніўня 1937 года.

**Свяшчэннамучанік Аляксандр Шалай (187914.11.1937).** Нарадзіўся ў Слуцку. У 1930-я гады служыў настаяцелем Свята-Троіцкай царквы ў вёсцы Блонь Пухавіцкага раёна. Спрабаваў супрацьдзейнічаць закрыццю царквы ў 1935 годзе. Пасля закрыцця храма адпраўляў трэбы ў дамах прыхаджан. Арыштаваны ў 1937м за арганізацыю збору подпісаў за аднаўленне дзейнасці мясцовай царквы і за «агітацыю супраць калгасаў». Расстраляны 14 лістапада 1937 года ў Бабруйску.

**Свяшчэннамучанік Мікалай Мацкевіч (1878 пасля 1937).** Нарадзіўся ў Барысаве ў сям'і свяшчэннаслужыцеля. Скончыў Мінскую духоўную

семінарыю. У 1930-я гады служыў настаяцелем Свята-Андрэеўскай царквы Барысава. Арыштаваны ў 1937 годзе за нязгоду адмовіцца ад сану і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі ў канцлагеры. Загінуў у зняволенні, час і месца гібелі невядомы.

**Свяшчэннамучанік Іаан Панкратовіч (18706.10.1937).** Нарадзіўся ў Клецку. Скончыў настаўніцкую семінарыю. У 19201930-я гады служыў настаяцелем Свята-Пакроўскай царквы вёскі Чыжэвічы (цяпер у межах горада Салігорска). Пасля закрыцця храма тайна здзяйсняў трэбы. Арыштаваны ў 1937 годзе за тое, што заклікаў сялян падпісвацца за аднаўленне закрытай прыходскай царквы. Расстраляны ў Слуцку 6 кастрычніка 1937 года.

**Свяшчэннамучанік Уладзімір Зубковіч (186331.1.1938).** Нарадзіўся ў Смалявічах Барысаўскага павета ў сям'і свяшчэнніка. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Да рэвалюцыі быў памочнікам інспектара гэтай установы. З 1918 года служыў у Свята-Мікалаеўскай царкве мястэчка Смалявічы. Пасля закрыцця ў 1935 годзе царквы таемна здзяйсняў хрышчэнне мясцовых людзей. Арыштаваны ў 1937 годзе па сфабрыкаванай справе «шпіёнскай контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі». Расстраляны ў Мінску 31 студзеня 1938 года.

**Свяшчэннамучанік Уладзімір Пастэрнацкі (188521.1.1938).** Нарадзіўся ў Дудзічах Ігуменскага павета ў святарскай сям'і. Пасля сканчэння Мінскай духоўнай семінарыі рукапалажаны ў сан свяшчэнніка і прызначаны ў ПетраПаўлаўскую царкву вёскі Пясочнае (цяпер Уздзенскі раён). З 1932 года быў настаяцелем Увазнясенскай царквы Капыля. Першы раз арыштаваны ў 1936 годзе за тое, што вёў запісы людзей, якіх хрысціў.

Пасля адбыцця двух гадоў у калоніі другі раз арыштаваны за «правядзенне контррэвалюцыйнай работы» сярод насельніцтва. 5 студзеня 1938 года тройкай НКУС па Смаленскай вобласці прыгавораны да расстрэлу «як агент нямецкай разведкі».

**Свяшчэннамучанік Матфей Крыцук (18921950).** Нарадзіўся ў вёсцы Малы Карацк Слуцкага павета ў сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. З 1932 года служыў настаяцелем Крыжаўздзвіжанскай царквы ў вёсцы Вялікая Лысіца (цяпер Нясвіжскі раён). Арыштаваны ў 1950 годзе паводле лжывага абвінавачання ўпрыналежнасціда «Беларускайнароднайсамапомачы» іза тое, што захоўваў дома рэлігійнафіласофскую літаратуру. Прыгавораны да 25 гадоў пазбаўлення волі ў папраўчапрацоўным лагеры. Загінуў у зняволенні ад разрыву сэрца.

**Свяшчэннамучанік Пётр Грудзінскі (18771930).** Нарадзіўся ў мястэчку Глуск Мінскай губерні. Да рэвалюцыі — дэпутат 2й Дзяржаўнай думы ад сялян. Сан свяшчэнніка прыняў на пачатку 1920х гадоў, калі шырыліся ганенні на Царкву. Служыў настаяцелем Свята-Мікалаеўскай царквы вёскі Цімкавічы Капыльскага раёна. У 1930 годзе арыштаваны «за антысавецкую агітацыю» і зняволены ў Слуцкай турме. Расстраляны пасля 23.2.1930.

**Свяшчэннамучанік Валерыян Навіцкі(189723.2.1930).** Нарадзіўся ў сяле Грабава Мінскага павета ў святарскай сям'і. Вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі да яе закрыцця ў 1918 годзе. З 1923 года настаяцель Свята-Троіцкай царквы ў вёсцы Цялядавічы Капыльскага раёна. Яму ўдалося адстаяць храм, які ўлады намерваліся аддаць пад збожжасховішча. Арыштаваны ў студзені 1930 года. Падчас следства ў

Слуцкай турме адмовіўся адрачыся ад сану. Паводле пастановы тройкі АДПУ расстраляны 23 лютага 1930 года ў цімкавіцкім лесе.

**Свяшчэннамучанік Уладзімір Хрышчановіч (18761933).** Нарадзіўся ў вёсцы Гезгалы Лідскага павета на Гродзеншчыне. Пасля сканчэння Слуцкага духоўнага вучылішча служыў псаломшчыкам. У 1930 годзе рукапалажаны ў сан свяшчэнніка. Служыў у Праабражэнскім храме вёскі Языль Старадарожскага раёна. Арыштаваны 17 снежня 1932 года за зварот да прыхаджан не пакідаць храм, верыць у Госпада і маліцца Яму. Расстраляны паводле прыгавору тройкі АДПУ ад 12 лютага 1933 года «за антысавецкую агітацыю». Свяшчэннамучанік Уладзімір асабліва ўшаноўваецца на радзіме — у вёсцы Гезгалы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. На доме, дзе ён нарадзіўся, усталявана памятная дошка. У яго гонар асвячоны храм у папраўчай калоніі №26.

**Свяшчэннамучанік Іаан Вячорка (189028.4.1933).** Нарадзіўся ў вёсцы Касарычы Бабруйскага павета ў сям'і псаломшчыка. З 1915 года служыў настаяцелем царквы ў гонар Пакрова Божае Маці ў вёсцы Крываносы Старадарожскага раёна. Першы раз быў арыштаваны за «несвоечасовую аплату падаткаў» у 1928 годзе і пасаджаны на дзевяць месяцаў у Слуцкую турму. Вярнуўшыся, працягваў здзяйсняць богаслужэнні. Паўторна арыштаваны 18 сакавіка 1933 года паводле лжывага абвінавачання ў «антысавецкай агітацыі». Праз месяц пакутніцкіх допытаў быў расстраляны ў Бабруйску.

**Свяшчэннамучанік Уладзімір Талюш (18911938).**Нарадзіўся ў вёсцы Залужжа на Бабруйшчыне ў сям'і дзячка. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У1929 годзе рукапалажаны ў сан іерэя і

прызначаны настаяцелем Свята-Георгіеўскай царквы вёскі Залужжа, дзе раней служыў яго бацька. Арыштаваны 19 красавіка 1933 года за спробу сабраць сярод прыхаджан сродкі на аплату падатку на царкву. У ходзе следства дадаткова абвінавачаны ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці». Прыгавораны да 10 гадоў канцлагера і этапаваны ў УхтаПячорскі канцлагер. Паводле новага прыгавору лагернай тройкі НКУС, у 1938 годзе расстраляны «за антысавецкую агітацыю сярод зняволеных».

**Свяшчэннамучанік Дзімітрый Плышэўскі (188019.1.1938).** Нарадзіўся ў сяле Дубянец на Піншчыне ў святарскай сям'і. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У 1920-я гады служыў другім свяшчэннікам у вёсцы Узляны (цяпер Пухавіцкі раён). Арыштаваны ў 1930 годзе за нявыплату падатку на храм, але пасля допытаў быў адпушчаны. Пасля закрыцця Узлянскай царквы перайшоў служыць у прыход мястэчка Смалявічы. Зноў арыштаваны 26 верасня 1937 года паводле сфабрыкаванай справы «контррэвалюцыйнай паўстанцкай шпіёнскай арганізацыі». Расстраляны 19 студзеня 1938 года ў Мінску.

**Свяшчэннамучанік Мікалай Васюковіч (188226.9.1937).** Нарадзіўся ў вёсцы Коскі Мінскага павета, дзе бацька служыў у мясцовай царкве. Скончыў Мінскае духоўнае вучылішча. З 1913 года служыў псаломшчыкам, затым дыяканам у царкве Нараджэння Багародзіцы вёскі Ліцвяны Уздзенскага раёна. Арыштаваны ў 1937м за смелыя выказванні, якія выкрывалі беззаконні ўлад, і за нежаданне адрачыся ад сану. Расстраляны ў Мінску 26 верасня 1937 года.

## ДАБРАВЕРНАЯ КНЯГІНЯ ЕЎПРАКСІЯ ПСКОЎСКАЯ

***Памяць 16/29 кастрычніка***

### Трапар дабравернай Еўпраксіі Пскоўскай, глас 3

Молитвы и милостыни яко жертвы богоприятныя / приносила еси в житии твоем, / и яко Авелева кровь твоя от ближняго пролияся, / сего ради сугубым венцем увенчалася еси, // благоверная княгине Евпраксие, преподобномученице.

Малітвы і міласціны як ахвяры богаўгодныя / прыносіла ты ў жыцці тваім, / і, як Авелева, кроў твая ад бліжняга была праліта, / за гэта асаблівым вянцом увянчаная ты, // дабраверная княгіня Еўпраксія, прападобнамўчаніца.

Згодна з «Хронікай» Стрыйкоўскага, святая паходзіла з роду полацкіх князёў, адкуль была і прападобная Еўфрасіння Полацкая. Ускосна на гэта ўказвае і яе імя, распаўсюджанае на Полаччыне. Дасягнуўшы паўналецця, князёўна была выдадзена замуж за аднаго з мясцовых князёў, алепразнекаторычасаўдавела. Утрыццацігадовым узросце яна ўступіла ў шлюб з пскоўскім князем Яраславам з роду роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Яраслаў быў чалавекам няпростага характару, пскавічы неаднойчы выказвалі яму сваё незадавальненне. Ён бесперапынна вёў міжусобныя войны са сваякамі, абкладаў вялікімі падаткамі захопленыя гарады. Урэшце, ратуючыся ад татараў, князь уцёк у Лівонію, пакінуўшы сваю сям'ю і маёмасць. Папа Рымскі Грыгорый IX схіліў яго перайсці ў каталіцтва. Неўзабаве Яраслаў ажаніўся з немкай і атрымаў ва ўладанне нямецкі горад. Неаднойчы ён разам з нямецкімі рыцарамі нападаў на рускія землі.

Згодна з летапісным сведчаннем, пакінутая Еўпраксія вяла набожнае праведнае жыццё. На свае сродкі яна заснавала каля Пскова на беразе ракі Вялікай жаночы манастыр у гонар Нараджэння святога Іаана Прадцечы.

Праз некаторы час яна стала ігуменняй гэтага манастыра.

У той час князь Яраслаў пачаў дамагацца сваёй долі ў спадчыне, пакінутай у Пскове. Еўпраксія была запрошана ў Лівонію для сустрэчы з былым мужам. Там 8 мая 1243 года яна была забіта пасынкам, верагодна, сынам Яраслава ад шлюбу з лівонскай немкай. Мяркуюць, што ён меў намер забіць Еўпраксію, каб пазбавіцца ад прэтэндэнтаў «на пскоўскі стол».

Цела бязвінна забітай княгініігуменні было пахавана пад спудам пскоўскага манастырскага сабора ў гонар Іаана Прадцечы. Над яе грабніцай знаходзілася старажытная цудатворная святыня манастыра — ікона Спасіцеля, з якой праз дзесяць дзён пасля спачыну святой пачалося міратачэнне. Ікона ў народзе атрымала назву «Спасіцель Міратачывы». Пра гэта паведамляецца ў летапісах XIII стагоддзя. Пазней абапал іконы Спасіцеля, на двух дадатковых дошках з'явіліся выявы святой Еўпраксіі і дабравернай княгіні Марыі, жонкі дабравернага князя Даўмонта.

З XVIII стагоддзя імя Еўпраксіі пачало ўносіцца ў мясцовыя памяннікі і ўшаноўвацца на Пскоўскай, Наўгародскай і Полацкай землях. У XIX стагоддзі пры грабніцы Еўпраксіі захоўваўся настаяцельскі посах з чорнага дрэва, у саборы мелася ікона прападобнамучаніцы і сценапісная выява алейнымі фарбамі. На іконе «Усе святыя Расійскія вялікія князі, княгіні і княжны роду царскага» лік святой Еўпраксіі знаходзіцца побач з прападобнай Еўфрасінняй Полацкай.

У 1920-я гады пскоўскі ІаанаПрадцечанскі манастыр быў закрыты, грабніца разрабавана і знішчана. Толькі ў 1993 годзе аднавіўся прыходскі храм у гонар Нараджэння Іаана Прадцечы. Тады ж была выраблена грабніца, якую аздобілі вышытай парчовай іконай святой Еўпраксіі, тут жа змясцілі тэкст трапара, кандака і малітвы. Святая Еўпраксія ўшаноўваецца таксама ў Саборы Пскоўскіх святых.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК ПАЎЛІН, АРХІЕПІСКАП МАГІЛЁЎСКІ

**Палсяць *21 кастрычніка/3 лістапада***

**Трапар свяшчэннамучаніку Паўліну Магілёўскаму, глас 2**

Веры Православныя непорочный блюстителю / и заповедей Христовых усердный исполнителю, / священномучениче Павлине, / Христа всем сердцем возлюбив, / паству твою добре упасл еси. / В хладней Сибири мученическую смерть приял еси, / венцем славы украсился еси / и в вечней славе пребывая, // моли спастися душам нашим.

Веры Праваслаўнай беззаганны захавальнік, / і запаведзяў Хрыстовых руплівы выканаўца, / свяшчэннамучанік Паўлін, / Хрыста ўсім сэрцам узлюбіўшы, / паствою тваёю ты добра кіраваў. / У халоднай Сібіры мучаніцкую смерць прыняў ты, / вянцом славы ўпрыгожаны / і ў вечнай славе знаходзячыся, // малі, каб спасліся душы нашы.

Свяшчэннамучанік Паўлін (Пётр Кузьміч Крошачкін) нарадзіўся ў 1879 годзе ў вёсцы Керанкова Макшанскага павета Пензенскай губерні ў сям'і набожных Кузьмы і Еўдакіі. Рана страціўшы бацьку, гадаваўся пад апякунствам маці, якая вызначалася строгім дабрадзейным жыццём, а пазней прыняла манашаства. Навучаючыся ў Макшанскім гарадскім вучылішчы, Пётр наведваў богаслужэнні ў Макшанскім Казанскім манастыры, дзе яго ду шу глыбока кранула атмасфера ўзнёсласці і малітоўнасці спеваў. Там у будучага святара ўпершыню ўзнікла гарачае жаданне прысвяціць сваё жыццё служэнню Госпаду ў манашаскім чыне.

У час вучобы Пётр моцна захварэў. Дактары,

вычарпаўшы свае магчымасці, адмовіліся лячыць яго далей. Але па малітвах маці юнак папраівіўся. Ва ўдзячнасць Госпаду яна з сынам паехала ў Сароўскую пустынь, дзе юнак яшчэ больш умацаваўся ў намеры прыняць манашаства.

Ва ўзросце 16ці гадоў Пётр паступіў паслушнікам у Сароўскую пустынь. Там ён выконваўрозныя паслушанні на працягу некалькіх гадоў. Затым перайшоў у МіколаБабаеўскі манастыр, дзе яго прызначылі панамаром. Манастырскае начальства заўважыла асаблівыя здольнасці маладога паслушніка і яго імкненне да адукацыі. У 1904 годзе з дазволу ігумена ён накіраваўся ў Маскоўскі Наваспаскі манастыр, дзе нёс кліраснае паслушанне і настойліва займаўся самаадукацыяй. У 1910 годзе прыняў манашаскі пострыг з імем Паўлін у гонар свяціцеля Паўліна Міласцівага, епіскапа Ноланскага. Праз некаторы час ён паступіў у духоўную семінарыю, чатырохгадовы курс якой скончыў экстэрнам за адзін год. Пасля быў прыняты ў лік студэнтаў Маскоўскай духоўнай акадэміі, якую таксама з поспехам закончыў. Будучы іераманахам, а затым і архімандрытам Наваспаскага манастыра, сваім пранікнёным служэннем, прастатою і любоўю да бліжняга ён набыў павагу і вядомасць сярод масквічоў.

У 1921 годзе, калі шырыліся ганенні на Царкву, архімандрыт Паўлін быў прызваны на свяціцельскае служэнне. Хіратонію здзейсніў свяцейшы Патрыярх Ціхан, прызначыўшы ўладыку Паўліна епійсапам Рыльскім, вікарыем Курскай епархіі. За час служэння ў Курску ўладыка наведаў усе гарады епархіі, асабліва часта бываў у Пуціўльскім Молчанскім манастыры і Глінскай пустыні. У канцы 1922 года ўладыка Паўлін быў арыштаваны, перавезены ў Маскву і пасаджаны ў турму, нібы «за растрату хлеба і сродкаў, сабраных для галадаючых Паволжа». У турме ўладыка прабыў каля года, увесь час знаходзіўся ў адзіночнай камеры. Пазней ён

называў турму з адзіночнай камерай «другой акадэміяй». Вярнуўшыся ў Курск, ён заняў бескампрамісную пазіцыю адносна абнаўленцаў, у выніку хутка над ім зноў навісла пагроза арышту. Пасля закрыцця Рыльскага манастыра ўладыка Паўлін перабраўся ў Маскву.

У1925 годзе ўладыка Паўлін быў прызначаны епіскапам Полацкім. Аднак на месца прызначэння не выехаў, бо яму давялося займацца пытаннямі арганізацыі тайных выбараў Патрыярха, за што ён зноў быў арыштаваны. Усе жахі зняволення свяціцель пераносіў з выключнай пакорай і стойкасцю.

Пасля вызвалення ў 1927 годзе епіскап Паўлін атрымаў прызначэнне на Пермскую кафедру, а ў 19301933 гг. узначальваў Калужскую епархію. Акружаны любоўю простага народа, уладыка думаў застацца там надоўга.

Але ў жніўні 1933 года атрымаў прызначэнне ў Магілёў з тытулам архіепіскапа Магілёўскага. Гэта быў цяжкі час для праваслаўных вернікаў. У Магілёве з болын чым двух дзесяткаў праваслаўных храмаў дзейнічалі толькі тры. Уся царкоўная маёмасць была канфіскавана. Архіедіскап Паўлін наймаў прыватны пакой у доме сваіх прыхаджан Сітнікавых. Яшчэ раней, у студзені 1930 года, спецыяльна да свята Раждзества Хрыстовага ўлады загадалі зняць з магілёўскіх цэркваў званы і пераплавіць, а атрыманыя ад продажу металу грошы накіраваць на набыццё антырэлігійнай літаратуры. Улады вялі «рашучую барацьбу» з Царквою, любыя дзеянні духавенства абвяшчаліся контррэвалюцыйнымі і антынароднымі.

Архіепіскап Паўлін вызначаўся міласэрнасцю, праўдзівасцю, моцай веры, шмат каму дапамагаў матэрыяльна. Паства і мясцовае духавенства плацілі яму сваёй любоўю і павагай. Усё гэта садзейнічала ўмацаванню аўтарытэту Царквы ў Магілёве і епархіі.

2 кастрычніка 1935 года архіепіскап Паўлін быў арыштаваны магілёўскім аддзелам НКУС БССР і

пасаджаны ў магілёўскую турму. Затым яго перавялі ў Мінскую ўнутраную турму НКУС. На судзе архіепіскап не адрокся ад сваіх перакананняў, вызнаваў веру ў Бога і адмаўляўся ад усіх паклёпніцкіх абвінавачанняў. Паводле прысуду спецкалегіі Вярхоўнага суда БССР ад 21 красавіка 1936 года ён быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены ў НоваІванаўскае аддзяленне Сіблага НКУС Кемераўскай вобласці.

Знаходзячыся ў лагеры, архіепіскап Магілёўскі зноў быў асуджаны і пастановай лагернай тройкі ўпраўлення НКУС ЗаходнеСібірскага краю ад 28 кастрычніка 1937 года прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Смяротны прыгавор выкананы 3 лістапада таго ж года. Месца пахавання свяшчэннамучаніка невядома.

Рэабілітаваны свяціцель быў 15 сакавіка 1989 года паводле пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

У 2000 годзе на Архіерэйскім саборы РПЦ архіепіскап Паўлін быў праслаўлены ў ліку навамучанікаў Расійскіх, а ў 2002 годзе далучаны да Сабору Беларускіх святых.

Свяшчэннамучанік Паўлін асабліва ўшаноўваецца ў Магілёўскм Мікольскім манастыры, дзе маецца ікона свяціцеля, а таксама захоўваецца яго архіерэйскі Службоўнік. На магілёўскіх Машэкаўскіх могілках пахавана маці свяціцеля.

## ПРАПАДОБНЫ ЕЛІСЕЙ ЛАЎРЫШАЎСКІ

***Памяць 23 кастрычніка/5 лістапада***

**Трапар прападобнаму Елісею Лаўрышаўскаму, глас 3**

Преподобне отче наш Елисее, / с Лаврентием чудным подвизался еси, / учителю своему подражая, / земную славу и честь стопам Христа повергли есте, / темже Господь увенча вас, нетленным венцем славы Своея.

Прападобны ойча наш Елісее, / з Лаўрэнціем дзіўным

падзвізаўся ты, / настаўніку свайму наследуючы; / зямную славу і гонар да ног Хрыста паклалі вы, / таму Гасподзь увянчаў вас нятленным вянцом славы Сваёй.

З годна са спіскам жыцця, які захоўваўся ў Лаўрышаўскім манастыры, Елісей быў сынам літоўскага князя Трайната, займаў высокую пасаду пры двары вялікага князя Міндоўга. Прыняўшы хрышчэнне, у 1225 годзе Е л ісей пакіну ў пры д ворну ю службу і адышоў у пустынь. Праз некаторы час разам з адным праваслаўным манахам на ўласныя сродкі ён заснаваў Лаўрышаўскі манастыр на рацэ Нёман. Пазней у гэтай абіцелі жыў і вялікі князь літоўскі Войшалк, сын Міндоўга.

У XIII стагоддзі манастыр, заснаваны прападобным Елісеем, быў духоўным і культурным цэнтрам Вялікага княства Літоўскага. Тут вялося летапісанне. Каля 1329 года для Лаўрышаўскага манастыра было напісана пергаментнае рукапіснае Евангелле — помнік беларускага кнігапісання. Яно захавалася да нашага часу і цяпер знаходзіцца ў Кракаве. У XVI стагоддзі пры манастыры дзейнічала школа, мелася багатая бібліятэка. Акрамя асноўнага храма ў гонар Нараджэння Багародзіцы, тут была ўзведзена Уваскрасенская царква.

У жыцці паведамляецца, што Елісей быў забіты беснаватым юнакомс лу гой у ноч на 23 кастрычніка 1250 года. Прападобны Елісей быў пахаваны ў заснаваным ім манастыры. Верагодна, праз некаторы час адбылося аднойдзенне мошчаў, бо паводле сведчанняў крыніц XVII стагоддзя, мошчы святога спачывалі адкрыта. Захаваліся звесткі пра цуды, якія адбываліся па малітвах пры грабніцы святога. Жыцце паведамляе, што аднойчы, выпадкова дакрануўшыся да мошчаў святога Елісея, ацаліўся беснаваты.

У 1506 годзе крымскія татары, спустошыўшы ваколіцы Наваградка, наблізіліся да Лаўрышаўскага манастыра. Гасподзь зноў явіў цуд праз Свайго ўгодніка:

татарам здалося, што манастырскі двор запоўнены адборнай конніцай, і яны ў страху павярнулі назад. Магчыма, гэты цуд стаў нагодай да кананізацыі прападобнага Елісея Кіеўскім мітрапалітам Іосіфам II Солтанам на саборы, які адбыўся ў 1514 годзе ў Вільні. Памяць пра святога захоўвалася ў Лаўрышаўскім манастыры і ў XVII стагоддзі, пасля падпарадкавання яго ўніятам.

У час адной са спусташальных войнаў (верагодна, Паўночнай 17001721 гг.) манастыр быў спалены, а мошчы святога брація паспела схаваць у зямлі.

Адраджэнне абіцелі адбылося ў 17751780 гады як праваслаўнай. Аднак у 1836 годзе манастыр быў скасаваны зза малалікасці насельнікаў і беднасці. Манастырскі храм стаў прыходскім. У сярэдзіне XIX стагоддзі мошчы святога Елісея спачывалі пад спудам храма.

У 1913 годзе па благаславенню епіскапа Мінскага і Тураўскага свяшчэннамучаніка Мітрафана (Краснапольскага) манастыр быў адроджаны як падвор'е Мінскага архіерэйскага дома. Ктытарам манастыра стаў граф ХраптовічБуцянёў. 14 ліпеня таго года адбылося асвячэнне манастырскага храма ў гонар прарока Елісея. Аднак ужо ў 1915 годзе ў час ваеннных дзеянняў храм згарэў. Пасля гэтага манастыр перастаў існаваць.

У 1993 годзе ў вёсцы Гнесічы, непадалёк ад былога манастыра, асвячона месца пад будаўніцтва новага храма. Завяршэнне будаўніцтва і асвячэнне ў імя святога Елісея Лаўрышаўскага адбылося ў 1998 годзе. У 2007м у абіцелі ўзноўлена манашаскае жыццё.

З 1984 года прападобны Елісей ушаноўваецца ў Саборы Беларускіх святых. У гонар прападобнага асвячоны храм у вёсцы Мінойты Лідскага раёна. У Навагрудку, вёсцы Лаўрышава, а таксама на тэрыторыі Свята-Елісееўскага манастыра адкрыты помнікі святому. Пачынаючы з 2000 года штогод напярэдадні святкавання

памяці прападобнага Елісея здзяйсняюцца хрэсныя ходы з Навагрудка ў Лаўрышаўскі манастыр. У раённым цэнтры праходзяць Свята-Елісееўскія царкоўнагістарычныя чытанні з удзелам навукоўцаў, царкоўных гісторыкаў, настаўнікаў раёна.

## СВЯШЧЭННАМУЧАНІК ІААСАФ, ЕПІСКАП МАПЛЁЎСКІ

***Памяць 22 лІстапада/5 снеЬкня***

**Трапар свяшчэннамучаніку Іаасафу Магілёўскаму, глас 3**

Церкве Русския столпе непоколебимый, / благочестия правило, жития евангельскаго образе, / священномучениче Иоасафе, /Христа ради пострадавый даже до крове, / Егоже моли усердно, яко Начальника и Совершителя спасения, / Русь Святую утвердити в Православии до скончання века.

Царквы Рускай стоўп непахісны, / прыклад набожнаці, узор жыцця евангельскага, / свяшчэннамучанік Іаасафе, / дзеля Хрыста пакутаваў ты нават да крыві, / Яго ж малі старанна, як Пачынальніка і Здзяйсняльніка спасення, / Русь Святую ўмацаваць у Праваслаўі да сканчэння веку.

Жыццёвы шлях епіскапа Іаасафа (Жавахава) незвычайны для архіерэяў Рускай Праваслаўнай Царквы, якія прынялі епіскапскі сан пасля 1917 года. Калі ў Расійскай імперыі здаралася, хаця і зрэдку, што выхадцы з арыстакратычных родаў станавіліся манахамі і свяшчэннікамі, то пры новай уладзе такі выбар заўсёды адкрываў шлях на Галгофу. Нягледзячы на гэта, менавіта такі шлях свядома абраў князь Уладзімір Жавахаў, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю як епіскап Магілёўскі і, па некаторых звестках, Мінскі.

Жавахавы — абрусеўшая галіна старадаўняга

грузінскага княжага роду Джавахавых. У XVIII стагоддзі яны прынялі расійскае падданства і пасяліліся ў Палтаўскай губерні. За паўтара стагоддзя парадніліся шмат з якімі мясцовымі дваранскімі родамі.

Будучы епіскап Магілёўскі — князь Уладзімір Давыдавіч Жавахаў — нарадзіўся ў 1874 годзе. Скончыўшы юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта, пачаў звычайную для людзей свайго кола кар'еру чыноўніка губернскага ўзроўню. Пры гэтым Жавахаў быў сябрам некалькіх царкоўных брацтваў і дабрачынных таварыстваў. У 1911 годзе ўдзельнічаў ва ўсерасійскім праслаўленні свяціцеля Белгародскага Іаасафа (Гарленкі), бо па жаночай лініі быў у сваяцтве з гэтым угоднікам Божым. Тым не менш наўрад ці князь думаў тады пра магчымасць самому стаць на шлях святарскага служэння.

Усё змяніла рэвалюцыя і грамадзянская вайна. Новая ўлада неаднаразова пагражала князю расправай, але Гасподзь кожны раз ахоўваў Свайго абранніка — і ў час арышту, і ў турмах, калі быў на валаску ад смерці.

Выйшаўшы на волю ў 1924 годзе, Жавахаў звярнуўся да Свяцейшага Патрыярха Ціхана, каб папрасіў благаславення прыняць манашаскі пострыг. Гэты крок быў незвычайным для «новай эры», якая непазбежна наступала. Духавенства цярпела жорсткія ганенні, а князь (па тэрміналогіі тагачасных улад— «контра», «збылых»)такім выбарам толькі «ўзмацніў сваё небяспечнае становішча». Як юрыст князь разумеў немінучасць рэпрэсій, але як хрысціянін вырашыў да канца быць разам з Хрыстом.

Манашаскі пострыг адбыўся ў Зверынецкім скіце горада Кіева. Гэта было невыпадкова. Раней там існавалі пячоры, накшталт вядомых кіеўскіх. Але тое месца было даўно закінута і забыта, адраджэнне яго пачалося толькі ў 1911 годзе. Тады князь Уладзімір Жавахаў стаў асноўным дабрачынцам Зверынецкага скіта. За свае сродкі ён арганізаваў раскопкі старажытных пячор і пабудову

надпячорнага храма, які быў асвячоны ў гонар Нараджэння Багародзіцы, а адзін прыдзел — у імя свяціцеля Іаасафа Белгародскага. І вось у гэтым скіце Жавахаў сам стаў на манашаскі шлях. Пры пострыгу ён атрымаў новае імя — Іаасаф.

У 1926 годзе Іаасаф (Жавахаў) быў рукапалажаны ў архіерэйскі сан і прызваны на епіскапскае служэнне. Многія архіерэі да таго часу былі забіты, яшчэ больш іх пакутавала ў высылках і лагерах. Але былы князь не адмовіўся ад свайго крыжовага шляху. Адразу пасля хіратоніі пачалося яго хаджэнне па пакутах — турмы, высылкі…

У 1930-я гады епіскап Іаасаф атрымаў указ аб прызначэнні ў Магілёў, але прыехаць у горад на Дняпры па незалежачых ад яго прычынах не змог. Тым не менш тытул епіскапа Магілёўскага заставаўся за ім, а паводле некаторых дакументаў, ён тытулаваўся таксама і Мінскім. Жыў архіерэй у Белгарадзе, а потым у Баровічах Ленінградскай вобласці.

У 1937 годзе ўладыку зноў арыштавалі. Курскі аддзел НКУС пачаў грандыёзную кампанію па раскрыццю «контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі царкоўнікаў». Жавахаву прыпісвалася роля аднаго з «кіраўнікоў арганізацыі». Акрамя антысавецкай агітацыі яго абвінавачвалі ў «падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта на чыгуначнай станцыі Белгарад з мэтай узарваць цягнік з таварышам Сталіным і іншымі бальнавіцкімі правадырамі». Епіскап Іаасаф, нягледзячы на катаванні, вінаватым сябе не прызнаў. Згодна з пастановай тройкі НКУС ён быў расстраляны ў Курску 4 снежня 1937 года, на свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы.

Найбольш вядомая кніга свяшчэннамучаніка Іасафа (Жавахава) — «Малітва Свяціцеля Іаасафа, Белгародскага і ўсяе Расіі Цудатворца (17051754)». Выдадзеная ў 1912 годзе ў Кіеве, яна неаднойчы перавыдавалася. Сярод мноства хрысціянскіх малітваў свяшчэннамучанік

выдзеліў асаблівую, якую склаў свяціцель Іаасаф Белгародскі. Яе штодня паўтараў і свяшчэннамучанік Іаасаф. Малітва пачынаецца словамі: «Няхай будзе благаславёны той дзень і час, калі Гасподзь мой Ісус Хрыстос дзеля мяне нарадзіўся, распяцце перацярпеў і да смерці пакутаваў...» Калі мы прамаўляем яе сёння, мы ўсялякі раз праслаўляем Бога — Подзвіганатхняльніка навамучанікаў і вызнаўцаў, шанаванне якіх дапамагае нам «не знемагчы і не аслабнуць душамі» (Яўр. 12,3).

Рашэннем Сінода Рускай Праваслаўнай Царквы 17 ліпеня 2002 года свяшчэннамучанік Іаасаф далучаны да Сабору навамучанікаў і вызнаўцаў Расійскіх. Царкоўнае праслаўленне свяшчэннамучаніка Іаасафа (Жавахава) адбылося 6 жніўня 2002 года ў Магілёве.